Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літ
Літаратура
і мастацтва

ISSN 0024-4686

№37 (4632) 16 верасня 2011 г.

У нумары:



# Двойчы з першапраходцаў

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Не так часта здараецца ў літаратурным жыцці, каб адзін і той жа пісьменнік двойчы выступаў як першапраходца. Але Віталь Вольскі, з дня нараджэння якога споўнілася сто дзесяць гадоў, акурат і адносіўся да такіх, калі можна так сказаць, шчаслівых.**



В. Вольскі належаў да тых, хто стаяў ля вытокаў беларускай дзіцячай драматургіі, што фарміравалася ў першыя дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя. Канечне, калі мець на ўвазе фальклорныя творы — розныя сцэнкі, дыялогі, разлічаныя на дзіцячае ўспрыманне, — то яны дайшлі да нас з мінуўшчыны. Аднак першы ўласна аўтарскі твор з’явіўся толькі ў 1912 годзе: гэта быў “Снатворны мак” Кандрата Лейкі, пазначаны ім як “сцэна для дзіцячых тэатраў”. Двума гадамі пазней быў надрукаваны сцэнічны абразок у двух актах Змітрака Бядулі “Смерць пастушкі”. Пазней да дзіцячай драматургіі спрычыніліся Францішак Аляхновіч, Алесь Гарун, Міхась Чарот. Але менавіта В. Вольскі ў гэтай галіне літаратуры зрабіў асабліва шмат.

Яшчэ ў маленстве ён зацікавіўся фальклорам. Пазней знаёмства з лепшымі ягонымі ўзорамі, а таксама разуменне, наколькі беднымі на той час былі набыткі беларускай дзіцячай драматургіі, выклікалі ў В. Вольскага жаданне самому выступіць у гэтым жанры. Першая яго п’еса — казка “Цудоўная дудка” — з’явілася ў 1938 годзе, а праз год адбылася пастаноўка. Дарэчы, ёй суджана было стаць першым арыгінальным нацыянальным спектаклем у Тэатры юнага гледача. У гэтай п’есе аўтарам творча выкарыстаныя элементы некалькіх народных казак. Галоўным жа героем стаў просты сялянскі хлопец Янка, абаронца бедных, абяздоленых, барацьбіт за праўду і справядлівасць.

Фальклорныя матывы В. Вольскі выкарыстаў і ў наступнай сваёй п’есе-казцы — “Дзед і жораў”. У ёй, як і ў “Цудоўнай дудцы”, шмат прыказак і прымавак, якія арганічна ўваходзяць у сюжэтную канву твора. Разам з тым навідавоку свабодны палёт аўтарскай фантазіі, што дазваляе дапоўніць ужо вядомае, робіць яго больш фантастычным, неверагодным, а значыць, і прывабным. Асабліва для дзяцей, каму гэтыя творы і адрасаваныя.

Набыты вопыт, адшліфаванасць пяра асабліва спатрэбіліся Віталю Фрыдрыхавічу падчас працы над п’есай “Несцерка”, якой наканавана было стаць ягоным галоўным драматургічным творам. У 1941-м гэтая п’еса была адзначаная першай прэміяй на Усесаюзным конкурсе на лепшы драматургічны твор. У тым жа годзе яна набыла сцэнічнае ўвасабленне, і па сённяшні дзень спектакль па ёй, які перажыў не адну рэдакцыю, з’яўляецца свайго роду візіткай Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. “Несцеркам” нязменна адкрываецца кожны яго чарговы сезон.

У 1946 годзе В. Вольскі напісаў і п’есу “Машэка”, якая была пастаўленая толькі ў 1956 годзе. Праўда, лёс спектакля па ёй аказаўся куды менш шчаслівы. Робячы ўласны варыянт падання пра знакамітага разбойніка, свайго роду беларускага Робін Гуда, які таксама выступаў абаронцам бедных, драматург тут, у параўнанні са сваімі іншымі п’есамі, не здолеў даць фальклорнай аснове належнае мастакоўскае асэнсаванне.

Вялікая роля Віталя Фрыдрыхавіча і ў развіцці мастацка-краязнаўчай літаратуры для дзяцей. Сёння, як вядома, у гэтым кірунку паспяхова працуюць шмат якія пісьменнікі. В. Вольскі на той час меў толькі аднаго папярэдніка — Янку Маўра. Але працаваў настолькі паспяхова, што здолеў за параўнальна кароткі прамежак часу стварыць цэлую бібліятэчку, што дазваляе спасцігнуць Беларусь праз адметнасць, харастnumbers прыроды: “Па лясных сцежках”, “У лясах над Бярозай”, “Месяц за месяцам”, “У бабровых азёрах”, “Чайкі над Нараччу”, “Палессе” і іншыя. Сярод ягоных мастацка-краязнаўчых кніг вылучаецца “Падарожжа па краіне беларусаў”, якая цяпер успрымаецца папярэдніцай знакамітага нарыса Уладзіміра Караткевіча “Зямля пад белымі крыламі”.

Пішучы сваё “Падарожжа па краіне беларусаў”, В. Вольскі, каб прывабіць юнага чытача, знайшоў арыгінальны прыём. Успомніўшы любоў дзяцей да казак, прапанаваў хлопчыкам і дзяўчынкам адправіцца ў палёт над роднай старонкай на незвычайным кіліме-самалёце, каб, па меры неабходнасці, рабіць прыпынкі ў тым ці іншым месцы, пры гэтым пераносячыся і на шмат гадоў назад. Дарэчы, першая частка кнігі называецца “Палёт праз стагоддзі”.

Праносіцца, быццам вецер той, кілім-самалёт над матухнай-Беларуссю, паступова апускаецца... Але што гэта? Паўсюдна, як кінуць вокам, пасуцца дзіўныя жывёлы. Няўжо зубры? В. Вольскі адразу паведамляе дзецям, што зубры ў далёкія часы жылі на ўсёй тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны.

Але не толькі зуброў можна ўбачыць, калі ляцець на кіліме-самалёце, але і мамантаў, насарогаў… І кожны чарговы круг пераносіць нават не праз стагоддзі ўжо, а праз тысячагоддзі, усё больш і больш набліжаючы падарожнікаў да дня сённяшняга. А тут іх чакае таксама нямала цікавага: большую частку кнігі займаюць раздзелы “Падарожжа па сталіцы” і “На прасторах Беларусі”. Першае выданне гэтай кнігі з’явілася ў 1968 годзе. Яна пабачыла свет у той час, калі афіцыйная ідэалогія не надта ўважліва ставілася да нацыянальнай гісторыі. Тым больш ухвальна тое, што зрабіў В. Вольскі, па сутнасці абагнаўшы свой час, падказаўшы іншым пісьменнікам, як неабходна ставіцца да гісторыі, каб пазнаёміць з ёю дзяцей.

Напісаў Віталь Фрыдрыхавіч і кнігі, прысвечаныя больш экзатычным краінам — “Афрыканскае падарожжа” і “Эль Махрыб”. У аснове іх — назіранні падчас вандровак у Сенегал, Бераг Слановай Косці, Гвінею, Туніс, Марока…

Увогуле, В. Вольскі быў пісьменнікам шматграннага таленту. Літаратурную дзейнасць ён пачаў у 20-я гады мінулага стагоддзя, калі вывучаў старажытную рукапісную літаратуру беларускіх татараў — кітабы. Адначасова выступаў як тэатральны крытык. Першай ягонай кнігай стала даследаванне “Праблемы беларускай савецкай драматургіі”. Напісаў манаграфію “Эдуард Самуйлёнак”, “Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму”, стаў адным з аўтараў дапаможніка для студэнтаў ВНУ “Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры”, падручніка “Беларуская савецкая літаратура” для 9—10 класаў, які вытрымаў сем выданняў. Па сцэнарыях Віталя Фрыдрыхавіча пастаўлены дакументальна-краязнаўчыя фільмы “Белавежская пушча” і “Бярэзінскі запаведнік”. Ён пераклаў на беларускую мову сатырычную паэму І. Гётэ “Рэйнеке-Ліс”, раманы В. Брэдэля “Выпрабаванне” і М. Кульбака “Зельманцы”.

## Пункцірам

Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. На заахвочванне творча адораных прадстаўнікоў маладога пакалення і стварэнне ўмоў для развіцця іх здольнасцей вылучана 373 мільёны рублёў. З гэтых грошай будзе назначана 22 стыпендыі, выплачана 17 прэмій, 16 заахвочвальных прэмій і 4 гранд-прэміі фонду лаўрэатам міжнародных і нацыянальных фестываляў і конкурсаў.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Аляксандра Разенбаума з 60-годдзем. "Няхай і ў далейшым ваша дзейнасць прыносіць людзям радасць, спрыяе ўмацаванню дружбы і культурных сувязей паміж нашымі народамі", — адзначаецца ў віншаванні.

Дні культуры Рэспублікі Беларусь распачаліся сёння ў Літве. У межах фэсту літоўскаму гледачу будуць паказаны спектаклі беларускіх тэатраў, адбудзецца XVI Свята беларускай песні, пройдзе канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава. Аматары кіно змогуць пазнаёміцца з новымі беларускімі кінастужкамі. Завершацца Дні культуры балетам "Спартак" Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

У Навагрудку адкрыты Памятны знак да 500-годдзя атрымання горадам магдэбургскага права. Юбілей быў адсвяткаваны шырока і ярка.

У Магілёўскай вобласці стартаваў Міжнародны пленэр па жывапісе "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве". У пленэры прымаюць удзел 30 мастакоў з сямі краін. Жывапісцы будуць працаваць у Тульскай вобласці, у Дзяржаўным музеі-запаведніку Васілія Паленава і на Мсціслаўшчыне, радзіме выдатнага гісторыка і тэарэтыка мастацтва Андрыяна Прахава. Вынікам пленэру стане выстаўка, якая пройдзе ў Магілёве ў рамках XII Міжнароднага музычнага фестывалю "Залаты шлягер-2011".

Палац Радзівілаў у Нясвіжы пасля рэстаўрацыі будзе адкрыты ў снежні гэтага года. У бліжэйшыя дні плануецца падпісанне акта ўводу яго ў эксплуатацыю. Цяпер самая актыўная работа вядзецца над стварэннем музейнай экспазіцыі.

Рэспубліканскі конкурс эстрадных выканаўцаў "Белазаўскі акорд" пройдзе 23—25 верасня ў Жодзіне. На сцэне Палаца культуры выступяць маладыя (ад 16 да 25 гадоў) спевакі з розных гарадоў Беларусі і з расійскага Жалезнагорска. Конкурс існуе ўжо 10 гадоў, ён праводзіцца пад патранатам Беларускага аўтамабільнага завода і Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці.

Пажар на тэрыторыі музея "Дудуткі" нанёс істотную шкоду яго калекцыі. Ад агню пацярпела каля 600 квадратных метраў плошчы, згарэла этнаграфічная галерэя з экспанатамі. Аднак работнікам музея яшчэ да прыезду пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікі ўдалося эвакуіраваць наведвальнікаў і вывесці з гаража 10 рарытэтных аўто. Следства высвятляе абставіны ўзнікнення пажару.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Задачы напярэдадні з'езда

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Чарговае пасяджэнне Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі сталася прысвечаным падрыхтоўцы да з'езда, які мае быць у сярэдзіне кастрычніка. Аднак перад тым як распачаць гутарку пра прыемны арганізацыйны клопат, члены Прэзідыума павіншавалі калег па пяры — пісьменнікаў Таццяну Шамякіну і Сяргея Давідовіча, — якія сталі пераможцамі літаратурнага конкурсу "Лепшы твор года", але не прысутнічалі на цырымоніі ўручэння ўзнагарод на Дні беларускага пісьменства ў Ганцавічах.**

Пасля гэтага быў зачытаны парадак дня, дзе першым пытаннем стаяла размеркаванне абавязкаў членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі падчас правядзення з'езду. Было адзначана, што дэлегатамі будуць лічыцца ўсе сябры творчага саюза і што чакаецца ўнушальнае замежнае прадстаўніцтва. Запрашэнні былі разасланы пісьменнікам з 28 краін, прадстаўнікі яшчэ некалькіх замежных творчых саюзаў самі звярнуліся з просьбай дазволіць ім прыняць удзел у нашым з'ездзе. З'езд плануецца як двухдзённы. Пачне работу ён 17 кастрычніка. Тым з нашых замежных гасцей, якія застануцца ў Мінску 19 кастрычніка, будзе прапанавана стаць удзельнікамі "круглага стала", прысвечанага праблемам сучаснай літаратуры і сучаснага літаратара ў грамадстве.

Улічваючы вялікі аб'ём пытанняў, што будуць разглядацца падчас з'езда, і ўнушальную колькасць запланаваных выступленняў, было прапанавана выпусціць пасля з'езда зборнік матэрыялаў, у які б увайшлі і тыя вітальныя словы, віншаванні, паведамленні, якія не будуць агучаны з трыбуны. Паводле матэрыялаў Міжнароднага "круглага стала" таксама плануецца выпусціць зборнік.

Другім пытаннем, якое разглядалася на пасяджэнні Прэзідыума, было аказанне матэрыяльнай дапамогі малазабяспечаным пісьменнікам, падчас хваробы, а таксама юбілярам. Вырашалася пытанне і адраснай дапамогі маладым літаратарам. Падтрымана прапанова вылучыць дзесяць стыпендый для таленавітых маладых людзей, якія звернуцца ў Саюз з самымі цікавымі творчымі ідэямі і праектамі. Стыпендыі будуць выплачвацца год. Па заканчэнні года стыпендыят мусіць прадставіць пісьменніцкай камісіі гатовы твор. Узрост тых, хто зможа прэтэндаваць на стыпендыю Саюза пісьменнікаў Беларусі, не павінен перавышаць 35 гадоў.

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**Дзіяна Ігараўна ГРЫШУКЕВІЧ**
**публіцыст**

Нарадзілася 9 чэрвеня 1990 года ў Мінску. Студэнтка факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкавалася ў часопісах "Новая Немига литературная", "Российский колокол" (Масква), "Дон" (Растоў-на-Доне), "День и ночь" (Краснаярск). Аўтар кнігі "Облики любви" (2010).



**Таццяна Марына Аляксееўна ЛАЙКОВА (Помаз)**
**паэтэса**

Нарадзілася 26 студзеня 1975 года ў Барысаве. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Кіраўнік тэатральнай арт-студыі "Махаон" у ДУА "Цэнтр пазашкольнай працы і тэхнічнай творчасці навучэнцаў Барысаўскага раёна". Друкавалася ў часопісах "Нёман", "Наш современник". Аўтар зборніка вершаў "Дымчатые кони" (2010).



**Наталля Віктараўна САВЕТНАЯ**
**публіцыст**

Нарадзілася 29 красавіка 1956 года ў п. Янтарны Прыморскага раёна Калінінградскай вобласці. Скончыла Ленінградскі дзяржаўны ўніверсітэт. Кандыдат псіхалагічных навук. Дырэктар, вядучы псіхолаг ААТ "Псіхалагічны рэабілітацыйны цэнтр"МИРВЧ" у г. Гарадок Віцебскай вобласці. Аўтар кнігі "За краем света" (2010).

## Круглы стол

# Згода — аснова культурнай разнастайнасці

Ірына КАРЭЛІНА

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбыўся "круглы стол" на тэму «Культурная спадчына і рэлігія», прымеркаваны да Дзён еўрапейскай спадчыны ў Беларусі. Адкрываючы сустрэчу, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Віктар Кураш зазначыў, што сярод прыярытэтаў, якім наша дзяржава надае ўвагу, — падтрымка і распаўсюджванне ведаў пра сваю гісторыю і культуру.**

Падчас пасяджэння адзначалася, што на многіх культурных аб'ектах рэстаўрацыйныя работы вядуцца без дазволу адпаведных устаноў. У выніку парушаюцца мастацкія асаблівасці будынкаў. Старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны звярнуў увагу на тое, што паміж уласнікамі такіх пабудоў і мясцовымі ўладамі адсутнічае дыялог. Так, у некаторых населеных пунктах дзеля захавання драўляных цэркваў выкарыстоўваюць сайтынг ці металічныя лісты. Ён падкрэсліў, што "трэба захоўваць аўтэнтычнасць існуючых культурных помнікаў, а таксама ўлічваць гістарычныя стылі пры будаўніцтве новых храмаў". Ксёндз Ігар Лашук зазначыў: Міністэрства культуры і каталіцкі касцёл павінны імкнуцца да супрацоўніцтва.

"Мы ўражаны тым, якую ўвагу беларускія ўлады надаюць захаванню сваёй культурна-гістарычнай спадчыны", — сказаў начальнік міжнароднага аддзела Дэпартамента па культурнай спадчыне пры Міністэрстве культуры Літоўскай Рэспублікі Альфрэдас Ёмантас. — Я лічу, што гэты "круглы стол" — сапраўды еўрапейскі варыянт вырашэння праблемы".

Шмат слушных прапаноў прагучала на сустрэчы. У прыватнасці, вырашана правесці навукова-практычны семінар, прысвечаны праблемам аховы, рэстаўрацыі і выкарыстання помнікаў сакральнай спадчыны, падтрымаць ідэю ўключыць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей дасье "Святкаванне ўрачыстасці ў гонар Будслаўскай іконы Божай Маці" і "Мастацтва званароў Заходняй Беларусі". Плануецца разгледзець магчымасць выдання альбома "Фрэскі Спаса-Еўфрасіньеўскай царквы ў Полацку".

## За падзеяй

# Адзначаны з густам

Лізавета БАГАДЗЯЖ

Мода адзначаць Дні горада прыйшла да нас з глыбіннага сярэднявечча. Толькі раней іх прымяркоўвалі да дня ўшанавання святога патрона горада. У святочных мерапрыемствах, канечне, галоўным персанажам станавіўся сам святы — абраз, скульптура, батлеечная лялька, артыст, які выконваў яго ролю.

Дзень горада Мінска, як, дарэчы, і дні іншых нашых гарадоў, сёння выглядае цалкам сучасна. У гэтыя дні на вуліцах і плошчах гарадоў пануе мастацтва.

Сёлета замест аднаго дня Мінск святкаваў ажно тры. Спачатку, 9 верасня, у музеі З. Азгура прайшла творчая акцыя "Мінск скульптурны", падчас якой заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі В. Сумараў правёў майстар-клас па разьбе па гіпсе. Культурную эстафету на наступны дзень прынялі музыканты, якія арганізавалі ў Траецкім прадмесці Дзень вулічнай музыкі. Роднаму гораду падарыў выстаўку графічных работ "Белы горад Белай Русі" мастак Уладзімір Шаркоў — яна экспанавалася ў Доме Масквы. Супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея і "Цэнтра моды" падрыхтавалі сучасны праект "Вераснёўская ноч". Аматараў прыгожага 11 верасня чакала святочная праграма ў Цэнтральным батанічным садзе Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — шыкоўныя восеньскія кветкі, акадэмічная і эстрадная музыка, тэатр танца "Менада", майстар-класы па прыкладным мастацтве і выступленне членаў рыцарскіх клубаў Беларусі. Усё ж такі без подыху сярэднявечча ў адзначэнні гэтага цалкам сучаснага свята не абышлося.

## Фестывалі

# Класіка, пластыка і сучасная драма

Алена ДРАПКО

**У Мінску з 25 верасня па 2 кастрычніка ў восьмы раз збярэ сваіх прыхільнікаў, удзельнікаў і гасцей Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў "Тэатральны куфар-2011", які ладзіць Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.**

У год свайго 90-гадовага юбілею вядучая ВНУ запрасіла 29 тэатраў з 16 краін свету, сярод якіх Беларусь, Расія, Украіна, Польшча, Літва, Латвія, Эстонія, Харватыя, Славенія, Германія, Сербія, Грузія, Ізраіль, Марока, Бразілія і Нідэрланды. Адкрыццё фестывалю плануецца ва ўнутраным дворыку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яго адметнасцю стане прэм'ера разнажанравага дзеяння тэатра з Польшчы, якое спалучае некалькі відаў мастацтва: тут і архітэктура, і жывапіс, і відэаарт, і тэатр, і танец. Спецыяльным праектам гэтага года будзе пазаконкурсны шоу-кейс беларускіх студэнцкіх тэатраў KOUFAR.BY. У гэтым праекце прымуць удзел сем мінскіх тэатраў. Акрамя таго, чатыры студэнцкія тэатры можна будзе ўбачыць у конкурснай праграме. А тэатры "На балконе" і "На філфаку" БДУ гэтым разам выступяць як госці.

Адным з нававядзенняў гэтага фестывалю будзе наступнае: патрапіць на спектакль змогуць тыя, хто набудзе білеты, якія будуць рэалізоўвацца ў касах горада, у касах "TICKETPRO" і на сайце ticketpro.by. Праграма досыць насычаная: класіка, пластыка, сучасная драма. У восьмы раз сталічным гледачам прадаставіцца магчымасць здзейсніць падарожжа па свеце і паглядзець на яго вачыма маладых і таленавітых аўтараў.

Літабсягі

# Прозвішча, якое абавязвае

**У выдавецтве “Чатыры чвэрці” ўбачыла свет кніга Музы Заслонавай “Прозвішча: Гульні ХХ стагоддзя. Сямейныя хронікі”, прадмову да якой напісаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.**



**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Старэйшая дачка Героя Савецкага Саюза Канстанціна Заслонава аднойчы дала сабе слова напісаць кнігу пра бацьку. Не літаратурны твор, у якім ёсць месца выдуманым персанажам, а дакументальна вывераную кнігу, старонкі якой патлумачылі б нашчадкам, як фарміравалася асоба таго, хто ў цяжкі ваенны час аб’яднаў дробныя партызанскія атрады ў Аршанскую партызанскую брыгаду, узначаліў яе і паспяхова змагаўся з ворагам. Чалавек, які не кланяўся кулям, здолеў стаць легендай. Ён загінуў смерцю храбрых у 1942 годзе. Ці мог інакш скласціся яго лёс? Якія тайны ён не раскрыў нават блізкім? Пошукам адказаў на гэтыя і іншыя пытанні і стварэнню кнігі пра бацьку Муза Канстанцінаўна прысвяціла значную частку свайго жыцця: руплівa збірала матэрыял, сустракалася з людзьмі, якія ведалі Канстанціна Сяргеевіча, пільна занатоўвала ўспаміны тых, хто быў побач з Дзядзем Косцем у апошнія дні ў партызанскім атрадзе. Яна па крупіцах складала для сябе агульны малюнак, аналізуючы матывы яго ўчынкаў і логіку паступкаў. Давярала паперы і абставіны стварэння гэтай кнігі.

У выніку атрымалася сямейная хроніка, якая ахоплівае вялікі прамежак часу. Перад чытачом паўстаюць бацькі Канстанціна, сям’я яго будучай жонкі, яго верныя сябры. І праз лёсы гэтых людзей праступае гісторыя краіны — з яе вялікімі будоўлямі і жудаснымі рэпрэсіямі, ваенным ліхалеццем і фальшам мірнага жыцця, калі да захавання памяці пра Героя сталі ставіцца фармальна...

Аўтар шчыра раскажа чытачу, да чаго гэта абавязвала — быць дачкой чалавека, які аддаў жыццё за радзіму, пра сваё пакаленне, якому на пенсіі дасталося выпрабаванне перабудовай, пра наіўную мару зацікавіць сцэнарыем фільма пра бацьку Галівуд (яна даехала да знакамітай амерыканскай кінастудыі і пакінула ўва многіх пакоях раздрукаваны сцэнарый). Разам з аўтарам чытач пабывае на неабсяжных прасторах нашай краіны і за яе межамі, будзе захапляцца і расчароўвацца.

Муза Канстанцінаўна не ўтоіць ад чытача гісторыі свайго кахання, адносін з маці, раскажа пра сям’ю сястры, з вялікай любоўю напіша пра пляменніка, якому ўдалося пакарыць сваім мастацкім талентам Францыю. У кожным з яе блізкіх, быццам у люстэрку, праявяцца рысы характару Заслонава. Нездарма кніга носіць назву “Прозвішча...”. Музе Канстанцінаўне ўдалося захаваць тон шчырай споведзі, не збіцца на патэтыку, натацыі і папрокі.

Артлінія

# Ад Заборава — да Шэмякіна

**Больш як 300 работ вядучых сучасных мастакоў, а яшчэ кнігі ды экслібрысы, выкананыя на фарфоры, прывезлі да нас госці з Санкт-Пецярбурга. Іх творчы багаж размясціўся ў фае і на галерэі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, утварыўшы найцікавейшую экспазіцыю з калекцыі расійскага выдавецтва “Віта Нова”.**




**Лана ІВАНОВА, фота Святланы Берасцень**

Наколькі значнай падзеяй у мастацкім жыцці Беларусі стаўся гэты выставачны праект, сведчыць небывалы наплыў айчынных графікаў на прэс-канферэнцыю, што адбылася перад адкрыццём выстаўкі. Яны актыўна распытвалі пра стасункі маладога кніжнага выдавецтва з мастакамі, якія ілюструюць тэксты. Параўноўвалі тамтэйшую сітуацыю і практыку айчынных выдавецтваў, з якімі даводзілася супрацоўнічаць. А потым няспешна, цягам не адной гадзіны, глядзелі выстаўку.

Наколькі яркай атрымалася сама выстаўка “З калекцыі выдавецтва «Віта Нова»”, сведчыць захапленне дырэктара Музея Марка Шагала ў Віцебску Людмілы Хмяльніцкай. Яна прыехала на вернісаж, каб выбраць работы піцерскіх кніжных графікаў для паказу ў сваім арт-цэнтры, але азнаёміўшыся з экспазіцыяй, зразумела: выбраць не зможа, настолькі ўсё выдатна і разнастайна. Віцебск павінен убачыць усё! Вядома, плошча шагалаўскага музея надта камерная для прыёму выстаўкі ў поўным аб’ёме, але можна, дамовіўшыся з калегамі, размясціць яе па розных залах горада.

Выдавецтва, якое ўпершыню завітала да нас са сваёй мастацкай калекцыяй, заснаванае ў Санкт-Пецярбургу ў 2000 годзе. Спецыялізуецца яно на малатыражных калекцыйных ілюстраваных выданнях сусветнай мастацкай, дзіцячай літаратуры, адмыслова — паэтычных зборнікаў, біяграфічных і літаратуразнаўчых кніг. Як падкрэсліў генеральны дырэктар “Віта Нова” Аляксей Захаранкаў, прынцыповая пазіцыя выдавецтва заключаецца ў спалучэнні акадэмічнай падрыхтоўкі тэкстаў з лепшымі традыцыямі кнігадрукавання. Тэксты вылучаюцца энцыклапедычнай выверанасцю, а ў іх афармленні выкарыстоўваюцца работы і класічных майстроў, і сучасных, у тым ліку замежных, мастакоў (як правіла, выдавецтва замаўляе ім цыклы ілюстрацый). “Віта Нова” адкрывае прастору для сапраўднай творчасці: эксперыментаў з фактурай і колерам, розных спосабаў прачытання тэксту, спалучэння традыцыйных і аўтарскіх тэхнік. Пра гэта сведчаць прадстаўленыя ў Мінску работы.

***На здымку: генеральны дырэктар выдавецтва “Віта Нова” Аляксей Захаранкаў, мастак Барыс Забірохін і дырэктар НММ Беларусі Уладзімір Пракапцоў падчас вернісажу.***

Повязі

# Дажынкі па-кітайску

**Веранiка ЛАЗОЎСКАЯ, фота аўтара**

**Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя ўжо не ўпершыню радуе аматараў кітайскай культуры. 12 верасня РІКК запрасіў да сябе настаўнікаў, студэнтаў — пачынаючых кітаістаў з кафедры мовазнаўства і краіназнаўства Усходу факультэта міжнародных адносін БДУ, школьнікаў, якія вывучаюць кітайскую мову на падрыхтоўчых курсах, каб разам адзначыць Свята сярэдзіны восені, ці, калі па-кітайску, — Чжунцюцзе.**



Чжунцюцзе — гэта адно з самых буйных традыцыйных свят у Кітаі. Па сваёй значнасці яно, напэўна, саступае толькі Святу Вясны — кітайскаму Новаму году. Чжунцюцзе святкуюць у пятнаццаты дзень восьмага месяца па месячным календары ў поўню. Поўны месяц — асноўны вобраз свята. Ён сімвалізуе завяршэнне збору ўраджаю, бо месяц атаясамляецца з жаночым пачаткам, а “паўната” — бясспрэчная прыкмета ўрадлівасці.

Свята сярэдзіны восені — час, калі ўся сям’я збіраецца разам. І звязана гэта са старажытнай легендай пра Стралка І, ці Хоў І, і яго прыгажуню жонку Чан Э. Тады існавала дзесяць сонцаў, якія грэлі адначасова. Імператар Кітая страшыўся, што яны засушаць зямлю, і звярнуўся да Стралка І, каб той збіў іх. Хоў І знішчыў дзевяць сонцаў, за што атрымаў ад імператара эліксір бяссмерця. Імператар параіў не піць яго адразу, а добра падрыхтавацца і правесці цэлы год у малітвах. Але эліксір знайшла Чан Э і выпіла ўсю шклянку. Яна стала падымацца ў паветра і адляцела на Месяц. А Хоў І ўзнёсся на Сонца. І толькі адзін раз на год — у пятнаццаты дзень восьмага месяца па месячным календары — яны сустракаюцца.

Вось і Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя вырашыў сабраць сваіх сяброў на такое свята. Гасцей віталі прафесар Аляксандр Гардзей і спадарыня Го Шухун, дырэктары РІКК з беларускага і кітайскага боку адпаведна. Каб вызначыць, наколькі добра госці ведаюць гісторыю свята, супрацоўнікі Інстытута таксама падрыхтавалі жартаўлівыя тэсты. Кульмінацыяй свята можна смела назваць конкурс на лепшы пераклад верша кітайскага паэта Лі Пу (? — 1172) “Сярэдзіна восені”. Пераклады атрымаліся, бясспрэчна, на ўзроўні мэтра расійскага паэтычнага перакладу Барыса Мешчаракова, аўтара арыгінальнай рускай версіі верша Лі Пу.

Цікава назіраць за плённай працай і творчым патэнцыялам такіх устаноў, як Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя, арганізацый па супрацоўніцтве Беларусі з іншымі краінамі свету ў галіне адукацыі і культуры. З нецярпеннем чакаем іншых прыкладаў іх паспяховых здзяйсненняў.

***На здымку: выступае спадарыня Го Шухун.***

З-пад пяра

Месяц нямецкай літаратуры ў галерэі “Ў” пачаўся з прэзентацыі кнігі Алеся Разанава “Der Mond denkt, die Sonne sinnt” (“Месяц думае, Сонца разважае”). На літаратурнай імпрэзе гаварылі пра беларускіх аўтараў, замежныя творы і творчасць беларускага паэта Алеся Разанава. Вёў імпрэзу філосаф і паэт Ігар Бабкоў. На працягу верасня кожны зможа набыць тут кнігі нямецкіх, швейцарскіх, аўстрыйскіх выдавецтваў.

**Дар’я ШОЦІК**

У мастацкай галерэі г. Крупкі адкрылася выстаўка жывапісца Эдуарда Рымаровіча. У першай зале галерэі прадстаўлены пейзажы, напісаныя на пленэры. У цэнтры іх — архітэктурныя помнікі. Напаўзруйнаваныя, у будаўнічых лясах, вернутыя з забыцця, адроджаныя і заўжды велічныя, яны ў выкананні мастака прыцягваюць, захапляюць, прымушаюць задумацца. Амаль усе помнікі мастак паказвае на фоне яркай прыроды. У другой зале галерэі наведвальнікі могуць пазнаёміцца з творчасцю Рымаровіча-партрэтыста і, між іншым, пабачыць яго дзіўныя, філасофскія аўтапартрэты. Напрыклад, на фоне партрэта свайго дзеда, салдата мінулай вайны, альбо з кветкамі ў руках, альбо на фоне партрэта магната Рэчы Паспалітай Завішы і разбуранай царквы XVI ст.

**Галія ФАТЫХАВА**

У Гомельскай спецыялізаванай Славянскай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі Івана Прылуцкага (Штэйнера) “Мудрасці пачатак і канец”. Аўтар шматлікіх манаграфій прапанаваў на суд публікі сваю першую п’есу. Галоўным героем выступае наш славуты першадрукар Францыск Скарына, а таксама такія дзеячы Адраджэння, як Марцін Лютэр, Эразм Ратэрдамскі, Франсуа Рабле, Парацэльс… У імпрэзе прынялі ўдзел студэнты філфака ГДУ імя Ф. Скарыны. Пад кіраўніцтвам рэжысёра Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Багдана Арлоўскага быў пастаўлены ўрывак з п’есы. Музычнымі падарункамі парадавалі вакальнае трыа “Талака” і вядомы бард Вольга Цярэшчанка.

**Ганна НОВІК**

Незвычайная выстаўка “Лялькі”, сумесны праект музея тэатральнай і музычнай культуры і Беларускай акадэміі мастацтваў, прайшла ў гасцёўні Уладзіслава Галубка. Экспанаты сапраўды вельмі неардынарныя — больш незвычайныя лялькі ўявіць сабе цяжка. Дзякуючы крэатыўнасці і фантазіі студэнтаў тэатральнай студыі “Укроп” набываюць новае жыццё старыя непатрэбныя рэчы. У лялек ператвараюцца самыя розныя прадметы — ад звычайнай лямпачкі да старога пацёртага стула і таршэра. У гэтым годзе наведвальнікі маглі не толькі палюбавацца незвычайнымі экспанатамі, але і паглядзець лялечныя спектаклі па матывах беларускіх народных казак.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася Музейная ноч “На нашым хітрым свеце ўсяляк жыве народ!”, прымеркаваная да Дня горада Мінска. У межах мерапрыемства адкрылася фотавыстаўка Сяргея Мілюхіна “Нявыдуманая Афрыка”. Сяргей Мілюхін — легендарны падарожнік, таленавіты аўтар і фатограф, больш вядомы пад псеўданімам Сіндбад МарахОд. На яго работах можна ўбачыць сонца, што ўстае над экватарам, жыхароў Эфіопіі, саляныя азёры і іншыя карціны афрыканскага жыцця. Адкрыццё выстаўкі адбылося пад акампанемент музыкантаў школы этнічнага барабана “Такадум”. Працягнуў музейнае свята гурт “Адыс-Абэба”, які даў трохгадзінны канцэрт.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

*У наступным годзе беларуская грамадскасць будзе ўрачыста адзначаць 130-годдзе з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Адна з дзейсных форм найбольш годнага ўшанавання памяці вялікіх сыноў Бацькаўшчыны — выданне іх шматграннай літаратурна-мастацкай спадчыны. Так, у 1995—2003 гг. выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў свет падрыхтаваны вучонымі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі першы поўны збор твораў песняра ў 9 тамах (10 кніг). У 2007 г. акадэмічны Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы распачаў і пасяхова ажыццяўляе яшчэ адзін маштабны праект: выдавецкі дом "Беларуская навука" выпускае набліжаны да поўнага збор твораў Якуба Коласа ў 20 тамах. На сённяшні дзень чытачы атрымалі 14 аформленых з густам кніг. Адной з адметнасцей 20-томніка як навукова каменціраванага выдання з'яўляецца наяўнасць у асобных тамах разгорнутых пасляслоўяў, якія маюць на мэце дапоўніць, канкрэтызаваць агульную характарыстыку жыцця і творчага шляху Коласа, выкладзеную ў прадмове "Свайму часу і вечнасці".*

*Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" вырашыла пазнаёміць сваіх чытачоў з найбольш цікавымі высновамі аднаго з такіх пасляслоўяў, а менавіта пасляслоўя да 16 тома, дзе змешчана публіцыстычная спадчына пісьменніка. Разнастайнасць публіцыстычных матэрыялаў запатрабавала іх разгляду, ацэнкі з улікам сучаснага ўспрымання літаратуры як эстэтычнай з'явы, яе ролі ў духоўным жыцці чалавека. У сукупнасці з артыкуламі, даўно ўведзенымі ў навуковы абыходак, новыя публікацыі дадуць магчымасць інакш паглядзець на асобу Коласа як мастака, як грамадзяніна, які імкнуўся аператыўна адгукацца на найважнейшыя падзеі грамадска-палітычнага, міжнароднага, нацыянальна-культурнага жыцця. Вядома, не ўсё, што выйшла з-пад пяра Коласа як аўтара публіцыстычных артыкулаў, вытрымала праверку часам. Тым не менш і гэтыя матэрыялы па-свойму адбіваюць складанасць, супярэчлівасць грамадскага, літаратурна-творчага жыцця, актыўным удзельнікам якога на працягу амаль паловы стагоддзя быў народны пясняр Беларусі.*



*Якуб Колас. 1913 г.*

# Эпоха 1910—1950 гг. у асвятленні Коласа-публіцыста

Міхась МУШЫНСКІ

**Публіцыстыка займае даволі значнае месца ў багатай літаратурна-творчай спадчыне народнага песняра. Зусім заканамерна, што ў апошні час дзейнасць Якуба Коласа-публіцыста стала аб'ектам больш уважлівага разгляду з боку шматлікіх прыхільнікаў таленту паэта. Разам з тым высветлілася, што публіцыстыка Коласа, роля згаданай спецыфічнай жанравай формы ў актывізацыі грамадска-палітычнага жыцця, у выхаванні нацыянальнай свядомасці беларусаў вывучана недастаткова. А гэта, у сваю чаргу, не дае магчымасці раскрыць ва ўсёй паўнаце і значнасці маштаб таленту выдатнага мастака слова, ацаніць яго ўклад у нацыянальную культуру, у навукова-тэарэтычную і грамадскую думку. Тым больш, калі прыняць пад увагу, што многія публіцыстычныя матэрыялы Коласа да апошняга часу не былі сабраныя, а заставаліся раскіданымі па розных крыніцах. Упэўнены: уключаныя ў 16-ы том, а часткова і ў 17-ы новага збору твораў публіцыстычныя артыкулы ў сваёй сукупнасці ўнясуць значныя карэктывы ў ранейшыя ўяўленні пра творчую працу пісьменніка. Адначасова ўдакладніцца і агульны малюнак творчай дзейнасці Коласа, напрыклад, 30—40-х гг., бо шэраг яго публікацый, выступленняў, ацэнак нясе на сабе выразны адбітак трагізму тагачаснай эпохі — эпохі масавых рэпрэсій, праследу інтэлігенцыі, навязвання думак, якія не адпавядалі гуманістычнай пазіцыі, маральна-этычным прынцыпам пісьменніка.**

**Між іншым, калі мы гаворым пра публіцыстыку Коласа, дык трэба памятаць, што гэта ўсё ж пісьменніцкая публіцыстыка. Яна адрозніваецца ад матэрыялаў прафесійнага публіцыста. У выступленнях паэта, празаіка больш суб'ектыўных момантаў, больш шчыльная сувязь з уласна мастацкай творчасцю, непасрэдна пісьменніцкімі клопатамі. І з боку формы выразна выступае спецыфіка — адчувальны элемент эсэістыкі, лаканізм выкладу думкі і апісання падзей.**

**Звяртае на сябе ўвагу не толькі змястоўна-тэматычная, але і жанрава-структурная разнастайнасць публіцыстыкі Коласа, сярод якой мы знаходзім артыкулы, нататкі, адкрытыя лісты, занатоўкі, карэспандэнцыі, допісы, аператыўныя газетныя і часопісныя водгукі на падзеі грамадскага, палітычнага, культурнага жыцця ў свеце і ў краіне, інтэрв'ю, юбілейныя віншаванні, уступныя словы пры адкрыцці пісьменніцкіх з'ездаў, пленумаў, звароты па радыё, выступленні перад чытацкай аўдыторыяй, прамовы на сесіях Вярхоўнага Савета, мітынгах у абарону міру і іншых грамадскіх форумах. Зрэшты, многія вершы паэта — таксама публіцыстыка, бо і тут бачна грамадска-палітычная надзённасць тэмы, аператыўнасць аўтарскага водгуку. Разгляд згаданых жанравых форм у адзінстве з іх зместам дае магчымасць вылучыць пэўныя перыяды развіцця, этапы станаўлення Коласа-публіцыста: 1910—1920-я гг., 1930-я, ваенны перыяд, пасляваенны час — да 1953 г., 1953—1956 гг. Адпаведна пералічаным перыядам і падаюцца фрагменты пасляслоўя.**



*Якуб Колас з жыхарамі вёскі Астрашыцы. 1922 г.*

## Несці ў народ святло ведаў, бараніць матчыну мову

У 10—20-я гады публіцыстычныя выступленні Коласа пабудаваныя на матэрыялах, звестках, добра ім асвоеных. Фактычна гэта творы, напісание якіх прадыктавана ўнутранай патрэбай Коласа-грамадзяніна, а не замоўленыя рэдакцыяй друкаванага органа. На жаль, кароткія допісы, карэспандэнцыі, змешчаныя ў "Нашай ніве" ў 1906—1908 гг., незаслужана абмінутыя ўвагай даследчыкаў: закранутыя там пытанні вельмі вострыя, надзённыя. Іх вядучы матыў — бяспраўнае становішча беларускага селяніна, пазбаўленага волі, палітычных правоў, свабоды слова, у тым ліку і права вучыцца на матчынай мове. Колас-публіцыст пратэстуе супраць такой несправядлівасці, звяртаецца да свядомай інтэлігенцыі, заклікае яе несці ў вёску святло ведаў, голас праўды і веру ў будучыню. Вялікую ролю ў справе асветы павінна была адыграць народная школа. Так, у нататцы "Беларуская мова ў казённай школе" (1906) малады настаўнік абураецца выказваннямі тых, хто не прымае родную для беларусаў мову, хто лічыць яе "брыдкай", "непрыгожай", "мёртвай". Такія вось адносіны да мовы выхавала расійская казённая школа, семінарыя, дзе ўсё скіравана на тое, "каб не толькі забіць уканец у беларуса ўсё тое беларускае, што яшчэ асталося ў душы яго, але каб з яго зрабіць пакорную авечку, забіць мазгі, адным словам, выпусціць у свет балванчыка".

Аўтар нататкі з'едліва высмейвае непаслядоўную, супярэчлівую палітыку ўяўных сяброў беларускага народа, тых, хто едзе на двух вазах, але спявае адну песню, хто "кормiць адну карову, а доіць дзве". Настаўнік верыць у духоўную моц народа: "Як беларуса ні гналі, як яго ні душылі, як ні тапталі яго ў балота, усё ж такі ён захаваў сваю мову". Што і казаць, сёння не ўсім беларусам хапае гэтай веры. Таму і варта часцей звяртацца да спадчыны нацыянальнага класіка, да яго даўніх публікацый, якія не страцілі сваёй актуальнасці, якія гучаць надзённа. Бясспрэчна, пісьменнік добра ўсведамляў прычыну цемнаты, грамадзянскай пасіўнасці працоўнага хлебароба: "Пры цяперашніх нашых парадках, справядлівей, пры цяперашняй безлабершані нашага жыцця, свабодная народная школа толькі можа пабольшыць турмаў. Ласне мала павыганялі лепшых вучанікоў з усялякіх школ? Ласне мала вучыцялёў сядзяць па турмах? Ласне іх мала пакутуе ў ссылках па далёкіх акраінах Расіі? А колькі вучыцялёў без працы ды заробку, галодных, абношаных, змардаваных, без жаласці выкінутых у ахвяру нуды і пакуты?! А за што? За тое, што вучыцель асмеліўся думаць іначай, як прыказвае яму цыркуляр начальства; за тое, што ён памкнуўся праліць луч свету ў цёмную вёску <…> за тое, што народ стаў верыць і любіць вучыцеля, — вучыцель хацеў падаць руку сваўму сляпому брату-мужыку; за тое, што вучыцель пазнаў у сабе чалавека і заявіў аб тых правах чалавечых, каторыя Бог даў кожнаму; за тое, што ён стаў абціраць свой заплёваны твар...".

Прыведзены фрагмент — яскравае сведчанне таленту ранняга Коласа-публіцыста, які валодае словам, умее данесці да чытача глыбокую думку, кранууць струны душы, абудзіць надзею.

Эканамічнае становішча сялянства таксама цікавіла аўтара ранніх допісаў. Малазямельны селянін і хацеў бы пашырыць свой вузкі шнур, але "цану памешчыкі назначаюць вельмі высокую". Вясковы люд спадзяваўся, што 1-ая Дума вырашыць зямельнае пытанне па справядлівасці, на карысць абяздоленага хлебароба. Ды толькі рэальнае жыццё абвяргала гэтыя спадзяванні: пранесліся чуткі, што зямельны банк пагражае адабраць купленую сялянамі зямлю, бо яны не выплацілі банку крэдыт.

Тэма скрыўджанага дзяцінства ў карэспандэнцыях Я. Коласа прагучала са старонак "Нашай нівы" вельмі выразна, у лепшых традыцыях гуманістычнага спачування безабаронным істотам. Пакінутыя без нагляду падчас сенакосу і жніва, дзеці часта галадаюць, гінуць на рэчцы. Іх няма каму ратаваць, няма каму лячыць ("Ліст з Мікалаеўшчыны", апублікаваны 9 жн. 1913 г.). Дзятва доўгі час не бачыць сваіх бацькоў і таму бярэ прыклад з наведвальнікаў манапольки, пераймае іх мову, звычкі, паводзіны, брудную лаянку, несучы гэтае "багацце" ў дарослае жыццё.

З пачуццём глыбокай горычы і абурэння распавядае аўтар "Ліста…" пра дзяцей, якім іхнюю маці замяніла мачыха. Лёс аднаго з такіх хлапчукоў-пакутнікаў па-сапраўднаму трагічны: "На твары яго заўсёды ляжаць глыбокія сляды забітасці, няшчасці. З яго цела ніколі не сходзяць сінякі і струпы, сам ён ціхі, баязлівы, і твар яго ніколі не асвячаецца ўсмешкаю. Мачыха абходзіцца з ім злосна, жорстка толькі за тое, што ён — дзіця другой жанчыны". Карэспандэнт газеты апелюе да добрых і разумных, просіць іх "працягнуць руку помачы для закіненых дзетак". А можа, раздумвае ён, варта паруплацца і арганізаваць дзецям "дзённыя прытулкі".

Натуральна, што такая распаўсюджаная ў вёсцы сацыяльна небяспечная з'ява, як п'янства, не магла не прыцягнуць увагу Я. Коласа. "Узяць, напрыклад, гарэлку. Колькі людзей звяла яна са свету! Колькі здароўя адабрала ад іх! Колькі калецтва, знявагі, дурнаты, праступкаў, слёз, гора, беднаты прынесла яна людзям! Ні халера, ні сухоты, ніякая зараза не вынішчылі гэтульκі народу, як гарэлка", — усхвалявана гаворыць аўтар допіса "Манаполька жыве". На жаль, і ў дадзеным выпадку даводзіцца гаварыць пра актуальнасць узнятай Коласам тэмы. Карэспандэнцыя "З вёскі" (1914) выклікае асаблівую цікавасць тым, што ў ёй закранута вельмі складанае пытанне ўзаемаадносінаў народа, школы і царквы. "Наша школа і царква рэдка калі бываюць у згодзе з сялянамі, у той згодзе, пры каторай школа, царква і народ робяцца як бы адным цэлым. І школа, царква і народ жывуць кожны па сабе. У народа ёсць патрэба ў такіх урадах, дзе б яго духоўныя сілы маглі знайсці разумны сход. Але ніхто аб гэтым не паклапоціцца. Даўно пара прыйсці на падмогу народу". Пагадзіцеся, сучаснаму чытачу і тут ёсць над чым паразважаць, хоць свае меркаванні малады пісьменнік выказваў амаль стагоддзе таму.

***Фотаздымкі прадстаўлены Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа***

# Паклон роднай зямлі

Міхась КУЗЬМІЧ,
кандыдат філасофскіх навук,
г. Віцебск

**Калісьці "Литературная газета" праводзіла закрыты конкурс на лепшы драматычны твор, у якім ўдзельнічала каля тысячы (!) лепшых драматургаў СССР. Як ні дзіўна, перамог нікому не вядомы Уладзімір Сауліч з беларускага правінцыйнага гарадка Глыбокае, уласны карэспандэнт абласной газеты "Віцебскі рабочы". Яго камедыю "Халімон камандуе парадам" паставіў мясцовы тэатр, а "Сабаку з залатым зубам" — Купалаўскі, дзе сваю апошнюю ў жыцці ролю сыграла Стэфанія Станюта. Уладзімір Сауліч не толькі слынны драматург, але і выдатны нарысіст. Яго кніга "Антэі Прыдзвіння" ўганараваная Рэспубліканскай прэміяй "Залаты Купідон", якую аўтар атрымаў на Дні беларускага пісьменства ў Ганцавічах.**

Паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, Антэй — непераможны герой-волат, якому дотык да зямлі даў сілы. Гаворка ў кнізе ідзе пра віцебскі старшынёўскі корпус — людзей, для якіх зямелька, з аднаго боку, — карміцелька, крыніца дадатковай моцы, а з другога, — жыццёва-прафесійны крыж.

Прыдзвінскія Антэі — сапраўдныя аўтарытэты, якія шмат гадоў служылі і служаць хлебаробскай справе. Некаторыя з іх цяпер на пенсіі, астатнія — паранейшаму ў страі, а хтосьці яшчэ і падняўся па службовай лесвіцы. Фактычна цэлае сузор'е легендарных людзей з неардынарнымі, нярэдка складанымі і пакручастымі лёсамі. Гісторыя ў асобах і лёсах — мабыць, найлепшая магчымасць прадставіць бег часу.

Аўтар разам з героямі падсумоўвае здабыткі, абагульняе становішча, варушыць застарэлыя і цяперашнія праблемы. Відавочна, што задума кнігі складвалася спакваля, а змест нарысаў афармляўся на працягу дзясятка гадоў, на якія выпадала шмат перыпетый.

Неардынарнай асобе старшыні калгаса "Навасёлкі-Лучай", Героя Сацыялістычнай Працы прысвечаны нарыс "Філасофія Алега Валадзько". Самавітасць А. Валадзько — не толькі ў тым, што ён хадзіць босы і знешне нагадвае грэчаскага мысліцеля Сакрата, пра што сведчыць і фотаздымак, а і ў прадуманай стратэгіі гаспадарання.

З маналогаў героя нарыса вынікае, што ён мае вышэйшую мудрасць — быць гатовым да любых перамен у лёсе.

Галоўныя прынцыпы А. Валадзько — рабіць усё прадумана, грунтоўна, так, каб не даводзілася перарабляць. Ствараць умовы, пры якіх працаваць на зямлі было б выгадна.

Героі нарысаў У. Сауліча маюць свой арыгінальны погляд на жыццёвыя з'явы, згодна з якімі прымаюць неабходныя рашэнні.

Багатая таксама біяграфія У. Новіка. Узнаўляючы яе, пісьменнік адмятае прывычнае і "выхоплівае" старонкі чарговай адысеі свайго героя, звязанай з далучэннем да СВК саўгаса "Камунар" з мільярднымі пазыкамі. Вобразна кажучы, спачатку выйшла жаніцьба багатага з бедным, а потым іх развод, бо аб'яднанне аказалася незаконным, паколькі "Таргуны" — калгас, а "Камунар" — саўгас: дзве розныя формы ўласнасці. Але Уладзімір Мяфодзьевіч быў неадступны і змог пастулова пераадолець праблемы.

Разважлівым гаспадаром выяўляе сябе Віктар Раловіч (нарыс "Чатыры кіты Раловіча"): калгас — вам, вы — калгасу і не інакш. Галоўнае памнажаць, рабіць так, каб чалавеку было выгадна працаваць на зямлі, пра што сведчыць праца Анфіма Міхалевіча ("Там, дзе гаспадар ходзіць"). Зацікаўленасць, інтарэс людзей — вось што галоўнае.

Тое ж можна сказаць і пра Паўла Пальчэха ("Як Пальчэх цвікі лічыў"). Сам факт вынесены ў назву — вядома, далёка не дзівацтва, а ўрок гаспадарання, калі на ўліку павінна быць кожная капейка.

Творы вылучаюцца сваёй сацыяльна-псіхалагічнай нагрузкай. Вёска — гэта праца, таму ў кнізе няма падрабязных, дэталёвых апісанняў прыроды, затое багата жыццёвых эпізодаў, вытворчых калізій.

Кніжку "Антэі Прыдзвіння" можна паставіць у адзін шэраг з мастацкімі здабыткамі знакамітых публікацый В. Авечкіна, І. Васільева, Г. Радава, А. Стрэлянага, І. Дуброўскага, А. Казловіча, В. Шырко. Яны сказалі сваё важкае слова, і шкада, што няшмат ахвотных працягнуць іх традыцыю.

Нарысы пераконваюць: на любой зямлі, нават у неспрыяльных, як часта гавораць, умовах, можна мець важкія набыткі. Віцебскі клімат нагадвае паводле многіх параметраў клімат некаторых скандынаўскіх краін, а вось плён працы адрозніваецца. Значыць, не ўсё абумоўлена кліматам. Вынікі залежаць ад стаўлення да працы, спрактыкаванасці кіраўнікоў, ад умення па-сучаснаму працаваць і быць гаспадарамі на зямлі. А яна — што талерка: колькі ў яе пакладзеш, столькі і атрымаеш.

Варта звярнуць увагу на некаторыя мастацкія асаблівасці кнігі. Аўтар любіць ёмкую і трапную метафару, гістарычную паралель, маналогі, успаміны — тое, што дапамагае пазбегнуць сухасці і шэрасці.

У сваіх нарысах У. Сауліч выказвае парадаксальныя думкі. Нечаканыя падзеі, няпростыя сітуацыі надаюць тэкстам завостранасць, інтрыгуюць чытача. Згадаем, напрыклад, нарысы "Іншапланецяне ў Сакалоўшчыне", "У Лаўрукі" — як у Луўр", "Докшыцы — Гановер", "Разумных шмат — смелых мала".

Падаецца, што некаторыя нарысы, у прыватнасці пра А. Валадзько, У. Новіка, пры дапрацоўцы маглі б вырасці ў дакументальныя кнігі.

Заключае томік кароткі раздзел "Новы дзень вёскі", дзе толькі пункцірам пазначаныя гарызонты будучага сяла. Ён — пра перспектыву, пра аграгарадкі, пра будоўлю, вобразна кажучы, пра світанак вёскі. Чытаю, перачытваю радкі пра глыбоцкія "Азярцы", шаркаўшчынскую "Жвіранку", браслаўскую Опсу, пра будаўнікоў з Пастаў, а з галавы не выходзіць думка пра нашчадкаў. Ці вымалёўваюцца малады антэі? Спадзяюся, што пра іх з'явяцца чарговыя нарысы.

У. Сауліч сцвярджае вялікую жыццёвую формулу: зямля чалавека — зямля для чалавека, для гаспадара. Кніга "Антэі Прыдзвіння" — паклон усяму старшынёўскаму корпусу Віцебшчыны, тым людзям, якія робяць усё дзеля будучыні нашай Бацькаўшчыны.

Рэдактарскае

# Першы сказ першага абзаца

Андрэй ФЕДАРЭНКА

**Рэдактарства — гэта творчасць. Талент рэдактара ніколькі не меншы, чым талент пісьменніка. І, як любы талент, падуладны ён толькі натхненню, але ніяк не рэжыму. Што ж тычыцца ўласна творчасці, дык у кожнага аўтара, само сабой, гэты працэс адбываецца па-свойму — індывідуальна, непаўторна, інтымна. Але можна, і трэба, асабліва ў такім жанры, як проза, з першых літаратурных крокаў вучыцца самадысцыпліне і павазе да слова, бо яно абыякавага стаўлення да сябе не церпіць і можа адпомсціць само за сябе.**

Вось маленькі прыклад. Разгледзім першы абзац фантастычнага апавядання з лімаўскай пошты, пад назвай "Стальныя арлы".

Пачынаецца яно так:

"Сігнал трывогі бязлітасна пабіў сон каскадам асколкаў. Сярод ночы ўспыхнула яскравае сляпучае святло. Выразна спрацавалі рэфлексы, абвостраныя доўгімі гадамі службы. Кайн ускочыў з ложка, нацягнуў камбінезон і, прабегшы астатак шляху, апынуўся ў стартавым адсеку. Мільганула дзікая думка, што гэты вылет, магчыма, будзе апошнім, але, страсянуўшы галавой, ён загнаў яе глыбока ў закуткі падсвядомасці".

**"Сігнал трывогі бязлітасна пабіў сон каскадам асколкаў".**

Першы сказ — нібы пропуск у мастацкі твор, як пароль, як ключ да шыфру, і пажадана, каб сказ гэты быў ідэальны ў граматычным і ва ўсіх іншых сэнсах. Што ж нас насцярожвае ў вышэйзгаданым "паролі"? Неадпаведнасць склонаў. Аўтар хацеў сказаць усяго толькі, што сон быў разбіты на асколкі (лепш, дарэчы, на аскепкі, бо асколкі звычайна бываюць пасля выбуху чаго-небудзь). А атрымалася: асколкі пабілі сон — г. зн. вынік механічна паўздзейнічаў на прычыну; прыблізна тое самае, як сказаць "бутэлька разбіла на кавалкі жалезны малаток".

Наступныя сказы з першага абзаца:

**"Сярод ночы ўспыхнула яскравае сляпучае святло..."** — той самы выпадак, калі няправільна ўжытае, "пакрыўджанае" слова пачынае помсціць. У беларускай мове "яскравы" ўжываецца толькі ў пераносным значэнні — яскравы прыклад, яскравы талент і г. д; калі ж гаворка вядзецца пра святло або полымя — яны бываюць "яркія", а яшчэ лепш — "зыркія".

**"Выразна спрацавалі рэфлексы, абвостраныя доўгімі гадамі службы..."**

Справа ў тым, што слова "выразна" мае каля дзясятка значэнняў, часта супрацьлеглых. Каб выбраць з іх адно, больш-менш прыдатнае для нашага тэксту, скарыстаемся добрым старым спосабам: праверым адну мову другой. "Выразительно сработали рефлексы"? Не тое. "Чётко, отчётливо сработали"? Цяплей... Што значаць па вялікім рахунку ў той жа рускай мове гэтыя значэнні: *чётко, точно* (якія даслоўна на беларускую не перакладаюцца)? Яны абазначаюць найперш адсутнасць няяснасці, незразумеласці. А калі гэта датычыць чалавечых пачуццяў, абазначаюць яшчэ і правільнасць, і хуткасць дзеяння. Пагэтаму граматычна правільным наш сказ будзе хоць бы ў такім гучанні: "**Адразу** спрацавалі рэфлексы..."

**"Кайн ускочыў з ложка, нацягнуў камбінезон і, прабегшы астатак шляху, апынуўся ў стартавым адсеку..."**

Ну, тут проста коле ў вочы. Астатак шляху ад чаго? І да чаго? У такіх выпадках патрэбна літаральная, лічбавая канкрэтыка: колькі метраў ці кіламетраў перадолеў герой.

**"Мільганула дзікая думка, што гэты вылет, магчыма, будзе апошнім, але, страсянуўшы галавой, ён загнаў яе глыбока ў закуткі падсвядомасці..."**

Адна з самых распаўсюджаных сярод пачаткоўцаў нязграбнасцей-памылак: пачарговыя словаспалучэнні разбіваюцца пабочнымі і стаяць далёка адно ад аднаго; у нашым выпадку герой заганяе ў падсвядомасць не думку, а галаву.

Такім чынам мы зборшага разабралі ўсяго адзін абзац. У цэлым жа апавяданне далёка не горшае з тых, што знаходзяцца ў рэдакцыйным партфелі.

Universum



## Насельнікі «Выспы скарбаў»

Віка ТРЭНАС

*Хто не памятае з дзяцінства захапляльна-прыгодніцкую кнігу Роберта Льюіса Стывенсана "Выспа скарбаў"? Напэўна, кожны чытаў яе і глядзеў аднайменную стужку — шэдэўр савецкай мультыплікацыі. Сярод хлопчыкаў-падлеткаў, відавочна, былі не толькі тыя, хто хацелі стаць лётчыкамі ці касманаўтамі. Што можа быць больш рамантычным за марскія падарожжы бясстрашных піратаў?.. Стоп! Гэта не рэклама антыгерояў. Справа не ў "джэнтльменах удачы" і не ў кульце "лёгкіх" грошай, а ў самім па сабе паняцці скарбу. Пра тое, што ён бывае не толькі матэрыяльны, але і духоўны, усе ведаюць. Ці можа ў ім аб'яднацца і тое і другое? Канечне! У гэтым не сумняваюцца гісторыкі, спецыялісты па старажытных знаходках, для якіх скарб, у першую чаргу, — крыніца інфармацыі пра найдаўнейшыя часы. А яшчэ — сведчанне таго, наколькі багатая беларуская зямля. І на скарбы, і на таленты, якія іх даследуюць.*

### Навука для сапраўдных мужчын

Ці хацеў малады чалавек, пра якога сёння пойдзе гаворка, у дзяцінстве стаць піратам, дакладна невядома. Але тое, што ён — адзін з самых знаных і перспектыўных навукоўцаў, даследчык старажытнарускай зброі і матэрыяльнай культуры насельніцтва Беларусі X—XIII стст. — несумненны факт.

Археолаг Мікалай Плавінскі нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Закончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта (2003), аспірантуру Інстытута гісторыі НАН Беларусі (2006). З 1999 года працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, загадвае навуковафондавым аддзелам археалогіі, нумізматыкі і зброі.

Адна з кніг, аўтарам якой з'яўляецца Мікалай, перавыдавалася двойчы, бо выклікала непадробную цікавасць не толькі сярод прафесійных археолагаў і музейных супрацоўнікаў, але і ў прыватных калекцыянераў, аматараў ваеннай мінуўшчыны і гістарычнай рэканструкцыі. Манаграфія Мікалая Плавінскага "Нарысы гісторыі клінковай зброі X—XIII стагоддзяў на Беларусі" выйшла ў 2009 годзе (папярэдняе выданне пабачыла свет у 2006-м і мела іншую назву). Кніга ілюстраваная, таму чытач можа паглядзець на мячы, шаблі, кінжалы, баявыя нажы-скрамасаксы і даведацца, як і навошта ваявалі нашыя продкі.

### Брылёўскі скарб

Кніга з такой назвай была прэзентавана зусім нядаўна. Каталог — плён працы Валянціна Рабцэвіча, Мікалая Плавінскага, Алега Іова. З прадмовы да выдання можна даznацца, што Брылёўскі скарб, які паступіў у фонды Нацыянальнага гістарычнага музея ў 2003 годзе, — адзін з найбольш адметных раннесярэднявечных нумізматычных комплексаў з тэрыторыі Беларусі. Ён складаецца са срэбных арабскіх манет — дзірхамаў, фрагментаў шыйнай грыўні, франкскага мяча і набору гірак для ўзважвання срэбра.

Каталог "Брылёўскі скарб" распачынае новую серыю выданняў пад агульнай назвай "Скарбы Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь", якая будзе прысвечана найбольш каштоўным музейным калекцыям і прадметам, што сталі сапраўднымі здабыткамі нашай гісторыка-культурнай спадчыны.

# Зямля пад белымі крыламі

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера"

### Слова краязнаўцы



**Ганна БУЛАШ з Мазыра распавядае пра знакавых асоб у гісторыі рэгіёна:**

— Мінуўшчына Мазырскага раёна цікавая і неардынарная. Яна значна адрозніваецца ад гісторыі іншых раёнаў, бо наш горад заўсёды знаходзіўся на мяжы розных дзяржаў. Ён існаваў яшчэ напрыканцы VIII ст. (пра гэта сведчыць палова манетнага двара Аль-Мухамедзія), але афіцыйна годам першага ўпамінання Мазыра лічыцца 1153 год — у "Аповесці мінулых гадоў". Але, думаецца, гісторыю горада ў многім творыць яго жыхары.

Да такіх асоб можна смела аднесці вядомага ў часы Рэчы Паспалітай смаленскага ваяводу, шляхціца Піліпа Абуховіча, які восенню 1654 года здаў рускаму войску Смаленск, увайшоў не толькі ў ваенную гісторыю, але і стаўся героем палітычнай сатыры. Многім вядомы "Ліст да Абуховіча", складзены мазырскім шляхціцам Іванам Камунякам (Камуненькам). Іван Мялешка, палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, таксама жыў і працаваў на Мазыршчыне, удзельнічаў у дзяржаўным з'ездзе як прадстаўнік Мазырскага павета.

Яшчэ адным з яркіх публіцыстаў эпохі Асветніцтва з'яўляецца памешчык і землямер Іосіф Яленскі, які напісаў "Благавесць да Ісраіля Расійскага". У сваёй працы ён прапаноўвае стварыць аб'яднанні-абшчыны, у якіх асноўныя інструменты працы, зямля і вынікі працы заставаліся б у агульнай уласнасці народа. Адукацыю лічыў абавязковай для ўсіх членаў абшчыны. Таму і У. Ленін наведваў Мазыр, бо чытаў работы Яленскага і ў некаторай ступені ўзяў іх за аснову сваёй тэорыі сацыялізму.

А ў другой палове XIX стагоддзя з Мазырскай гімназіі ў Таганрог ад'язджае завяршыць вучобу ў гімназіі Эдуард Пякарскі, у будучым складальнік фундаментальнага слоўніка якуцкай мовы. У 1912 годзе за працы "Слоўнік якуцкай мовы" і "Узоры народнай літаратуры якутаў" Э. Пякарскі ўзнагароджаны Вялікім залатым медалём Імператарскага Рускага Геаграфічнага таварыства. Яшчэ пры жыцці навукоўца яго імя стала насіць сярэдняя школа ў Якуціі. У Якуцкім універсітэце і сёння ёсць дзве стыпендыі імя Э. Пякарскага, у цэнтры Якуцка яго імем названа вуліца. Яшчэ адна яркая асоба — заснавальнік Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі, акадэмік Міхаіл Мацэпура, які нарадзіўся ў вёсцы Барбароў, што на Мазыршчыне. Увайшоў у гісторыю горада і Мікалай Пушкар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, мастак і народны ўмельца. Яго вучні і цяпер сваімі работамі ствараюць казку на вуліцах нашага горада.

### Колас і яго сучаснікі

Чэслава ПАЛУЯН

Як і штогод увосень, 4 лістапада ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа пройдуць "Каласавіны" — навуковая канферэнцыя "Якуб Колас і яго сучаснікі: да вывучэння творчага і асабістага кола ўзаемасувязей пісьменніка".

Так, для правядзення "Каласавін-2011" была абрана наступная тэматыка: перапіска Якуба Коласа даваеннага і пасляваеннага часу, творчы лёс даваеннай і пасляваеннай публіцыстыкі Якуба Коласа, старонкі жыццяпісу песняра, ушанаванне і папулярызацыя нацыянальнай культурнай спадчыны праз музейныя калекцыі мемарыяльнага статусу.

Заяўкі да ўдзелу ў канферэнцыі прымаюцца да 31 кастрычніка.

### Музейны ўнікат

# «Слуцкі пояс», прабіты куляй

Наталля УСЕНКА

**У Слуцкім краязнаўчым музеі, як і ва ўсіх іншых установах падобнага тыпу, ёсць свае ўнікаты. Аднойчы мы ўжо распавядалі пра незвычайныя шахматныя фігуры з яго фондаў, сёння раскажам яшчэ пра адзін рарытэт, які аб'ядноўвае Слуцкі музей і Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Па сутнасці, сам "ўнікат" — зборнічак вершаў Анатоля Астрэйкі "Слуцкі пояс" (1943 г.) — знаходзіцца ў Мінску, але спецыяльны стэнд, прысвечаны гэтай незвычайнай кнізе, вы пабачыце і ў Слуцку. Да таго ж тут распавядуць і яе гісторыю, непасрэдна звязаную з мінуўшчынай рэгіёна.**




У гады вайны Анатоль Астрэйка быў партызанам і адначасова працаваў карэспандэнтам, спачатку на Віцебшчыне, потым на Любаншчыне і Случчыне. Да 1942 года ён напісаў шмат вершаў і таму слёзна прасіў камандзіра брыгады імя Чкалава Мікалая Розава дапамагчы выдаць кніжку альбо маленькі зборнічак. Пасля нядоўгіх угавораў Розаў пагадзіўся. 7 лістапада 1942 года партызанскія брыгады любанскіх злучэнняў паспяхова правялі аперацыю штурму Любані. Тады было вывезена шмат боепрыпасаў, прадуктаў харчавання, зброі і, канечне, паперы. Калі ўсе матэрыялы, неабходныя для друку, былі ў руках нашых суайчыннікаў, Розаў паслаў Астрэйку да галоўнага рэдактара газеты Слуцкага райкама партыі "Народны мсцівец". Працуючы разам, яны цягам месяца надрукавалі тысячу экзэмпляраў зборніка вершаў Анатоля Астрэйкі, які атрымаў назву "Слуцкі пояс". Асобнікі новай паэтычнай кнігі па чарзе паступалі ў партызанскія атрады — дарэчы, не толькі ў Беларусі, але і па ўсёй тэрыторыі, акупаванай фашыстамі.

Да нашых часоў, на жаль, дайшоў толькі адзін экзэмпляр "Слуцкага пояса". Ён знаходзіцца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, прычым прабіты куляй, бо яго насіў пад шынялём наборшчык Уладзімір Craновіч. Ён пасля вайны і прынёс зборнічак у музей.

У Слуцку ж можна пабачыць перавыданне зборніка 1964 года. Але сама гісторыя кнігі робіць яе ўнікальнай.

# Сляды спрадвечных іншаземцаў

Сяргей РАМАНАЎ

**Ужо дастаткова доўга цягнецца беларуска-польскае супрацоўніцтва ў галіне гістарычных і антрапалагічных даследаванняў. Адным з актуальных напрамкаў такога ўзаемадзеяння на сённяшні час з'яўляецца вывучэнне іудаікі — яўрэйскай філасофіі, права, яўрэйскага аспекта беларускай гісторыі. Чарговым крокам гэтай мэтанакіраванай працы стала арганізаваная сёлета супольная беларуска-польская навукова-практычная экспедыцыя, прысвечаная вывучэнню культурнай спадчыны яўрэяў Беларусі, а таксама пытанням яе захавання і выкарыстання.**

З абодвух бакоў у праекце ўзялі ўдзел прадстаўнікі шэрагу арганізацый: Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (С. Півачык, І. Соркіна), Музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі (Мінск, І. Герасімава), Музея гісторыі яўрэяў Польшчы (Варшава, А. Станкоўскі), Яўрэйскага гістарычнага інстытута ў Польшчы (Варшава, Г. Венгжынэк) і іншыя. Паколькі праграма была надзвычай насычанай, удзельнікі праекта падзяліліся на дзве групы і пачалі свой маршрут адначасова з дзвюх кропак: Брэста і Гродна. Першая група (кіраўнік І. Герасімава) праводзіла экспедыцыю пераважна па тэрыторыі Брэсцкай вобласці, тады як другая (кіраўнік С. Півачык) вяла палявыя даследаванні на тэрыторыі Гродзеншчыны, часткова Міншчыны і Брэстчыны.

Падчас экспедыцыі мне давялося быць у складзе гродзенскай групы, якая наведала і даследавала каля 30 паселішчаў. Праца навукоўцаў і аматараў была скіравана на пошук слядоў прысутнасці яўрэяў у беларускіх гарадах і мястэчках. Часцей за ўсё, прыязджаючы ў населены пункт, мы пачыналі гутарку са старэйшымі жыхарамі пра даваенное жыццё і ўзаемаадносіны з яўрэйскім насельніцтвам, пра сённяшні лёс яўрэйскай спадчыны. Разам са зборам успамінаў рабілі агляд населены пунктаў. Жылыя забудовы даваеннага часу, а таксама культавыя месцы яўрэйскай прысутнасці ў паселішчы, што захаваліся да нашага часу, фатаграфаваліся, наносіліся на карту. З матэрыяльнай культуры "спрадвечных іншаземцаў" да нашага часу захаваліся пераважна мураваныя сінагогі (месцамі перабудованыя пад краму ці кінатэатр) ды могілкі. У некаторых месцах не засталося і гэтага.

Хоць, трэба адзначыць, у пэўных паселішчах даследчыкаў чакалі сапраўдныя адкрыцці. Так, у Жалудку, што на Шчучыншчыне, да сённяшняга часу захавалася вялікая частка забудовы гістарычнага цэнтра з былымі яўрэйскімі крамамі, сінагогамі і жылымі дамамі. На ўскрайку Жалудка з цяжкасцю адшукалі яўрэйскія могілкі. Вялікі пагорак, парослы старымі соснамі, практычна цалкам пакрыты шматлікімі мацэвамі (каменныя надмагіллі) з сімвалічнымі малюнкамі і надпісамі. Падобныя, але куды больш старажытныя яўрэйскія могілкі даследаваны ў Мсцібаве (Ваўкавыскі раён). Гістарычныя крыніцы сведчаць пра з'яўленне мсцібаўскага кагалу яшчэ ў 20-30-х гг. XVI ст. Пацвярджэнне таму — знаходкі старых каменных надмагілляў з надзвычай рэдкай шрыфтавой апрацоўкай нават для яўрэйскіх могілак XVII — XVIII ст. У Мсцібаве таксама часткова захаваўся будынак яўрэйскай лазні, фундамент сінагогі.

Яўрэйскае мінулае старых беларускіх мястэчак цікавіць навукоўцаў не толькі захаванай і да сённяшняга часу матэрыяльнай культурай. Сапраўдным гонарам такіх населеных пунктаў можна лічыць людзей, знакамітых прадстаўнікоў мясцовых яўрэйскіх дынастый, пасляваенных эмігрантаў. Так, у прыватнасці, гродзенская група наведала паселішча Вішнёва на Міншчыне — радзіму былога прэм'ер-міністра Ізраіля Шымона Перэса.

Кульмінацыйным момантам праведзенай даследчыцкай працы стала міжнародная навукова-практычная канферэнцыя ў Брэсце. Яна праводзілася ўпершыню і адзначыла вялікі крок у абмене вопытам па праблемах вывучэння і выкарыстання яўрэйскай спадчыны ў краінах Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Падчас навуковага форуму прачытана больш як тры дзясяткі дакладаў, прысвечаных розным аспектам актуалізацыі яўрэйскай спадчыны ў сучасным грамадстве.

Польскія навукоўцы былі надзвычай уражаны даследаваннем, неаднаразова падкрэслівалі, што Беларусь — край з багатай гісторыяй і культурай. Адносна яўрэйскай спадчыны наша краіна таксама шмат у чым унікальная: менавіта тут размяшчаліся некалі знакамітыя на ўвесь свет валожынская і мірская ешывы, а сёння ў Беларусі (паселішча Ленін) існуюць адзіныя ў свеце яўрэйскія могілкі з захаванымі драўлянымі мацэвамі. Удзельнікі экспедыцыі выказалі жаданне працягваць сумесную працу ў вызначаным кірунку і зрабіць правядзенне міжнародных канферэнцый па гэтых праблемах штогадовай традыцыяй.



***На здымку: удзельнікі экспедыцыі ў Старых Васілішках (Шчучынскі раён).***

# Краязнаўства як клопат бібліятэк

Марына ВЕСЯЛУХА

**У Чэрвеньскай раённай бібліятэцы прайшлі сёмыя краязнаўчыя чытанні "Бібліятэка і культурная спадчына раёна".**

Правядзенне навуковых канферэнцый, на якіх спецыялісты-бібліятэкары з райцэнтра, а таксама сельскіх бібліятэк дзеляцца сваімі напрацоўкамі і дасягненнямі ў галіне краязнаўчай працы, стала традыцыйнай з'явай. Яны звычайна праходзяць на пачатку верасня. На чытаннях прысутнічаюць не толькі бібліятэкары, але і прадстаўнікі райвыканкама, работнікі краязнаўчага музея (які, дарэчы, месціцца ў адным будынку з бібліятэкай), журналісты рэгіянальных і рэспубліканскіх СМІ.

Як заўважыла ініцыятар і арганізатар чытанняў, загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Чэрвеньскай ЦБС Галіна Ніціеўская, краязнаўчая работа стала неад'емнай часткай дзейнасці кожнай з бібліятэк раёна. Супрацоўнікі, нават тыя, хто нарадзіўся і вырас далёка ад гэтых мясцін, часам і ў іншых краінах, з задавальненнем працуюць у гэтым кірунку: запісваюць успаміны мясцовых жыхароў, песні, лічылкі, прымаўкі, праводзяць даследаванні народнай тапанімікі, прапаноўваюць і свае версіі паходжання некаторых назваў.

Так, падчас чытанняў Святлана Панцялеева распавяла пра паходжанне тапонімаў з ваколіц вёскі Грабёнка, такіх, як Чортаў мост, Царкоўная дарога, Страхавая гара, Воўчы хвост. Цяпер цяжка вызначыць дакладную этымалогію гэтых назваў, але мясцовыя жыхары, іх успаміны могуць з часам скіраваць да правільнай версіі. Вольга Салдаценка пазнаёміла прысутных з вясёлымі лічылкамі, што складаюць адзін з аспектаў народнай педагогікі вёскі Турэц, Святлана Вайцяховіч не толькі распавяла, але і прадэманстравала (натуральна, праспявала) — "Песні маёй вёскі". Звярнулі ўвагу бібліятэкары і на слаўных землякоў — пра вядомага мастака і мастацтвазнаўцу Пятра Карнача распавяла Святлана Балоціна, а Ніна Калеснікава прыгадала гісторыю вёскі Новыя Зеляныі, з акцэнтам на інфармацыю пра яе былых уладальнікаў.

# Талстой і Здзяхоўскі: формула адносін



Фота з інтэрнэт-сайта blogcritics.com

**Вядомы польскі навуковец-філолаг прафесар Базыль Белаказовіч у 1960-х гадах выявіў у рукапісным аддзеле Дзяржаўнага музея Льва Талстога ў Маскве некалькі лістоў выхадца з Беларусі прафесара Кракаўскага ўніверсітэта Мар'яна Здзяхоўскага (1861—1938), адрасаваных вялікаму пісьменніку ў Ясную Паляну. Паколькі палова гэтых лістоў была напісана і паслана з мястэчка Ракаў Валожынскага павета Менскай губерні, то гэтая акалічнасць не магла не прыцягнуць увагу беларускага літаратуразнаўцы і крытыка Вячаслава Рагойшы да таго ж ураджэнца Ракава. Шырока выкарыстоўваючы апублікаваныя матэрыялы Б. Белаказовіча, іншых польскіх даследчыкаў, а таксама лісты свайго земляка Мар'яна Здзяхоўскага, Вячаслаў Пятровіч напісаў выдатны нарыс "Ішлі лісты з Ракава", які спачатку быў часткова змешчаны ў газеце "ЛіМ" (8 лютага 1978 года), а затым у зборніку " Леў Талстой і Беларусь" ("Мастацкая літаратура", 1981) — ужо пад назвай "Ракаўскі карэспандэнт Льва Талстога".**

Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ

Дбайна прааналізаваўшы лісты Л. Талстога і М. Здзяхоўскага, іх гутаркі падчас сустрэчы ў Яснай Паляне, а таксама адзначыўшы разыходжанне іх меркаванняў па розных пытаннях, Вячаслаў Рагойша прыходзіць да высновы: "Тым не менш сустрэча не толькі не нашкодзіла прыязным узаемаадносінам Л. Талстога і М. Здзяхоўскага, а, наадварот, зрабіла гэтыя ўзаемаадносіны больш трывалымі, пастаяннымі, змястоўнымі".

"Л. Талстой, — працягвае Вячаслаў Пятровіч, — мяркуючы па яго асобных выказваннях, раскіданых у прыватных лістах і дзённікавых запісах, высока цаніў М. Здзяхоўскага, яго веды і культуру, з павагай ставіўся да яго патрыятычных пачуццяў, ідэйных перакананняў. Калі паўстала пытанне, хто б з польскіх дзеячаў культуры выказаўся пра Л. Талстога ў "Международном толстовском альманахе" (Масква, 1909), то сам пісьменнік назваў прозвішча літаратара з Ракава Мар'яна Здзяхоўскага".

На вялікі жаль, з гэтай высновай Вячаслава Пятровіча ніяк нельга пагадзіцца. І не толькі таму, што ён не прывёў ні аднаго пэўнага прыкладу, але і не паказаў ні адной крыніцы, дзе б іх можна было прачытаць. Але ж вядома, што Л. Талстой у сваіх дзённікавых запісах тройчы згадвае імя Здзяхоўскага: 7 верасня 1895 года Леў Мікалаевіч піша: "Яшчэ прачытаў цікавы ліст ад паляка (Здзяхоўскага. — **В. А.**) аб патрыятызме і адказаў яму на чорна яшчэ". Праз некалькі дзён, 22 верасня, ён робіць наступны запіс: "За гэты час пісаў лісты: паляку (Здзяхоўскаму. — **В. А.**), Меньшыкаву і зноў артыкул з выпадку ганення на духабораў". І, нарэшце, апошні запіс 13 лютага 1896 года: "Лісты Сапоцькі і Здзяхоўскага пра праваслаўе і каталіцызм з іншага боку задзіраюць мяне, але наўрад ці напішу". Як бачым, ні ў адным з гэтых запісаў Леў Мікалаевіч не захапляецца Здзяхоўскім, не дае яму высокай ацэнкі, пра якую піша В. Рагойша.

Што да сцвярджэння Вячаслава Пятровіча наконт кандыдатуры М. Здзяхоўскага для выступлення ў "Международном толстовском альманахе", то такога выпадку не было. І не толькі таму, што Леў Мікалаевіч праз сваю сціпласць не мог падобнае раіць або рэкамендаваць, але і таму, што ў гэты час ён парваў усялякія адносіны са Здзяхоўскім. А было гэта так.

У 1908 годзе ў 2, 3 і 4-м нумарах часопіса "Московский еженедельник" быў змешчаны артыкул "Мадэрнізм і талстаізм", падпісаны нейкім спадаром Кароўскім. Як аказалася, гэта быў адзін з псеўданімаў М. Здзяхоўскага, які, дарэчы, настойліва прасіў Льва Мікалаевіча прачытаць яго. Але Талстой, мабыць, не ўспрымаючы сур'ёзна вельмі суб'ектыўных канцэпцый Здзяхоўскага, не адказаў аўтару. Тады Здзяхоўскі звярнуўся па дапамогу да блізкага чалавека Льва Талстога Д. Макавіцкага, які неадкладна адказаў 8 снежня 1908 года: "Адказваю вам, што Л. М. бачыў ваш артыкул у "Московском еженедельнике", паказваў яго Чарткову, дзівячыся загалоўку, але не чытаў яго…" Праз некаторы час Здзяхоўскі зноў паўтарыў сваю просьбу, на што той жа Д. Макавіцкі паведамляў: "Адшукаў "Московский еженедельник" з вашым артыкулам і зноў прапанаваў яго Л. М-чу. Ён адказаў мне: павінны яму паведаміць непрыемнае — няма ніякай магчымасці ўсё чытаць". Заўважу, што лісты гэтыя захоўваюцца ў Літаратурным архіве музея чэшскай літаратуры ў Празе.

Адносна суб'ектывізму Здзяхоўскага варта сказаць, што ён асабліва выявіўся ў яго артыкуле "Тавянізм Льва Талстога", змешчаным у газеце "Kraj" (нумар 52, 1886 год). У ім Мар'ян Здзяхоўскі супастаўляў этычныя і рэлігійныя погляды Талстога з пастулатамі польскага містыка Андрэя Тавянскага (1798—1878), знаходзячы ў іх шмат "агульнага". Гэта ў яго атрымалася толькі за кошт вялікіх нацяжак і скажэнняў. Паміж поглядамі А. Тавянскага, былога суддзі з Вільні, прыхільніка Напалеона, ідэаліста, месіяніста і містыка, які ў 1842 годзе быў выгнаны з Францыі за прапаведванне сваіх хваравітых тэорый, і этыка-філасофскімі ўстаноўкамі Льва Талстога, вялікага рэаліста, якому быў чужы містыцызм, які ў эпапеі "Вайна і мір" выкрыў культ Напалеона, нічога агульнага, зразумела, не было. Пісьменнік ведаў пра месіянскія настроі часткі палякаў. Вядома яму было і імя Тавянскага, пра тэорыі якога ён выказваўся паўсюль адназначна, адказаўшы на пытанне: "Ёсць што ў Тавянскага сур'ёзнае?" катэгарычным "Не!".

Як бачым, супярэчнасці паміж пісьменнікам Львом Талстым і нашым суайчыннікам, навукоўцам Мар'янам Здзяхоўскім былі вельмі прынцыповымі, для абодвух яны не маглі скласціся спрыяльна. Іх адносіны не сталі "трывалымі, змястоўнымі, сталымі", як сцвярджае Вячаслаў Рагойша. Наадварот, ідэйныя супярэчнасці прывялі да іх непазбежнага разрыву.

Зваротная сувязь

# Інакшадуманне — не прычына

Вячаслаў РАГОЙША

Адразу хачу падзякаваць Вячаславу Афанасьеву. І не толькі за тое, што ён згадаў і прыхільна паставіўся да майго даўняга эсэ "Ракаўскі карэспандэнт Льва Талстога", паказаў зацікаўленым чытачам, дзе яго можна прачытаць, але найперш за магчымасць яшчэ раз выказацца пра вялікага (сапраўды вялікага!) вучонага і мысліцеля, нашага суайчынніка і майго земляка (нарадзіўся ў Ракаве колішняй Мінскай губерні) Мар'яна Здзяхоўскага (12.5.1861—5.10.1938). З-за непрымання бальшавізму Мар'ян Здзяхоўскі быў абыдзены ўвагай не толькі ў СССР, але і ў ПНР. Сёння ж ён, як і ягоная творчасць, у Польшчы перажывае сапраўдны рэнесанс, выклікае павышаную цікавасць не адных літаратуразнаўцаў, але і філосафаў, гісторыкаў, рэлігіязнаўцаў, сацыёлагаў, культуролагаў і палітолагаў.



Фота з інтэрнэт-сайта radzima.org

Спадзяюся, чытачы адчулі мае адносіны да Мар'яна Здзяхоўскага, а таксама зразумелы гонар мой як яго земляка, дый гонар агульнабеларускі: Здзяхоўскі — наш суайчыннік! Таму можна ўявіць, як я ўразіўся, калі прачытаў у допісе В. Афанасьева наступнае: "…супярэчнасці паміж пісьменнікам Львом Талстым і нашым суайчыннікам, навукоўцам Мар'янам Здзяхоўскім былі вельмі прынцыповымі, для абодвух яны не маглі скласціся спрыяльна. Іх адносіны не сталі "трывалымі, змястоўнымі, сталымі", як сцвярджае Вячаслаў Рагойша. Наадварот, ідэйныя супярэчнасці прывялі да іх непазбежнага разрыву". Спачатку падумалася, што Афанасьеў адшукаў нейкія дадатковыя, невядомыя ні мне, ні іншым даследчыкам творчасці Здзяхоўскага, факты пра "супярэчнасці вельмі прынцыповыя", якія сапраўды прывялі да "непазбежнага разрыву" яго з класікам рускай літаратуры. Прызнаюся: я вельмі азмрочыўся б, калі б так сталася. Але чым больш я ўчытваўся ў допіс В. Афанасьева, усё больш пераконваўся: такіх фактаў даследчык не знайшоў, вывад яго галаслоўны і нічым не падмацаваны.

А падвяло яго не толькі ігнараванне (няведанне?) некаторых момантаў узаемаадносін Здзяхоўскага і Л. Талстога, але і метадалагічная памылка. Пачнём з апошняга. Для В. Афанасьева чамусьці больш важны працэс, чым яго вынік. Так, ён прыводзіць тры невялікія дзённікавыя запісы Л. Талстога, дзе ўпамінаецца Здзяхоўскі, і робіць заключэнне: "Як бачым, ні ў адным з гэтых запісаў Леў Мікалаевіч не захапляецца Здзяхоўскім, не дае яму высокай ацэнкі, пра якую піша В. Рагойша". Ну і што з таго, што ў **гэтых** лаканічных запісах пра **пачатак** узаемадачыненняў дзвюх выдатных асоб не выяўлены "захапленне" і "высокая ацэнка"? Важней, несумненна, **чым** усё гэта завяршылася. А завяршылася вялікім лістом Л. Талстога ў адказ на, між іншым, "цікавы ліст ад паляка аб патрыятызме" (падкрэсленне маё. — **В. Р.**), які — са згоды рускага пісьменніка (!) — быў надрукаваны ў якасці прадмовы да кніжкі М. Урсіна (Здзяхоўскага) "Рэлігійна-палітычныя ідэалы польскага грамадства. З прадмовай графа Л. М. Талстога" (Лейпцыг, 1896). Завяршылася, па-другое, у тым жа 1896 годзе і сустрэчай Здзяхоўскага з Талстым у Яснай Паляне. Калі б Талстой не ўспрымаў Здзяхоўскага як цікавага і разумнага карэспандэнта і суразмоўцу, то ці адпісваў бы яму так адказна (вядомыя 4 варыянты вялікага, ажно на 8 кніжных старонак, ліста), ці пажадаў прымаць яго ў сябе дома? Не і не!

А тое, што па некаторых пытаннях іх погляды разыходзіліся, — агульнавядома. Пра гэта, дарэчы, я адкрыта пісаў у сваім эсэ. Па-рознаму яны глядзелі на патрыятызм, неабходнасць для тагачаснай Польшчы самастойнага дзяржаўнага існавання, на інстытут царквы, каталіцызм, мадэрнізацыю каталіцкага веравызнання і інш. Але для інтэлігентных людзей інакшадуманне — не прычына, тым больш не нагода, рваць адносіны. Ды яны і не былі парваны. І сёння, як і некалі, я з усёй пэўнасцю сцвярджаю: "Л. Талстой, мяркуючы па яго асобных выказваннях, раскіданых у прыватных лістах і дзённікавых запісах, высока цаніў М. Здзяхоўскага, яго веды і культуру, з павагай ставіўся да яго патрыятычных пачуццяў, ідэйных перакананняў".

"Прыкладаў", якіх патрабуе В. Афанасьеў, дзеля пацвярджэння гэтай высновы ў маім колішнім эсэ, мяркую, больш чым дастаткова. Сярод іх — і доўгатрывалая (1895 — 1908) перапіска Здзяхоўскага з рускім пісьменнікам (захаваліся 3 лісты Талстога да Здзяхоўскага і 9 — Здзяхоўскага да Талстога), і наведанне Здзяхоўскім Яснай Паляны 28 жніўня 1896 г., і згода Талстога адзін з напісаных ім лістоў (ад 10 верасня 1895-га) надрукаваць у якасці прадмовы да вышэйназванай кнігі Здзяхоўскага, і дапамога Здзяхоўскім Івану Трэгубаву — па рэкамендацыі менавіта Талстога (!) — у зборы матэрыялаў пра рэлігійны ўціск (пераважна католікаў і ўніятаў) у тагачаснай Расіі, і парада Талстога свайму прыхільніку і памочніку Пятру Сяргеенку запрасіць Здзяхоўскага для ўдзелу ў "Международном Толстовском Альманахе"…

Зрэшты, пра апошняе. В. Афанасьеў з усёй катэгарычнасцю сцвярджае: "…такога выпадку не было. І не толькі таму, што Леў Мікалаевіч праз сваю сціпласць не мог падобнае раіць або рэкамендаваць (?! — **В. Р.**), але і таму, што ў гэты час ён парваў усялякія адносіны са Здзяхоўскім". Здзіўляе, што спадар Афанасьеў, які цытуе дзённікі Талстога, прыводзіць вытрымкі з лістоў Макавіцкага і нават ведае, што яны "захоўваюцца ў Літаратурным музеі чэшскай літаратуры ў Празе", не разгарнуў "Международный Толстовский Альманах. О Толстом. Составленный П. Сергеенко" (Москва: Книга, 1909). На старонках 64—73 гэтага выдання ён адшукаў бы артыкул адзінага польскага аўтара — Здзяхоўскага "Голас з Польшчы", які, несумненна, як і іншыя артыкулы "Альманаха", Талстой не толькі бачыў, але і чытаў. Пісьменнік там знайшоў фрагменты ўласнай перапіскі з польскім калегам, успаміны пра яго наведванне Яснай Паляны і тагачасныя выказвані пра творчасць Сянкевіча і Ажэшкі, захопленыя водзывы Здзяхоўскага пра "Вайну і мір" і "Уваскрэсенне", супастаўленне ўласных ідэй з ідэямі А. Тавянскага, думку пра ўплыў "талстаізму" на ўзнікненне і развіццё каталіцкага мадэрнізму і інш. Увесь артыкул (дарэчы, напісаны выдатнай рускай літаратурнай мовай) быў прасякнуты шчырай любоўю і ўдзячнасцю да Талстога як вялікага мастака і арыгінальнага мысліцеля.

А што да рэкамендацыі Талстога складальніку "Альманаха" П. Сяргеенку звярнуцца па артыкул да Здзяхоўскага, то спадар Афанасьеў таксама тут не павінен сумнявацца. Вось як пачынае Здзяхоўскі свой ліст-адказ Сяргеенку, напісаны ў Кракаве 19 красавіка 1908 г.: "Я вельмі ўзрушаны тым, што Леў Мікалаевіч яшчэ памятае пра мяне і ўказаў Вам на мяне. З найвялікшым задавальненнем прыму ўдзел у Вашым зборніку і дашлю артыкул з маіх успамінаў пра Л. М. і пра мае адносіны да яго".

**P. S.** У сваім колішнім эсэ па больш разгорнутую інфармацыю пра ўзаемаадносіны Л. Талстога і М. Здзяхоўскага я адрасаваў чытачоў да публікацый на гэту тэму такога аўтарытэтнага знаўца праблемы, як польскі прафесар Базыль Белаказовіч. На жаль, паўтара года таму ён пайшоў ад нас назаўсёды. Пры сённяшняй нагодзе добрым словам нам варта згадаць і гэтага светлай памяці вучонага, сапраўднага друга Беларусі і беларускай культуры.



Юрый Сапажкоў

## Начная цішыня

*Жыццё імчыць, ажно пружыняць восі:*
*За вераснем — кастрычнік, лістапад...*
*Каторы раз ужо трохтомнік восені*
*Збірае шматмільённы свой наклад.*

*Ізноў душу крамсае, нібы нож,*
*Жаданне збегчы ў вёсачку далёкую.*
*Там гукі носяць мяккія пантофлікі*
*Або нячутна ходзяць басанож.*

*Прачнуўся дождж і нешта ўсё лапоча,*
*Бадай што ўспамінае летні гром.*
*Мароз-кравец ці здолее уночы*
*Калюжыны залатаць серабром?*

*Парадкую і думкі ўсе, і клопаты,*
*Спяшаюся, бо ўжо не тыя дні.*
*А што, як раптам, бы мінёр нявопытны,*
*Ўзарвуся на бяссонніц цішыні?..*

*Якая ноч!*
*А зорка — бы прабоіна...*
*Як нампаліт вучыў мяне штодня:*
*“Канечне, кепска ціша перад боем,*
*Ды горай — пасля бою цішыня”.*

* * *

*Дзяўчо з мурашынаю таліяй —*
*Маё маладое натхненне.*
*Уся ты — нібыта праталіна*
*Між чэзлых снягоў акружэння.*

*Не знаў я, сляпы ад кунегі,*
*Што самым прываблівым стане*
*Мне востраў апошняга снегу,*
*Які неўзабаве растане.*

## На пляжы

*Штрых пейзажу: мора глянец,*
*Пляж і сонца на градзе,*
*І дзяўчына-нававбранец*
*З поўнай выкладкай ідзе.*

*У дзяўчыны вопыт слабы,*
*Рэчмяшок сагнуў яе.*
*Аўтамат вісіць нязграбна,*
*Па нагах балюча б’е.*

*Хоць ужо нацёрты раны,*
*Яе постаць, яе стаць*
*Кажа мне, што міс Ізраіль*
*Проста з бою мне не ўзяць.*

*А на доўгую асаду*
*Шанцаў нейкіх не відаць.*

*Застаецца мне асанну*
*Ўслед ваеўніцы спяваць.*

*Пляж нядзельны. Сонца паліць.*
*Цел раздзетых шмат наўгрунь.*
*Толькі хлопцы вочы пяляць*
*Не на голых прыгажунь.*

*Воч на хвілю не адводзяць*
*Ад ваеўніцы, ад той,*
*Што няспешна адыходзіць*
*Вабнай грэшніцай святой.*

*Можа, ў рай яна ці з раю?*
*Шлях далёкі а ці не?*
*Рэчмяшок нясе Ізраіль*
*Гор Галанскіх на спіне.*

* * *

*Ні сцены, ні мэбля старая,*
*Ні люстры звычайнае шкло —*
*Нішто ў гэтым доме не зззяе.*
*Адкуль жа такое святло?*

*Сядзім і не лічым гадзіны.*
*Хто чай, хто шампанскае п’е.*
*Ў вясёлы агонь успамінаў*
*Кідаем паленцы свае.*

*Заціхне й трапеча нанова,*
*І хораша ў гэтым агні.*
*Душа, у працяг той размовы,*
*Цяпло аддае цішыні.*

*У іншых дамах — мэбліроўка.*
*Сервіз — залачоная ніць.*
*Ты зойдзеш — і стане нялоўка,*
*Не будзе пра што й гаварыць.*

## Наталлі Ганчаровай

*Я камень на яе не падымаў,*
*Не забіваў праклёнамі. Урэшце,*
*Вы зразумейце, што на Чорнай рэчцы*
*Яе паэт пад куляй апраўдаў.*

*У цішыні падумайце пра гэта,*
*Сам-насам вы пагутарце з сабой*
*І не чапайце суджанай паэта:*
*Ён вас не зможа вызваць на двубой.*

## Развітанне з морам

*Справа гэта сумная, вядома, —*
*Ад’язджаць,*
*як гарачынь такая.*
*Стала мора нам*
*любімым домам.*
*Раз апошні мы ў ваду ступаем.*

*Што ж, развіт…*
*Гарачай соллю будняў*
*Нам душу дзень заўтрашні запоўніць.*
*Сумна, што мы мора не забудзем,*
*А яно нас нават і не ўспомніць.*

* * *

*У палоне турбот*
*Ты сядзіш за сцяною.*
*Я цябе цэлы год*
*Бачу толькі спіною.*

*На хвіліну адно*
*Незнароку заходзіш.*
*І выходзіш ізноў,*
*Нібы замуж выходзіш.*

* * *

*Адплыць ад звыклых берагоў*
*У раз не тысячны, дык соты.*
*Сярод бывалых маракоў*
*Ёсць выраз — кропка незвароту.*

*Цяпер ужо ў апошні раз.*
*Чакае што — адчай, пяшчота?*
*Вядома ж, ёсць яна і ў нас —*
*Такая кропка незвароту.*

*І як ты час ні запаволь*
*І ні адкладвай крок на потым,*
*Душы нявыплаканы боль*
*Пачуй прад кропкай незвароту,*

*Калі назад ужо не смець,*
*Калі мільгаюць павароты*
*І штосьці гоніць, як на смерць,*
*Цябе за кропку незвароту.*

**З рускай мовы пераклаў**
**Мікола Шабовіч**



Ганна Атрошчанка

## Асенняя мелодыя

*Мяцеліцай закружыць лісце,*
*Віруе, танчыць каля ног...*
*І так было яно калісьці —*
*Ля пуцявіны, ля дарог.*

*І слёзы горкія ў расстанні...*
*Каханне кветкаю цвіло.*
*Спяваў салоўка мой уранні,*
*І ўсё, што змоўкла, ажыло!*

*Прабеглі ранкі і дзянёчкі,*
*І вёсны юныя сплылі...*
*І адцвілі, нібы валошкі,*
*Каля сцяжыны, ля раллі...*

* * *

*Імкнецца узляцець увысь*
*Кляновы ліст, кляновы ліст...*
*Ды цягне да сябе зямля —*
*Другой сцяжыны ўжо няма!*

* * *

*Засумую, засумую*
*Па гадочках маладых...*
*Сэрцам шчасцейка пачую*
*Сярод кветак лугавых.*

*Рэха звонка каля гаю*
*Адгукнецца і маўчыць...*
*І цяпер адно я знаю,*
*Што і ўвосень трэба жыць!*

* * *

*Спякота за акном уранні,*
*Прырода сумная ізноў...*
*Прыходзь жа, дождж́ык,*
*на спатканне,*
*Прышлі, прышлі сваю любоў!*

*Расой цалуй ты луг квяцісты,*
*Спякоту з поля забяры!*
*Каб срэбныя з вадой маністы*
*Звінелі ў жыце да зары.*

*Каб птушкі звонка заспявалі,*
*Звінелі песнямі заўжды*
*І луг, і поле, лес з дарамі...*
*О, неба! Дождж́ык падары!*

* * *

*Зазірні ж у вочы! Зазірні,*
*Каб адкрыць характар,*
*таямніцу...*
*Каб убачыць водгук той зямлі,*
*Дзе юнацкія гады прайшлі,*
*Як і начную госцю — бліскавіцу...*

* * *

*О, жоўты ліст,*
*Адкуль ты ўзяўся*
*І прыляцеў на мой балкон?*
*Вятрыска, пэўна, пастараўся,*
*Бо жартаўнік вялікі ён.*
*Цябе ад роднае лясіны*
*Ён адарваў. Сюды прынёс.*
*Як прывітанне ад радзімы,*
*Ад белых, шапаткіх бяроз...*



Фота Кастуся Дробава

Дэбют



Марыся Лось

**Марыся Лось нарадзілася ў 1986 годзе ў Мінску. Скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, потым магістратуру БДАМ. Цяпер працуе ў Інстытуце культуры Беларусі. Як мастак аформіла дзевяць кніг.**

* * *

*Мы едзем у ноч,*
*Наступаем на месяц.*
*Я прашу цябе — кроч,*
*На гадзінніку дзесяць.*

*Пакідаем адбіткі*
*Ў вечаровым тумане,*
*Нібы золата зліткі,*
*Нібы колы рэкламы.*

*Разыходзімся ціха,*
*Я не чую ўжо смеху,*
*Я — як быццам без слыху,*
*Распушчаемся ў рэха.*

*Цішыню можна бачыць,*
*Яе шмат побач з намі.*
*Мне хацелася крыкнуць:*
*— Мы былі каралямі!*

*Але час праляцеў,*
*Што было — я не помню...*
*Толькі трэск пад нагамі,*
*Толькі позіркі ў скроню...*

* * *

*Крывавая ноч цішыні*
*Адпомсціць разрэзаным небам.*
*Ты не ўбачыш з вышынь*
*Адбіткі раскінутых ценяў.*

*Мой розум сыходзіць следам —*
*Крылатае сонца праводзіць.*
*Шлях, намалёваны крэйдай,*
*Ніколі жыцця не адродзіць.*

*Памежжа празрыстага дня*
*Абудзіць забытыя думкі,*
*І зноўку пачнецца вайна.*
*Распусцяцца ценяў карункі.*

* * *

*Вабіць мора прасторам,*
*Абнімае, хавае…*
*Я гляджу з-пад аблокаў —*
*Хвалі берагам сталі.*

*Я хацела разліцца*
*У абшары бязмежным,*
*Я спрабую раскрыцца,*
*Ды не стаць бы залежнай.*

*Ты бясконцы як мора,*
*Расхінаеш абдымкі.*
*Ты высока, як горы, —*
*Я гляджу фотаздымкі.*

Марына ВЕСЯЛУХА

# Італія ў сэрцы выстаўкі

**Здаецца, не так даўно Рэспубліка Беларусь у Маскве прадстаўляла свае лепшыя выданні ў якасці ганаровага госця XXIII Маскоўскай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Тады мы рыхтавалі шырокую праграму, працавалі і над спецыяльным выпускам "ЛіМа" "Книжный мир". Але вось прайшоў год, і завяршыў работу ўжо XXIV кірмаш у сталіцы Расіі. Гэтым разам у якасці ганаровага госця форуму выступіла Італія. Ды і беларускія выдаўцы не засталіся без увагі наведвальнікаў. Тым больш, што кніга "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стст." (БелЭн імя Петруся Броўкі, 2010) атрымала дыплом лаўрэата конкурсу "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД у намінацыі "Гран-пры"! Але пра ўсё па парадку.**

## Цёплыя гутаркі за кавай

XXIV Маскоўская кніжная выстаўка-кірмаш сабрала кніжнікаў з 57 краін свету. Цырымонію адкрыцця форуму распачаў кіраўнік Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Міхаіл Сеславінскі, які заўважыў: "Кніжная выстаўка-кірмаш сёлета знамянальная, бо ганаровым госцем з'яўляецца Італьянская Рэспубліка ў сувязі з тым, што ў краінах праходзяць "перакрыжаваныя гады": Год італьянскай мовы і культуры ў Расіі і Год рускай мовы і культуры ў Італіі". Міхаіл Вадзімавіч зачытаў таксама прывітанне ад Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна.

Удзел у форуме прадстаўнікоў амаль шасці дзясяткаў краін яшчэ раз пацвярджае, што Маскоўская выстаўка па праве ўваходзіць у лік пяці лепшых кніжных кірмашоў свету. І таму статус ганаровага госця ММКВК — сапраўды важны момант для выдаўцоў з розных краін. Гэта падкрэсліў і пасол Італіі ў Расіі Антоніа Дзанардзі Ландзі. У склад італьянскай дэлегацыі на форум прыехалі самыя вядомыя пісьменнікі, самыя яркія асобы выдавецкай справы. Так, на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця Нацыянальнай экспазіцыі Італіі сваю паэму "Радзіма" прачытала Патрыцыя Кавалі — адна з самых прызнаных творцаў сучаснай італьянскай паэзіі.

У цэлым жа ў праграме форуму прайшло шмат мерапрыемстваў, многія з іх — у новым фармаце літаратурнай кавярні. За кавай удзельнікі выстаўкі абмеркавалі стан развіцця маладой рускай і італьянскай літаратур, шляхі змены спосабаў расповеду пра міжасобасныя адносіны ў творах новага тысячагоддзя. Не засталіся



па-за ўвагай і пытанні расповеду пра гісторыю, асаблівасці дэтэктыву як жанру літаратуры.

## Прэзентацыі, дыскусіі, узнагароды

Напэўна, ужо аксіёмай стала сцвярджэнне, што выстаўка — лепшы час для прэзентацый, прафесійных абмеркаванняў, "круглых сталоў", падвядзення вынікаў розных конкурсаў. Так, падчас форуму выдавецкая група "Азбука-Аттикус" і Санкт-Пецярбургскі інстытут гісторыі Расійскай акадэміі навук прадставілі "Блакадны дзённік Лены Мухінай" — кнігу, выдадзеную ў межах праекта "Захавай маю сумную гісторыю" да 70-годдзя з дня пачатку блакады Ленінграда. Федэральнае агенцтва па друку і масавых камунікацыях сумесна з літаратурна-мастацкім часопісам "Октябрь" правялі круглы стол "Вісарыён Бялінскі. Праз 200 год". Былі падведзены і вынікі многіх конкурсаў: штогадовага нацыянальнага конкурсу "Кніга года", IV Усерасійскага конкурсу кніжнай ілюстрацыі "Вобраз кнігі", упершыню —"Кніжнай прэміі Рунэта". І гэта, бадай, сотая доля ўсіх мерапрыемстваў і імпрэз, што мелі месца на форуме.

Не засталіся ўбаку ад агульнай выставачнай праграмы і прадстаўнікі беларускіх выдавецтваў. А іх у Маскву прыехала цэлая дэлегацыя на чале з першым намеснікам міністра інфармацыі краіны Ліліяй Ананіч. Так, былі прадстаўлены як лепшыя выданні года, так і зусім новыя праекты. Да прыкладу, кніга "Мінск — сталіца Беларусі" ("Пачатковая школа"), "Аляксандр Алпееў. Жыццё, падоранае Богам" ("Мастацкая літаратура"), новыя выдавецкія праекты Саюзнай дзяржавы. Прадстаўнікі нашых выдавецтваў прынялі ўдзел — разам з кіраўнікамі выдавецкіх асацыяцый Азербайджана, Арменіі, Казахстана, Расіі і Украіны, а таксама вядучых выдавецтваў Кіргізіі, Малдовы і Узбекістана — у нарадзе "20-годдзе Садружнасці Незалежных Дзяржаў і перспектывы супрацоўніцтва ў выдавецкай сферы", што праводзілася Асацыяцыяй кнігавыдаўцоў Расіі. Супрацоўніцтва дзяржавы і выставачнага руху — адно з самых складаных пытанняў, што абмяркоўваліся на сустрэчы. У планах удзельнікаў нарады — пашырыць спіс краін, што неўзабаве будуць гатовыя да супрацоўніцтва ў выдавецкай сферы.

Але, бадай, самай яркай падзеяй для беларусаў стала ўручэнне ўзнагарод конкурсу "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД. У гэтым годзе мы, як, дарэчы, і заўсёды, апынуліся ў ліку лепшых. Беларусь, сярод іншых шасці прызоў у розных намінацыях, атрымала і галоўную ўзнагароду конкурсу — "Гран-пры". Дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Тацццяна Бялова на пытанне, чаму менавіта кніга "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стст." была вылучана на конкурс у галоўнай намінацыі, адказвае:

— Гэтай кнігай мы адкрылі новую серыю "Энцыклапедыя рарытэтаў", паказалі, якая багатая і выключная беларуская спадчына. Больш таго, выданне атрымала вышэйшую нацыянальную адзнаку — прэмію "За духоўнае адраджэнне". Атрыманне "Гран-пры" — вялікая падзея для нашага калектыву. На Маскоўскай кніжнай выстаўцы мы прадстаўлялі і новыя кніжныя праекты серыі. Гэта ўжо завершанае выданне "Дзмітрый Стрыкаў. Альбом малюнкаў. 1864 —1867", прадэманстравалі і кнігу "Жывая вера. Ветка", прысвечаную веткаўскай староверскай іконе. Яны, поруч з выключнымі для краін СНД выданнямі "Гарады і вёскі Беларусі", "Рэгіёны Беларусі", "Археалогія Беларусі", "Культура Беларусі", выклікалі цікавасць як у маскоўскіх калег-выдаўцоў, так і сярод кніжнікаў-аматараў. Думаецца, новыя кнігі серыі могуць быць таксама прадстаўлены на конкурс "Мастацтва кнігі-2011" у намінацыі "Гран-пры". Я разумею, што не бывае так, каб два гады запар мы атрымлівалі вышэйшую ўзнагароду, але выданні такога ўзроўню могуць прэтэндаваць толькі на Гран-пры.

***На здымку: з беларускімі выданнямі знаёміць першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч і дырэктар выдавецтва "БелЭн імя Петруся Броўкі" Тацццяна Бялова.***

**Фота з інтэрнэт-сайта embassy-bel.ru**

---

*З нагоды*

**Кацярына ДЗЕМЯНЧУК, фота аўтара**




# Буккросінг: святочны фармат

**На лаўках у скверы ўтульна размясціліся кнігі. Дзіцячыя, гістарычныя, выданні твораў замежнай і рускай класікі. Рух буккросінгу становіцца вельмі папулярным у нашай краіне, пацвярджэнне таму — адмысловая акцыя "Буккросінг 2011", што прайшла ў сталіцы падчас Дня горада.**

Людзі з задавальненнем гатовыя падзяліцца часткай сваёй хатняй бібліятэкі і аддаць яе на карысць папулярызацыі чытання. Аматары літаратуры выбіраюць кнігі, якія ім даспадобы, чытаюць, а потым могуць перадаць сябрам ці знаёмым. Але ж закончыць сваё падарожжа кніга павінна ў бібліятэцы. Такім чынам, удзельнікі акцыі змаглі атрымаць жаданую кнігу бясплатна, а потым падзяліцца ёю з іншымі.

У апошні час рух свабоднага абмену кнігамі стаў больш цэнтралізаваным. Раней удзельнікі акцыі проста пакідалі кнігі на прыступках каля крам, у парках, каля школ і г.д. Цяпер людзі збіраюцца ў вызначаны час ў вызначаным месцы і абменьваюцца выданнямі або дораць іх. Справа гэта вельмі ўдзячная. Некаторыя мінскія бібліятэкі актыўна ўдзельнічаюць і падтрымліваюць буккросінг. У цэлым жа падчас Дня горада месца для правядзення буккросінгу было выбрана вельмі ўдала.

Побач з вялікай колькасцю кніг была арганізавана выстаўка работ Андрэя Асташонка, скульптара і графіка, сябра Беларускага саюза мастакоў. Яшчэ адно творчае касцюміраванае мерапрыемства арганізавалі супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча з нагоды 120-годдзя з дня нараджэння паэта. Пад кронамі дрэў стаяў маленькі стол з пісьмовымі прыладамі, а за сталом — Багдановіч і яго музы. Былі арганізаваны і сустрэчы з пісьменнікамі, падчас якіх можна было не толькі пагаварыць з літаратарамі, але і набыць эксклюзіўную кнігу з аўтографам.

***На здымку: адмысловая лаўка для буккросінгу.***

---

*У падтрымку чытання*

## Пісьменнік Арцём Кавалеўскі:

# Адчуць слова скурай



— Люблю чытаць (менавіта чытаць!) разнастайныя слоўнікі (пачынаючы ад тлумачальных, заканчваючы граматычнымі і энцыклапедычнымі) — гэта карысна, займальна і неабходна для чалавека разумнага; добрую паэзію — гэтага вымагае пакліканне, і эпісталярный — гэта судакрананне з тымі, каго не бачыш… альбо бачыш недакладна, невыразна… альбо недакладнасць вымагае бачання…У ліку любімых твораў магу назваць раманы Фёдара Дастаеўскага "Злачынства і пакаранне", "Браты Карамазавы". Чаму? А бо я зразумеў, што слёзы — не фізіялагічная вадкасць, а вынік асэнсавання і пераасэнсавання сябе тут-цяпер-і-потым. Ну, і стыль Дастаеўскага мне больш чым блізкі.

"Казкі матухны Гускі, або Гісторыі і казкі былых часоў з павучаннямі" Шарля Перо і яго вучняў — унікальная кніга, якую я атрымаў у падарунак у другім класе, а перачытаў і асэнсаваў пазней. Чырвоны Каптурок, Сіняя Барада і нават Папялушка сталіся зусім не тымі героямі, да якіх мы прызвычаеныя з дзяцінства. У гэтай кнізе (пераклады С. Баброва, А. Фёдарава, Л. Успенскага) яны выглядаюць досыць цынічнымі, спрактыкаванымі плеткарамі і невераготнымі "злодзеямі", асобамі куртуазнымі і "памяркоўна-экзальтаванымі". А яшчэ амаль кожная казка суправаджаецца своеасаблівым паслясловем — "мараллю" і "другой мараллю", што дазваляе адчуць: Перо і ягоныя вучні пісалі не зусім для дзяцей.

Апошнім часам перачытаў зборнік апавяданняў Яўгена Шклоўскага (расійскі празаік, крытык) "Фата-маргана". Ну, і яшчэ нешта ягонае прачытаў у апошніх публікацыях у "Новом мире". Ён піша кароткую, выразную і надзвычай пранікнёную прозу. Здаецца, ягоныя тэксты працягваюць чэхаўскую традыцыю. Гэта тое, што я люблю чытаць і летам, і зімой, і перад сном, і ў электрычцы. З сучасных беларускіх аўтараў у ліку любімых — Серж Мінскевіч, паэт, які адчувае слова і слоў вязьмо скурай, пазваночнікам і чуйным вухам скрыпача. А з класікі — Купала. Ніколі не забудуся на той вечар, калі ўпершыню прачытаў ягонае "Раскіданае гняздо".

*Фота Кастуся Дробава*

## Стары здымак нагадаў

***У РВУ "Літаратура і Мастацтва" рыхтуецца да друку гісторыка-краязнаўчы і кнігазнаўчы гадавік "Альманах бібліяфіла". Традыцыя не новая. Некалі быў выдадзены альманах "Свіцязь". А ў Маскве на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў выходзіў "Альманах библиофила". У партфелі гэтага будучага выдання збіраюцца артыкулы, матэрыялы, прысвечаныя айчынным бібліятэкам, кніжнай графіцы, невядомым старонкам з жыцця беларускіх пісьменнікаў. У нарысах, эсэ, артыкулах ідзе размова пра знакамітасцей, узнаўляюцца забытыя імёны. Сярод аўтараў альманаха – літаратуразнаўцы, кніжнікі, арганізатары бібліятэчнай справы. Некаторыя з артыкулаў "Альманаха бібліяфіла" мы прапануем увазе чытачоў газеты "Літаратура і мастацтва". У прыватнасці, сёння друкуем успаміны Адама Мальдзіса пра Уладзіміра Караткевіча.***



Адам МАЛЬДЗІС

# Караткевіч на Астравеччыне

У 1960-я гады, да свайго шлюбу з Валянцінай Браніславаўнай, Уладзімір Караткевіч пабываў на маёй роднай Астравеччыне, што мяжуе з Літвой, разоў з дзесяць. Едучы ў Вільню дзеля архіўных пошукаў, мы звычайна спыняліся, робячы перасадку з аднаго прыгараднага цягніка на другі, на апошняй беларускай станцыі Гудагай. Або заходзілі, чакаючы віленскага прыгараднага, у вакзальны буфет, заказвалі "півэчко" і, пад шум грузавых цягнікоў, якія праносіліся не спыняючыся, пацягвалі яго. Валодзя, як заўсёды пераболышваючы, аднойчы нават зацягнуў тут жа прыдуманую "дрындушку":

*Аж шумела рэха гаем,*
*Як пілі мы ў Гудагаях.*

Потым той прыспеў пераnялі гудагайскія дзецюкі і цяпер выконваюць яго, галёкаючы і абсалютна не ведаючы, хто, калі і дзеля чаго яго склаў.

Пяць разоў Уладзімір Караткевіч наведаўся на Астравеччыну з начаваннем. Першы раз — на Новы год, які ён сустрэў у кампаніі з маімі родзічамі, участковым міліцыянерам Голубевым ды іншым мясцовым "начальствам". Памятаю, назаўтра мы пайшлі ў сельскі клуб, каб пагля́дзець "Паўлінку" ў мясцовым выкананні. Нехта з самадзейных артыстаў спазняўся, і гледачы, стомленыя сустрэчай Новага года, ціха падрэмвалі. Ратуючы сітуацыю, вядучая вечара, яна ж дачка ўчастковага, якая ведала пра прысутнасць у зале таленавітага госця, выйшла на авансцэну і гучна прамовіла:

— Таварышы! Сярод нас прысутнічае вядомы беларускі паэт Уладзімір Караткевіч. Просьба на сцэну!

Апладысменты разбудзілі паэта. Ён няўцямна ўстаў, пайшоў напрад. Але на сцэну не ўзняўся, стаў да яе спінай, а тварам да публікі, і стаў адпрошвацца:

— Людзі добрыя! Сёння Новы год, вы не выспаліся, я не выспаўся... То якога яшчэ выспятка ад Пана Бога вам трэба?!

Жанчына, якая, будучы на падпітку, сядзела ў першым радзе і падумала, што прадстаўленне пачынаецца, захацела, каб было яшчэ смяшней: падбегла да Караткевіча, схапіла яго аберуч за ногі і кульнула на сцэну. А той, устаўшы, пакрыўджана сказаў:

— Ну, калі так, тады не трэба!

І ціха вярнуўся на свае месца.

Праўда потым, пасля спектакля і перад танцамі, усё ж прачытаў некалькі сваіх вершаў.

А назаўтра, снедаючы, мы пачалі пацвельваць з паэта:

— А ты думаеш, той жанчыне — лёгка? Кажуць ёй недзе: такога чалавека кульнула на сцэну. Адказваць будзеш...

— Дык што вы параіце?

— Я б, Валодзенька, на тваім месцы ўзяў бы пляшку віна, скажам, вось гэтую, і пайшоў бы супакоіць яе. Глянь у акно: вунь там яе хата.

— То я тады канфіскую тэты посуд на стале, вам яшчэ хопіць.

І трэба ж такому здарыцца: выйшаўшы на веранду, Караткевіч сутыкнуўся якраз з той жанчынай. Нехта напалохаў яе ("такога чалавека кінула на падлогу, будзе табе, ой, будзе"), і яна ішла мірыцца. Таксама з пляшкай у сумцы.

І на зямлі Гудагайскай, у цэнтры колішняга славянскага племя гудаў, запанаваў мір.

Яшчэ раз Уладзімір Караткевіч быў на Астравеччыне з цэлай кінагрупай, якая здымала дакументальны фільм пра помнікі архітэктуры пад назвай "Памяць". Памятаецца, як у Варнянах паэт энергічна ўзмахваў вецікам, каб над вежай, што на востраве, прыгожа кружылі буслы. З Варнянаў мы паехалі ў Міхалішкі на абед да настаўнікаў Багдановічаў і іх зяця, галоўнага ўрача бальніцы Ражко. Але паколькі той прыезд даволі падрабязна апісаны мною ў кнізе "Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча", спыняцца на ім не стану.

Трэці раз Уладзімір Караткевіч прыязджаў у Астравец на творчую сустрэчу ў раённай бібліятэцы, без мяне. Чакаў я на яго прыезд у Вільнюс ва ўтульным і таму любімым гатэлі "Нерынга". Ці не тады ён напісаў верш на 500-годдзе Астраўца пад назвай "Дом сябра"?! Упершыню ён быў надрукаваны ў сувязі з юбілеем у "Астравецкай праўдзе".

Мала хто ведае, што Уладзімір Караткевіч яшчэ прыязджаў на Астравеччыну, дакладней, у хату Адамковічаў, што стаіць ледзь не каля самай чыгункі паміж былой вёскай Табарышкі (цяпер вуліца ў Гудагаі) і Палушамі, каб адгуляць "дружбантам" звычайнае сялянскае вяселле Марыі Адамковіч, стрыечнай сястры маёй нябожчыцы жонкі. Малады быў з тэрыторыі Літвы, з-пад Пабрадзе, з Зулова, дзе нарадзіўся вядомы польскі дзеяч Юзаф Пілсудскі. Мы паехалі туды аўтобусікамі праз Варняны, Міхалішкі і Кямелішкі. Памятаецца, і Караткевіча, і мяне там здзівіла, на якой польска-беларуска-літоўска-рускай "трасянцы" гаварылі дзеці ля крамы. Паэту захацелася пабываць на папялішчах маёнтка, дзе гучала таксама і беларуская мова (ведаем пра гэта з рукапісу п'есы "На Каляды", напісанай сынам зулоўскага аканома), угаварыў нейкага матацыкліста на момант паехаць туды, вядома ж, затрымаўся там і спазніўся на апошні прыгарадны цягнік да Вільнюса. Дабіраўся назаўтра разам з музыкантамі, "падзарабляючы" на білет падыгрываннем на бубне.

Падрабязней пра тое вяселле і далейшы лёс тагачасных маладых, блаславёных як ксяндзом, так і тостамі Караткевіча, добра было б распытаць у Фаіны Адамковіч, блізкай сваячкі, якая, здаецца, і сёння працуе ў сістэме астравецкай спажыўкааперацыі.

Аднак усе пералічаныя прыезды не былі засведчаны фатаграфіямі (ці яны да мяне не дайшлі), хаця мы абодва мелі фотаапараты, а Валодзя рабіў здымкі густоўна і тэхнічна дасканала. Засталося толькі некалькі фатаграфій з яго пятага працяглага летняга прыезду, калі ён пабываў не толькі ў Гудагаі і Палушы (у час танцаў у палушанскім клубе аднойчы хтосьці з падшыванцаў сыпануў яму пад ногі жменю лубіну з мяшкоў, якія стаялі на сцэне...), але і ў Расолах, на маёй непасрэднай радзіме. Там яшчэ стаяў бацькоўскі дом, праўда, з забітымі дошкамі вокнамі, стаяла гумно з духмяным сенам, віднелася студня на восем бетонных кольцаў з сцюдзёнай вадой прыемнага смаку, раслі здзічэлыя яблыні і вішні. Караткевіч тады прыехаў да мяне не адзін, а з рамантычна-летуценнай сяброўкай Галінай Бальчэўскай, артысткай віцебскага, а потым мінскага драматычнага тэатра. Караткевіч паказваў ёй палкай у былым садочку, як зухаваты касец павінен класці пакосы травы. Вось гэты здымак, дагэтуль, здаецца, недрукаваны, — адзіны з астравецкіх, які па тэхнічных якасцях можна публікаваць, што я тут і раблю. Іншыя ж здымкі, зробленыя ў тое лета на ганку дома, каля гістарычнага крыжа паблізу былога маёнтка Анелін, цікавыя па "змесце", але невыразныя, няўдала скадраваныя.

Дарэчы, размова каля Анялінскага крыжа пра Кастуся Каліноўскага і Уладзіслава Сыракомлю, якія ў 1861 годзе, напярэдадні паўстання, паводле мясцовай легенды, пабывалі тут і сустрэлі "Марыську чарнаброву", мела свае творчыя вынікі. Уладзімір Караткевіч распачаў тады раман "Крыж Анялiна" (тэкст увайшоў у трэці том васьмітомніка), а я напісаў, пасля ўгавораў паэта, сваю аповесць "Восень пасярод вясны", якая ўжо дачакалася перавыдання і перакладаў. Так што задума іх нарадзілася на скрыжаванні дарог, на старажытным Віленскім тракце, які з часоў удалага гаспадарання ў Астраўцы Гаштальда вёў з гэтага мястэчка, а цяпер прэтэндэнта на горад, у самую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, магутнай супольнай дзяржавы і нашай прарадзімы.

Даты ўсіх пяці пералічаных прыездаў Уладзіміра Караткевіча на зямлю Астравецкую патрабуюць дадатковага ўдакладнення — дзеля гісторыі.

## Азбука Морзэ

Даніла АРЦІМОВІЧ,
Дар'я ШОЦІК

● У ЗША выпусцілі першыя ў свеце кнігі са спецэфектамі. Электронныя кнігі цяпер выходзяць з дадаткам фонавых шумоў і музыкі. Так выдаўцы спадзяюцца прыцягнуць маладых чытачоў. У прыватнасці, фонавыя шумы і музыка дададзены да класічных кніг Уільяма Шэкспіра, Артура Конан Дойля і Шарлоты Бронтэ. У якасці прыкладу выданне Daily Mail прыводзіць новую інтэрпрэтацыю апавядаў пра Шэрлака Холмса. Цяпер пры чытанні сцэны, дзе апісваецца шум дажджу за акном, чытач зможа пачуць адпаведныя гукі.

— Пры Магілёўскай абласной бібліятэцы адчыняецца музей кнігі і бібліятэкі. Мэтай яго адкрыцця стала імкненне не толькі ўзнавіць гісторыю ўстановы і захаваць для будучых супрацоўнікаў і чытачоў інфармацыю пра яе, але і прадставіць матэрыяльнае ўвасабленне — кнігі, перыядычныя выданні, бібліятэчную тэхніку. У працы над музейным пакоем былі выкарыстаны кнігі загадаў бібліятэкі, матэрыялы архіваў, успаміны ветэранаў установы. Такім чынам, у складзе экспазіцый музейнага пакоя будуць прадстаўлены наступныя тэматычныя блокі: "Бібліятэка з пачатку заснавання", "Дырэктары бібліятэкі", "Краязнаўчая кніга", "Спецхран: забароненая літаратура ў бібліятэцы" і іншыя.

● Гісторыі Мінска прысвечана выстаўка рарытэтных выданняў "Мінск — Менск: старонкі гісторыі", якая адкрылася ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Беларусі. На выставе прадстаўлены каштоўныя кніжныя рарытэты з аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў бібліятэкі. Сярод іх такія ўнікальныя выданні, як "Памятная кніжка Мінскай губерніі і каляндар на 1889 год кіравання Імператара Мікалая ІІ: год дзевяты", "Канстытуцыя (Асноўны Закон) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі", што выйшла ў 1927 годзе (тэкст на рускай, беларускай і яўрэйскай мовах), перыядычныя выданні, напрыклад, "Минскія Епархіальныя ведомости за 1877 год".

— Выстаўка ілюстрацый Міколы Купавы да кнігі казак Уладзіміра Караткевіча "Лебядзіны скіт" прадстаўлена ў мастацкай галерэі "Бел-Арт". На адкрыццё выстаўкі завіталі дзіцячая пісьменніца Алена Масла, выкладчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ Пётр Жаўняровіч, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, кіраўнік фондаў імя Льва Сапегі Міраслаў Кобас, першы настаўнік мастака Алег Луцэвіч. "Праз казкі Караткевіча можна пазнаць увесь зямны шар і людзей, якія на ім жывуць", — зазначыў Мікола Купава. У той жа час цудоўныя ілюстрацыі ўвасабляюць нацыянальнае, беларускае: вядомыя постаці нашай гісторыі, міфічных істот, казачных і сапраўдных жывёл.

● Найбуйнейшая кнігагандлёвая сетка Фінляндыі зменіць уладальніка. Еўрапейская медыягрупа Sanoma заключыла пагадненне аб продажы кніжнага рэтэйлера за 27,5 мільёна еўра. Як паведамляе агенцтва Reuters, аднаасобным гаспадаром усіх актываў найбуйнейшага фінскага кнігагандляра Suomalainen Kirjakauppa стане медыягрупа Otava, якой прыналежыць, сярод іншых кампаній, другое па велічыні кніжнае выдавецтва ў краіне. У найбліжэйшы час дамоўленасць павінна быць ухвалена мясцовымі органамі ўлады, якія рэгулююць прадаж.

# Энциклопедии плюс

Денис МАРТИНОВИЧ

**Одним из наиболее успешных энциклопедических проектов постсоветского пространства является "Аванта+", в рамках которого вышло уже более трёх десятков томов. Учитывая тот факт, что лучшие из них рекомендованы Министерством образования России в качестве пособий для общеобразовательной школы, нетрудно гарантировать их качество. Знакомим читателей "Кніжнага свету" с энциклопедиями проекта и примыкающими к ним изданиями, которые вышли при участии ООО "Харвест".**



## Плаваем. Летаем… Едем!

Пожалуй, не составит труда догадаться, что при изобретении колеса никто не думал о перспективах, которые открываются перед человечеством. Более того, дымящиеся повозки XVIII столетия совсем не производили впечатление прародителей новой эры — эры автомобилей. Но кто теперь вспомнит о тех временах, глядя на мир, так сильно изменившийся с тех пор! Скоростные магистрали несут полноводные потоки миллионов машин различных марок и расцветок.

Как разобраться в устройстве автомобилей? Как различить их основные марки? В этом читателям поможет энциклопедия любознательных **"Автомобили"**, составленная **С. Кузнецовым**. Издание включает разделы "Самые первые автомобили", "Как устроен автомобиль", "Дизайн и стиль", "Концепт-кадр", "Для очень важных", "Гордость владельца", "Автомобиль для всех", "Джипы и вездеходы", "Самые быстрые", "Грузовики и автобусы". В нём содержится тематический указатель, а также многочисленные иллюстрации, которые позволяют явственно представить объекты рассказа.

## От орудия до элемента сакрального обряда

Ещё одним проектом энциклопедии "Аванта+" стало издание **"Ножи мира"**, которое вышло в серии "Самые красивые и знаменитые". В традиционном, бытовом понимании понятие ножа



связано с предметом обихода, без которого не обходится ни одно принятие пищи. Однако рамки, которые выбрали авторы книги (хранители музейных коллекций и историки), намного шире. Ведь нож является первым орудием человека, которое пришло из глубины веков. В Америке, Африке, Азии, Европе и Океании — всюду он был не только помощником людей в хозяйственной деятельности и военных подвигах, но и обязательным участником мистических и сакральных обрядов. Испокон веков у многих народов нож считался едва ли не главной вещью мужчины, знаком его чести и доблести. И сегодня каждый мужчина, держа в руке нож, чья форма выкована веками, сознательно или бессознательно чувствует его магическую власть.

Соответственно поставленным целям и структурировано



издание. Введение включает главы "Магические пути ножа" и "Африканские ножи". Первый раздел посвящён различным музейным коллекциям. Читатели познакомятся с ножами, которые представлены в фондах Эрмитажа, музея-заповедника "Царское село", в музеях Московского Кремля, Исторического музея, Государственного музея Востока, Этнографического музея и Музея Вооружённых сил. Второй раздел рассматривает нож на современном этапе его функционирования. Авторы книги рассказывают о художественных, туристических и боевых ножах.

## Чай вдвоём

С чего начинается утро обычного человека? У любителя здорового образа жизни — с зарядки. У гурмана — с полноценного завтрака. У журналиста — с просмотра основных интернет-сайтов. Но большинству людей надо просто проснуться. Эффективных способов известно множество. Самые известные из них — чашка кофе или чаю. Уверен, разговор о первом напитке ещё ожидает нас впереди. Поэтому обратимся ко второму утреннему атрибуту. Благо, у нас есть прекрасный путеводитель: **"Чай. Иллюстрированная энциклопедия"**. Её автор, профессор-лингвист Валентина Малевич, жила и работала в Китае и Южной Корее. Изучение культуры и традиции народов Юго-Восточной Азии — её многолетнее увлечение. В своей книге В. Малевич обращается к истории появления чая, искусству и традиции чаепития, таинству изготовления древней чайной посуды, целебным свойствам напитка, секретам чайной косметологии и таинственному духу восприятия чайного домика. В книге, которую по праву можно назвать энциклопедией чайного ритуала, раскрываются новые стороны культуры чаепития, связанные с историей этого замечательного напитка. Причём отметим, что материалы для издания собирались автором в Китае и Южной Корее на протяжении нескольких лет, а ряд авторских фотографий был сделан в отдалённых чайных районах Китая.

## Как растение назовёшь…

Представьте себе, что вы нашли растение или животное, абсолютно не знакомое современной науке. И именно вам оказана честь придумать ему название. Казалось бы, проще простого! Но нет, в настоящее время утверждены специальные правила, которые регламентируют, каких названий следует избегать. Но когда-то давно ограничений не существовало и учёные могли фантазировать в своё удовольствие. Так появились морские коровы, ослики, бабочки, жёлуди... Многие исследователи активно называли новые растения и животных в честь персонажей мифологии, христианской и других мировых религий. Авторы издания **"Животные и растения. Мифы и легенды"** посвятили свою работу попыткам проникнуть в тайны названия живых организмов. Читатели узнают о светящихся рыбах-люциферах и обезьяне-сфинксе, о лягушке-фее, мартышке Диане и многих других удивительных существах. Книга знакомит с биологическими особенностями растений и животных, а также связанными с ними мифами и легендами. Фактически, рассказывает о персонажах, чьё имя носит определённый вид. Например, в главе "Жужелица. Будда" рассказывается не только о крупных жуках, но и об основателе буддизма.

## Люди и места… по алфавиту

Можно ли представить основные сведения по истории и географии в рамках одной книги, да ещё и в популярной форме? Если да, то какова будет её структура? Ведь абсолютно ясно, что за тысячелетнюю историю на Земле произошло огромное множество событий. А каким разнообразием характеризуется природный мир! При попытке объединить все сведения могла бы получиться многотомная энциклопедия, неподъёмная для неподготовленного читателя в прямом и переносном смысле.



Оригинальный выход из ситуации предложила **Лори Трифелдт**. Она выбрала для своей книги **"Люди и места. Самые известные и знаменитые"** (перевод издания с английского языка осуществила И. Львова) ключевые понятия, посвящённые как общим вопросам истории и географии, так и отдельным личностям и достопримечательностям, и расположила их в алфавитном порядке. С одной строны, это облегчило чтение издания и поиск необходомого материала, что полностью отвечает требованием энциклопедии. С другой стороны, благодаря своей структуре каждая глава "обрастала" дополнительными подробностями. В частности, каждая страница посвящена определённой теме, имеет собственную структуру в виде колонок текста и подзаголовков, а также включает множество чётких цветных иллюстраций. Например, рассказывая об индейском племени Навахо, представители которого сейчас живут в резервации, Лори Трифелдт кратко останавливается на его истории, рассматривает экономику и быт, попутно упоминает о ткацком искусстве Навахо и отдельно задерживается на участии его людей в качестве радистов во Второй мировой войны.

## 12 джэнтльменаў і лэдзі

Наталля УСЕНКА



***Луиза Май Олкотт. Все истории о маленьких мужчинах. — Москва: АСТ; Астрель; Минск: Харвест, 2011.***

Гісторыі "Пра маленькіх жанчын" працягваюцца. У гэтай кнізе можна прачытаць пра маленькіх мужчын, выхаванцаў нястомнай Джо. Кніга любімай многімі пакаленнямі юных чытачоў англійскай пісьменніцы Луізы Мэй Олкат (1832—1888) распавядае пра жыццё хлопчыкаў, якія вучацца ў старой школе "Пламфільд", заснаванай добрай і адкрытай жанчынай Джо Баэр.

У многіх пытаннях выхавання і тлумачэння хлопцам філасофскіх ісцін ёй дапамагае муж. Старая школа — невялікі дом — прымае ў свае сцены дзяцей з небагатых сямей альбо тых, хто зусім адзін у гэтым свеце. Выхаванцамі добрай Джо з'яўляюцца не толькі хлопчыкі, але і дзяўчынкі, бо разумная жанчына ведае: каб дапамагчы будучым мужчынам знайсці нітачку клапатлівасці ў сваіх сэрцах і стаць джэнтльменамі, яны павінны знаходзіцца ў акружэнні жанчын. Так, 12 хлопчыкаў і адна маленькая дзяўчынка вучацца не толькі дакладным навукам, але і самапавазе, самавыхаванню і самакантролю. Місіс Баэр прыдумвае забаўляльныя гульні, якія прыносяць выхаванцам не толькі станоўчыя эмоцыі, але і такі важны ў жыцці вопыт. Але самай цікавай гульнёй з'яўляецца чытанне вялікай кнігі. У ёй добрая жанчына на працягу тыдня робіць запісы пра кожнага выхаванца, іх добрыя і не зусім справы. І толькі на сёмы дзень дзеці маюць магчымасць пачытаць запісы, але пра саміх сябе. Нямала клопатаў прыносяць маме Джо яе выхаванцы, але падтрымка мужа і вялікае цярпенне пераадольваюць усе надобрыя пачуцці, і місіс Баэр атрымлівае за гэта ўзнагароду. Усе яе вучні становяцца добрымі людзьмі, не ўсе, канечне, дасягаюць таго, пра што марылі, але галоўнае — яны навучыліся быць добразычлівымі, паважаць слабейшых.

Літаратура і мастацтва № 37 16 верасня 2011 г.

**Ад сваёй стрыечнай сястры Тамары Яталь, якая жыве ў Кіеве, даведаўся, што наш родны дзядзька Фама Бельскі працаваў некалькі гадоў поруч са знакамітым украінскім паэтам, літаратуразнаўцам і перакладчыкам Міколам Зэравым у Златапалі. Яны выкладалі ў Златапальскай мужчынскай і жаночай гімназіях. Больш за тое, Фама Бельскі і Мікола Зэраў былі ў добрым сяброўстве, іх аб'ядноўвалі агульныя справы, клопаты, памкненні.**



Фама Бельскі — студэнт Кіеўскага ўніверсітэта



Мікола Зэраў. 1915 г.

# Іх яднала літаратура і творчасць

**Алесь БЕЛЬСКІ,**
**доктар філалагічных навук**

У бібліяграфічным даведніку "Прафесар Фама Антонавіч Бельскі" (2002) Т. Яталь піша: "У Златапальскай гімназіі быў моцны педагагічны калектыў. У ім працавалі такія таленавітыя выкладчыкі, як М. Зэраў, В. Імшынецкі, К. Воінаў, К. Коршун-Асмалоўскі, М. Чысцякоў, законанастаўнік А. Зелянецкі. Дзядзька Фама выкладаў славеснасць, хутка набыў аўтарытэт і папулярнасць сярод навучэнцаў, а таксама іх бацькоў" ("Мой дарагі дзядзька Фама").

Мікола Зэраў і Фама Бельскі былі аднагодкамі, кожны з іх належаў да элітнай сям'і. Мікола нарадзіўся вясною 1890 года ў Зенькаве на Палтаўшчыне, Фама — у кастрычніку таго ж года ў мястэчку Цімкавічы былога Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён). Бацька Зэрава — настаўнік, загадчык гарадской школы, пазней інспектар народных школ, маці, Марыя Якаўлеўна, належала да казацкага роду, які меў усе доказы на шляхецтва. Бацька Фамы быў сынам выпускніка Віленскага ўніверсітэта, Ганаровага грамадзяніна Расійскай імперыі Сільвестра Бельскага. Да яго наведваліся купцы з Вільні, Варшавы і іншых гарадоў, у цімкавіцкай хаце Бельскіх пастаянна гучала некалькі моў.

Украінца Міколу Зэрава і беларуса Фаму Бельскага лёс упершыню звёў у сценах Кіеўскага ўніверсітэта (на той час Імператарскага ўніверсітэта св. Уладзіміра). Абодва паступілі на гісторыка-філалагічны факультэт, дзе і адбылося іх знаёмства, пачаліся прыязныя сяброўскія стасункі, якія з цягам часу толькі ўмацоўваліся. Трэба сказаць, што Кіеўскі ўніверсітэт таго часу быў адным з вядучых адукацыйных цэнтраў Расіі. Сярод імператарскіх універсітэтаў ён уваходзіў у тройку лепшых вышэйшых навучальных устаноў (пасля Маскоўскага і Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэтаў), гэты статус захаваў і ў савецкі час. Кіеўскі ўніверсітэт праславіўся многімі таленавітымі выпускнікамі ў розных сферах дзейнасці. Дастаткова назваць хаця б наступныя імёны: гісторыка Міхайлы Грушэўскага, філосафа Мікалая Бярдзяева, батаніка Дзмітрыя Зэрава (малодшы брат Міколы), педагога Паўла Блонскага, пісьменніка Міхаіла Булгакава, тэатразнаўца Стэфана Макульскага, літаратуразнаўцаў Мікалая Гудзія, Валянціна Асмуса… А сярод іх і тыя, хто нарадзіўся ў Беларусі: гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі (родам з Рэчыцы), матэматык, астраном і геафізік Ота Шміт (нарадзіўся ў Магілёве)…

У пераліку знакамітых студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта і ён, Мікола Зэраў. Студэнцкі час падараваў яму знаёмства і сяброўства з многімі таленавітымі маладымі людзьмі, якія ў будучым сцвердзіліся ў розных галінах навукі, адукацыі і культуры. Гэта паэт і перакладчык Міхайла Драй-Хмара, лексікограф і мовазнавец Пятро Гарэцкі, гісторык і архівіст Віктар Раманоўскі, гісторык літаратуры, перакладчык і пісьменнік Якаў Галасаўкер, літаратуразнавец і лінгвіст Сцяпан Саўчанка… Усіх іх добра ведаў і Фама Бельскі, які апынуўся ў асяродку гэтай філалагічнай сябрыны, прычым з Якавам Галасаўкерам, Сцяпанам Саўчанкам і іншымі будучымі вядомымі філолагамі ды педагогамі ён вучыўся на адным курсе. Як і Міколу Зэрава, Якава Галасаўкера, яго займала антычная гісторыя і літаратура, вывучэнне старажытных моў. Да таго ж яны былі вялікімі кніжнікамі, літаральна палявалі за кожнай навінкай літаратуры, асабліва што датычыла антычнай класікі, энцыклапедый, слоўнікаў. Гэта і выглумачвае іх высокую адукаванасць, вялікую эрудыцыю. Нездарма Міколу Зэрава пазней крытыка назаве "кніжным паэтам". Для Ф. Бельскага, як і для Зэрава, кніга зрабілася спадарожніцай на ўсё жыццё. Для Фамы — ад часу знаёмства з "Жывапіснай Расіяй" у Слуцкай гімназіі і працы ў бібліятэцы Эдварда Вайніловіча ў маёнтку Савічы, што месціўся паблізу Цімкавіч. Зрэшты, і ў бацькоўскай хаце мелася багатая бібліятэка. Між іншым, кніжніца прафесара Ф. Бельскага налічвала звыш дзвюх тысяч асобнікаў, аднак большасць яго збору згінула ў полымі Вялікай Айчыннай вайны ў Чарнігаве. Чым яшчэ запомніліся студэнцкія гады для Міколы Зэрава, Фамы Бельскага, іхніх агульных сяброў, дык гэта сустрэчамі з кіеўскай даўніной, архітэктурай, прагулкамі па вуліцах і плошчах.

Ф. Бельскі скончыў Кіеўскі ўніверсітэт з дыпломам І ступені ў 1913 годзе і атрымаў прызначэнне на працу ў Златапаль — невялікае мястэчка на памежжы Кіеўшчыны і Херсоншчыны. Бельскі і Зэраў развіталіся надоўга, здавалася нават, што назаўсёды.

Аднак праз год яны сустрэліся ў Златапалі



Златапальская гімназія (Украіна), у якой выкладалі Мікола Зэраў і Фама Бельскі

(між іншым, цяпер гэтага горада няма, ён у складзе Наваміргарада). Сюды ў жніўні 1914 года па загадзе папячыцеля Кіеўскай навучальнай акругі М. Зэраў быў накіраваны на працу. У Златапальскай мужчынскай гімназіі ён пачаў выкладаць гісторыю і лаціну. А Ф. Бельскі выкладаў рускую мову і літаратуру, ужо паспеў набыць педагагічны аўтарытэт. Апрача абавязковых урокаў ён вёў з навучэнцамі заняткі па мастацкай дэкламацыі, ставіў п'есы і інсцэніроўкі. Аляксандр Філіповіч, былы вучань Зэрава і Бельскага, успамінаў: "Выкладчык літаратуры ў нашай гімназіі Фама Антонавіч Бельскі заснаваў на пачатку 1915 года гурток "Аматараў славеснасці", мэтай якога было паглыбленае вывучэнне літаратуры шляхам наладжвання г.зв. літаратурных судоў (з іх прыгадаю два над вядомымі персанажамі расійскай літаратуры: Анегіным і Пячорыным), спектакляў і чытання рэфератаў на літаратурныя тэмы. У яго склад уваходзілі навучэнцы, якія мелі схільнасць да літаратурнай творчасці (было іх каля 25 чалавек), а з выкладчыкаў, апроч кіраўніка гуртка, яшчэ адным быў яго сябра — М. К. Зэраў. Трэба дадаць: ён быў ганаровым сябрам. Другім ганаровым сябрам быў паэт князь Лапухін. Мікола Канстанцінавіч вельмі дапамагаў гурткоўцам у працы сваімі каштоўнымі парадамі, а калі-нікалі быў прысутным на рэфератах і браў слова ў дыскусіі. Гурток выдаваў свой "орган" — невялічкія друкаваныя зборнікі "На шляху да мастацтва". У гэтых зборніках юныя аматары паэзіі друкавалі свае першыя творы, а кіраўнік гуртка падаваў справаздачу за пэўны перыяд працы. У адным з такіх зборнічкаў, якія цудам ацалелі ў мяне, Мікола Канстанцінавіч змясціў свой расійскі пераклад аднаго верша Леконта дэ Ліля "Poemes antiques" пад назвай "Антычны медаль"… Пераклад гэты пазначаны датай: 14 верасня 1917 года" ("Народне слово", 1991, 25 ліп.). Дарэчы, успаміны гэтыя належаць брату вядомага ўкраінскага паэта, перакладчыка і крытыка Паўла Філіповіча, які быў сябрам, літаратурным паплечнікам М. Зэрава.

У Златапалі Зэраў і Бельскі сустракаліся амаль штодня. Зэраў умеў сябраваць, ён лёгка сыходзіўся з людзьмі. Фама таксама быў чалавекам душэўным, таварыскім, добразычлівым. Ён меў шчасце і гонар адным з першых слухаць пераклады Зэрава са старых моў, з французскай паэзіі. Разам яны падтрымлівалі творча адораных гімназістаў, шмат з імі працавалі. Але надышоў той дзень — Мікола і Фама зноў развіталіся. Прычынай гэтаму стала Першая сусветная вайна. Ф. Бельскаму выпала ўзяць у рукі зброю, ён апынуўся на Каўказскім фронце. Аднак як настаўніка яго дэмабілізавалі. Калі вярнуўся на працу ў Златапаль, М. Зэрава там ужо не заспеў....

Златапальскі перыяд стаўся вельмі істотным у жыцці як М. Зэрава, так і Ф. Бельскага. Гэтыя яшчэ вельмі маладыя людзі былі ў палоне летуценняў, задум і памкненняў. Апынуўшыся на перыферыі, яны, аднак, не страцілі імпэту, іх не зацягнулі ў свае цянёты спакусы лёгкага, бесклапотнага жыцця. У Зэраву канчаткова перамог паэт, ён шмат перакладаў, рыхтаваў анталогію рымскай паэзіі. Зрэшты, пачынаў М. Зэраў з друкавання артыкулаў і рэцэнзій у педагагічным часопісе "Світло", газеце "Рада". Фама Бельскі скіраваўся да навукова-даследчай працы, ён браў удзел ва Усерасійскім з'ездзе выкладчыкаў рускай мовы і славеснасці ў Маскве (снежань 1916 — студзень 1917) і выступіў з дакладам "Аб вывучэнні крытыкі". Паступова ён пераключыўся на ўкраіназнаўчую тэматыку.

Фама Бельскі яшчэ ў студэнцкія гады пад уплывам М. Зэрава, М. Драй-Хмары і іншых кіеўскіх сяброў захапіўся ўкраінікай. Ён пачаў грунтоўна вывучаць украінскую мову, якой з цягам часу аваладаў глыбока, дасканала, таму гаварыў і пісаў на ёй нязмушана і лёгка. Ф. Бельскі працаваў прафесарам і загадчыкам кафедраў у шэрагу вышэйшых навучальных устаноў Украіны, лекцыі з поспехам чытаў на ўкраінскай мове. У 1920-я гады свае лепшыя працы па педагогіцы ён напісаў па-ўкраінску: "Педагогіка як навука", "Выяўленне арганізатараў у групах і вызначэнне арганізаванасці груп", "Вывучэнне здольнасцей дзяцей", "Арганізацыя школ для адораных дзяцей", "Мінулае нашага краю" і інш. Прафесар Ф. Бельскі быў адным з пачынальнікаў краязнаўства на Данеччыне і Украіне наогул, актыўна прычыніўся да гуртавання культурна-навуковых сіл Данбаса і арганізацыі сістэмных украіназнаўчых даследаванняў у гэтым рэгіёне. Ён уключыўся ў працу па стварэнні і арганізацыі дзейнасці "Навуковага таварыства на Данеччыне". "Пачало сваю дзейнасць як канчаткова сфарміраваная арганізацыя 20 верасня 1926 года. Важкі ўклад у арганізацыю таварыства зрабілі праф. Ф. А. Бельскі, С. Г. Грушэўскі", — адзначае І. Ключнева ў артыкуле "Краязнаўства на Луганшчыне (20—30-я гг.)".

Зразумела, Кіеў застаўся ў мінулым і вабіў да сябе… М. Зэраў вярнуўся туды праз тры гады, акунуўся ў вір бурлівага літаратурнага жыцця, стаў знакамітым паэтам-неакласікам і прафесарам. Ф. Бельскі прыехаў у Кіеў незадоўга да смерці. Апошняе месца яго працы — загадчык кафедры педагогікі Кіеўскага інстытута фізічнай культуры. Спачывае ён вечным сном на Байкавых могілках.

А дзе магіла М. Зэрава — дакладна невядома. Яго расстралялі сталінскія карнікі ў лясным урочышчы Сандармох, што ў Карэліі. Жыццё ўкраінскага паэта абарвалася 3 лістапада 1937 года. Напярэдадні трагічнага, сумнага 1937-га Ф. Бельскі таксама ратаваўся ад рэпрэсійнай сталінскай машыны. У 1932 годзе прафесар выступіў на вучоным савеце Херсонскага інстытута народнай асветы з крытыкай метаду політэхнізацыі. Гэтае выступленне было расцэнена як варожае, Бельскага вырашылі пазбавіць права выкладаць у інстытуце, пагражалі іншымі наступствамі. Даводзілася ратавацца цягам многіх гадоў, паколькі херсонскі "след" усплываў зноў і зноў. У атмасферы падазронасці і страху нядрэмным, пільным было вока спецслужбаў. У 1935—1936 гг. працаваў у Магілёўскім педінстытуце. Напярэдадні 1937 года, калі на радзіме распачынаўся сталінскі "хапун", ён выправіўся з жонкай у Сярэднюю Азію. Аднак, на жаль, Сталіна і сталінскую ўладу ён не перажыў, памёр у 1952 годзе.

Фама Бельскі даведаўся пра арышт М. Зэрава ад сваёй сястры Яўгеніі Антонаўны. Таму, зразумела, былога калегі і сябра маладосці сустрэць у Кіеве ён ніяк не мог, пра яго лёс, як і многіх іншых ахвяр сталінскага часу, толькі здагадваўся. На доўгія гады імя М. Зэрава было аддадзена забыццю. Перад адыходам у вечнасць, гаворачы з сястрою, цяжкахворы Фама Антонавіч згадаў Міколу Зэрава, абмовіўся: "Паэт несмяротны, ён, як анёл, вяртаецца…"

Пачынаўся 1952 год, на начным небе зазззяла святло зоркі Хрыстовай… Вусны майго дзядзькі ціха прашапталі прарочыя словы царкоўнага песняспеву: "Воскресение Твое, Христе Спасе, Ангели поют на небесех… Воистину Воскресе!.."

## На атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы

**Яго называюць "Паганіні альта", і гэта куды больш эфектна за эпітэты "знакаміты", "вялікі", "геніяльны"… Аднак талент Юрыя Башмета не падлягае красамоўным вызначэнням: ён проста непараўнальны. Зорка, запаленая Богам, паўнамоцны прадстаўнік Яе Вялікасці Музыкі на сучасным зямным абсягу, народны артыст Расіі, выдатны дзеяч у сферы культуры, музычнай педагогікі, асветніцтва… Даўно ўжо зрабіўшыся асобай планетарнага маштабу, Юрый Башмет захоўвае сталыя і асаблівыя стасункі з Беларуссю: тут у яго нямала сяброў-музыкантаў, тут — ужо не адно пакаленне прыхільнікаў, у тым ліку маладых выканаўцаў, для якіх кожнае канцэртнае выступленне маэстра альбо творчая сустрэча з ім — бясцэнны майстар-клас, урок жыцця ў прафесіі. Ці трэба казаць, што ў Юрыя Башмета як таміната на прэмію Саюзнай дзяржавы за дасягненні ў галіне літаратуры і мастацтва няма канкурэнтаў сярод іншых творцаў, вылучаных на атрыманне высокай і прэстыжнай узнагароды?**



*Лана ІВАНОВА,*
**фота Святланы Берасцень**

# Музыка лунае па-над межамі

Сярод нас нямала тых, хто памятае першыя візіты маладога Ю. Башмета ў Мінск, яго канцэрты ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, тэмпераментныя, "дэманічныя" сола доўтавалосага музыканта, чые магічныя рухі абуджалі ўнікальны голас — бельканта, шэпт, вокліч, плач, меладэкламацыю — альтовых струн. Тады нават скептыкаў ён прымусіў успрымаць альт не як дадатковую адметную фарбу ў палітры струнных інструментаў, дзе звычайна дамінуюць скрыпка ці віяланчэль, а як паўнаўладнага караля бязмежнай, таямнічай і эфемернай сімфанічнай прасторы. Не забываецца, як Юрый Абрамавіч прыязджаў у фестывальны Віцебск і граў на вольным паветры — для легендарнага горада М. Шагала. Ёсць сярод нас і тыя, хто ў савецкія часы заўзята сачыў за аўтарскай праграмай Ю. Башмета "Вакзал мечты" на канале Цэнтральнага тэлебачання. Але самыя свежыя ўражанні, звязаныя з творчай і асветніцкай дзейнасцю выдатнага музыканта, прафесара Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, атрымліваюць відавочцы цяперашніх падзей: Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета ды Маладзёжнай музычнай акадэміі краін СНД, арт-дырэктарам якой ён з'яўляецца.

Чарговы, VI Міжнародны фестываль Юрыя Башмета адбудзецца ў Мінску ў першую дэкаду кастрычніка. Гэтае свята высокай музыкі (аўтар ідэі, мастацкі кіраўнік фэсту — лаўрэат міжнародных конкурсаў, беларускі піяніст Р. Крымер, ганаровы сустаршыня аргкамітэта — Ю. Башмет) параллельна скіраванае на захаванне і развіццё класічнага мастацтва, на падтрымку маладых талентаў і наватарства ў галіне культуры. Унікальнасць і перспектыўнасць гэтаму інтэрнацыянальнаму праекту надае ідэя супольных канцэртных выступленняў маладых таленавітых выканаўцаў поруч з выбітнымі, нават легендарнымі музыкантамі сучаснасці. І зусім арганічна ўспрымаецца правядзенне ў Мінску адначасова з фестывалем Маладзёжнай музычнай акадэміі краін СНД, якая сёлета пройдзе трэці раз.

> *Мастацтва, якому самааддана служыць Юрый Башмет, ва ўсе часы застаецца лепшым дыпламатам, які не ведае памежных ўмоўнасцей і перашкод. Маэстра кажа: "Якія б ні былі палітычныя сітуацыі, класічная музыка не выклікае агрэсію, яна яднае людзей. Я ахвотна супрацоўнічаю з музыкантамі Беларусі і вельмі люблю бываць у гэтай краіне. Мы нясём наш сцяг сяброўства і будзем супрацоўнічаць надалей".*

У фестывальным сузор'і гэтым разам — піяніст Мікалай Луганскі з сольным канцэртам у Беларускай дзяржаўнай філармоніі; чарада салістаў у праграме "Парад зорак" з удзелам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава; уладальнік прэміі "Грэмі" камерны ансамбль "Солисты Москвы" са сваім стваральнікам, дырыжорам, салістам Юрыем Башметам ды піяністам Расціславам Крымерам; маладыя беларускія музыканты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў цымбалістка Вераніка Прадзед і скрыпачка Улада Беражная, ды яшчэ скрыпач з Венгрыі Крыстоф Бараці — у партнёрстве з нашым сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам госця з Эстоніі — маэстра Андраса Мустанена; таленавітыя вучні Міжнароднай музычнай акадэміі краін СНД у філарманічным канцэрце з удзелам Юрыя Башмета, піяніста Васіля Лабанава (Германія), расійскіх салістаў — скрыпача Аляксандра Трасцянскага, альтыста Віталя Астахава, кларнетыста Ігара Фёдарава... А на закрыццё фестывалю — сапраўдны сюрпрыз: выступленне знанага ўкраінскага гурта "Океан Эльзи" ў суправаджэнні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Будзе гэта 10 кастрычніка ў сталічным Палацы спорту.

Год таму, разважаючы пра дзейнасць Маладзёжнай музычнай акадэміі краін СНД, маэстра Ю. Башмет выказаў надзею, што Мінск стане месцам пастаяннага правядзення гэтага форуму настаўнікаў і вучняў, што з часам колькасць прадстаўленых спецыяльнасцей будзе пашырацца і ўрэшце ўдасца сабраць поўны склад сімфанічнага аркестра. "Усё гэта патрэбна і для прафесійнага росту, і для творчых і чалавечых, сяброўскіх стасункаў таленавітых маладых людзей з розных краін, чые бацькі жылі калісьці ў адной дзяржаве і не ведалі міжнацыянальных бар'ераў. Мы не збіраемся ствараць нейкую "палітычна-музычную дзяржаву". А вось стварыць Імперыю Музыкі — хацелася б!" — так падсумаваў Ю. Башмет задачы свайго адукацыйна-творчага праекта. Вядома, да высакароднай мэты збліжэння народаў праз музыку, падтрымкі лепшых традыцый выканальніцкага мастацтва, пераемнасці творчых пакаленняў скіраваны і яго фестываль, які неўзабаве адбудзецца ў Мінску, а таксама завітае ў сёлетнюю культурную сталіцу Беларусі — Гомель.

***На здымку: першы прарэктар па навуковай працы Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Юрый Златкоўскі і народны артыст СССР Юрый Башмет падчас сустрэчы ў Мінску.***

## ART-пацеркі

*Лана ІВАНОВА,*
**фота Святланы Берасцень**

Да 150-годдзя з дня нараджэння Ігната Буйніцкага ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі разгорнута дакументальная выстаўка з фондаў гэтай установы, а таксама Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. У экспазіцыі — арыгіналы фотаздымкаў "бацькі беларускага тэатра" і акцёраў яго трупы, паштоўкі, копіі афіш і праграмак. Выстаўка з'яўляецца адметным праектам Міжнароднай асацыяцыі музычных музеяў, што збіралася ў ДМГТМК Беларусі амаль месяц таму, і месцам правядзення шэрагу нядаўніх тэматычных імпрэз, у тым ліку канцэртнай праграмы ў гонар юбілею І. Буйніцкага, прэзентацыі прысвечаных яму манеты Нацбанка Беларусі ды паштовага канверта, а таксама будучых творчых сустрэч, традыцыйных для гэтага музейнага дома ў Музычным завулку.

Пачатак новага сезона Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі азнаменаваўся не толькі паказамі яркіх прэм'ер, але і выстаўкай у фае: "Партрэт. Пейзаж. Нацюрморт". Свае творы прадставіў ветэран айчыннай сцэнаграфіі, колішні мастак-пастаноўшчык



гэтага тэатра, заслужаны работнік культуры Беларусі Яўген Ждан. Тут і па-дэкаратыўнаму кідкія жывапісныя карціны, пазначаныя 2011 годам (у тым ліку алегарычны аўтапартрэт мастака), і працы духам гісторыі стылізаваныя выявы тэатральных касцюмаў, намаляваныя ў разгар мінулага стагоддзя.

Больш як 100 стужак з 19 краін свету было прадстаўлена ў праграме міжнароднага фестывалю анімацыйных фільмаў "Анімаёўка-2011". Ён прайшоў у Магілёве ўжо чатырнаццаты раз. Арганізатары — Міністэрства культуры краіны, Магілёўскі аблвыканкам, гарадскі выканаўчы камітэт і абласное ВУП "Кінавідэапракат" паспрыялі знаёмству гледачоў з сучаснымі набыткамі мультыплікацыйных студый Беларусі, Арменіі, Азербайджана, Венгрыі, Грузіі, Германіі, Ірана, Казахстана, Канады, Кітая, Польшчы, Расіі, Узбекістана, Францыі, Чэхіі, Эстоніі ды нашых бліжэйшых суседзяў. Кінапаказы суправаджаліся разнастайнай творчай праграмай.

У знак памяці пра свайго колішняга мастацкага кіраўніка, рэжысёра Андрэя Андросіка Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача распачаў чарговы сезон спектаклем "Маленькі лорд Фаўнтлярой" М. Воранава паводле Ф. Бернет. Яго паставіў незабыўны майстар, якому сёлета споўнілася б 70. З 1998 г. жыве на сцэне гэты знакавы спектакль, праз які А. Андросік увасобіў адзін з найважнейшых напрамкаў дзейнасці ТЮГа як тэатра для дзяцей з бацькамі.

***На здымку: графічны аркуш Яўгена Ждана з эскізам касцюмаў да пастаноўкі балета "Бахчысарайскі фантан". 1973 год.***

Кіра ШУМСКАЯ

# …Таксама чалавек!

**"Lalka też człowiek" ("Лялька таксама чалавек") — так называўся фестываль польскіх спектакляў і анімацыйнага кіно для дарослых, які прайшоў у Мінску.**

Гэты фестываль нарадзіўся ў Польшчы, дзе і праводзіцца з 2006 года. Штогод ён фінансуецца ўладамі Варшавы, а таксама Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы, Вышаградскім фондам, Нацыянальным аўдыёвізуальным інстытутам, культурнымі ўстановамі паасобных краін, замежнымі пасольствамі, прыватнымі спонсарамі, фірмамі. Неаднаразова фестывальныя пастаноўкі ўзнагароджваліся прызамі прыватных спонсараў. Фестываль знаходзіцца пад ганаровым патранатам Польскага лялечнага асяродка Міжнароднай асацыяцыі мастакоў — лялечнікаў "Polunima", а таксама мэра Варшавы.

Сёлета гэты праект пашырыў свае межы і ўпершыню завітаў у Мінск, атабарыўшыся ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек. У межах фестывалю было прадстаўлена і польскае анімацыйнае кіно. Мінчане ўбачылі такія мультфільмы, як "Дабрыня, прыгажосць і праўда", "Кветачны магазін", "Пеця і воўк" і інш. Прадстаўленыя работы польскіх аніматараў вызначаліся філасофскім, сацыяльным і палітычным зместам. Сапраўды, не дзіцячыя мульцікі.

Фільм 2006 года "Пеця і воўк" (студыя "Se-ma-for") створаны паводле музычнай казкі кампазітара Сяргея Пракоф'ева. Галоўны герой, хлопчык Пеця, вымушаны змагацца з жорсткасцю сучаснага свету. Мультфільм пабудаваны на кантрастах гумару і брутальнасці, дзіцячай чысціні і складанага асяроддзя дарослых. Пеця змагаецца за праўду, свабоду і справядлівасць. Выклік, які кіне яму лёс, прымусіць яго перамагчы свае слабасці і дапаможа ўступіць у свет дарослых.

"Пеця і воўк" — выдатны фільм, які атрымаў шматлікія прэстыжныя ўзнагароды, у тым ліку прэмію "Оскар" за лепшы анімацыйны кароткаметражны фільм (2007).

Малгажата Сады (куратар, перакладчыца, удзельніца і творца мастацкіх праектаў) — адна з чыннікаў польскага фестывалю спектакляў і анімацыйнага кіно ў Мінску — падрабязна расказала гледачам і журналістам пра зараджэнне польскай анімацыі:

*— "Семафор" ("Se-ma-for") — гэта найстарэйшая і самая вядомая ў Польшчы студыя анімацыйных фільмаў. Вытокі яе ідуць ажно з 1947 года, калі ў прыватнай кватэры ў Лодзі пластык Зянон Васілеўскі разам з групай знаёмых — энтузіястаў анімацыі рэалізаваў у Польшчы першы анімаваны лялечны фільм "У часах караля Кракуса". З таго часу ў "Семафоры" было зроблена больш як 1400 фільмаў (сярод іх 800 лялечных), якія здабылі па ўсім свеце сотні ўзнагарод, разам з двума "Оскарамі" (за фільм "Танга" Збігнева Рыбчыньскага ў 1983 годзе і за фільм "Пеця і воўк" Сузі Тэмплетан). У 2010 годзе фундацыя фільмаў "Семафор", якая працуе пры студыі, стварыла цалкам новы фестываль. Фестываль фільмаў "Семафор" з'яўляецца другім у свеце і першым у Еўропе фестывалем паклетачнай анімацыі, перадусім лялечнай і пластычнай.*

Пані Малгажата і яе калегі паведамілі, што нядаўна пабывалі на Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", пазнаёміліся там з беларускімі аніматарамі. Як прызналася М. Сады, дагэтуль яна і не ведала пра тое, што ў Беларусі ствараюцца анімацыйныя фільмы. Польскіх калег гэтае "адкрыццё" прыемна ўразіла.

Госці запэўнілі, што сёлетні іх фестывальны візіт у Беларусь не апошні. Яны паабяцалі надалей прыязджаць і радаваць беларускага гледача сваім мастацтвам, пераконваючы ў тым, што лялька таксама чалавек…

# Феномен Чурлёніса



*Старшыня БСМ Уладзімір Савіч і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў нашай краіне Эдмінас Багдонас падчас адкрыцця выстаўкі.*

**Падчас урачыстага адкрыцця гэтай экспазіцыі высветлілася, што імя сусветна вядомага літоўскага творцы адметным чынам звязанае і з беларускай зямлёю.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс... Кароткае зямное жыццё — і вечны светлы след, які пакінуў у мастацтве гэты літоўскі геній. Яго ўнікальны талент рознабакова раскрыўся ў музычнай творчасці і выканальніцтве, жывапісе і графіцы, у публіцыстыцы і філасофскай паэзіі, у пейзажнай фатаграфіі. Сёлета адзначаюцца сотыя ўгодкі завяршэння зямнога жыцця М. Чурлёніса, і гэтая сумная дата сталася нагодай для арганізацыі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, сумесна з Пасольствам Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, манаграфічнай выстаўкі. На ёй прадстаўлены зробленыя паводле найноўшых тэхналогій копіі жывапісных работ майстра і здымкаў з яго фотаальбома "Анапа-1905".

На такія выстаўкі выпадковая публіка не ходзіць. Прыходзяць тыя, у кім ад нараджэння жыве сугучная ўніверсальнай творчасці М. К. Чурлёніса "музыка сфер", і тыя, чые душы настроеныя на адкрыццё і ўспрыманне касмічнай казкі. Прыцягальнай і загадкавай казкі, якую праз візуальныя і музычныя вобразы падараваў чалавецтву гэты няўрымслівы, акрылены вольнай фантазіяй грамадзянін Сусвету — і сын Літвы, невытлумачальны ў сваёй выключнасці творца-філосаф з магутнымі зямнымі каранямі, своеадметнай нацыянальнай ментальнасцю і марай пра ўсеагульную гармонію.

Неабыякавыя да мастацтва беларусы сярэдняга і старэйшага пакаленняў творчасць М. К. Чурлёніса ведаюць і шануюць. Што і казаць! Літва ніколі не была для нас проста суседкай. Мы ўспрымалі ды ўспрымаем яе як блізкага сябра, надзейнага партнёра, калі не сказаць больш, — як сястру: стагоддзямі жылі ў адным еўрапейскім доме, разам змагаліся з агульнымі бедамі, разам збіралі свой старажытны і вялікі культурны скарб; павага да самабытнасці ды незалежнасці адно аднаго не замінае нам і сёння шчыра кантактаваць, ус-



*Аўтапартрэт Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса.*

памінаць далёкую, трагічную і слаўную гісторыю нашага братэрства, абменьвацца мастацкімі набыткамі, ажыццяўляць супольныя культурніцкія праекты. І марыць пра той час, калі мы зможам ездзіць у госці без віз, як некалі. Так, у свой час мінчане маглі на працягу дня наведаць выстаўку, тэатральны спектакль ці канцэрт у Вільнюсе або паблукаць па музеях Каўнаса, дзе, дарэчы, і адбывалася наша знаёмства з творчасцю вялікага Чурлёніса.

Вось і старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч падчас адкрыцця выстаўкі прыгадаў тыя гады, калі ён вучыўся ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка: "Наша школа сябравала з гэткай жа навучальнай установай Літвы. Мы абменьваліся візітамі, адбываліся ўзаемнае знаёмства з культурнымі адметнасцямі. Таму імя Чурлёніса я ведаю з дзяцінства. Мы слухалі яго музыку, глядзелі яго работы, дзе музыка прысутнічае нават у жанрах: прэлюдыя, саната... І нічога страшнага ў тым, што фінансавыя праблемы не дазволілі паказаць у Мінску арыгіналы твораў Чурлёніса. Думаю, сама выстаўка настолькі зацікавіць нашых гледачоў, што яны захочуць з'ездзіць у Каўнас і паглядзець яго жывапісную калекцыю".

З выступленняў дырэктара НММ Беларусі Уладзіміра Пракапцова і начальніка ўпраўлення культуры Мінскага гарвыканкама Віталіны Рудзікавай вынікала, што імя літоўскага генія адметным чынам звязанае і з беларускай зямлёю. Якім жа чынам? Яшчэ пры жыцці Чурлёніса яго работы экспанаваліся больш як на 28 выстаўках: у Варшаве, Санкт-Пецярбургу, Вільнюсе, Каўнасе, Кракаве, Рызе, Кіеве, Парыжы, Маскве — і ў Мінску. Дзяцінства яго прайшло ў наваколлі Друскінінкая — зусім побач з нашай Гродзеншчынай (дарэчы, у адным з мікрараёнаў Гродна ўлетку з'явіўся завулак Чурлёніса). Жонка майстра паходзіла з роду Чарноўскіх, уладальнікаў маёнтка Пятроўшчына пад Мінскам. У тым маёнтку нарадзілася іх дачка, Данута Чурлёнітэ. І хоць маёнтак да нашых дзён не захаваўся, яго назва не забытая. Больш за тое: на месцы колішняй Пятроўшчыны будзе ўпарадкавана адна з новых мінскіх вуліц, якой вырашана надаць імя М. К. Чурлёніса. З гэтай нагоды плануецца ўрачыстая імпрэза — і абавязкова пры ўдзеле нашых літоўскіх сяброў.

*"Бацька Чурлёніса служыў арганістам у касцёле, маці займалася гаспадаркай і гадавала дзевяцярых дзяцей. Шасцігадовым хлапчуком Мікалоюс Канстанцінас іграў на аргане падчас набажэнстваў. У 14 гадоў быў прыняты ў аркестр пры маёнтку графа Міколаса Агінскіса, дзякуючы фінансавай падтрымцы якога скончыў Варшаўскі музычны інстытут і атрымаў дыплом кампазітара, а пасля вучобы ў Лейпцыгскай кансерваторыі — пасведчанне настаўніка. У Лейпцыгу зацікавіўся маляваннем, браў прыватныя ўрокі, а ўдасканаліў адукацыю ў Варшаўскай мастацкай школе. Пераехаўшы ў 1907 г. у Вільню, спрычыніўся да заснавання Літоўскага мастацкага таварыства. У 1909-м быў прыняты ў Новае Мюнхенскае аб'яднанне мастакоў (Neue Kuenstlervereinigung Muenchen), а праз год — у пецярбургскую групу "Мир искусства". Планаваў пераезд у Санкт-Пецярбург, але апошні візіт у сталіцу Расійскай імперыі знясіліў мастака. Памёр ад пнеўманіі ў польскім санаторыі "Чырвоны двор", не дажыўшы да 36 гадоў.*



**Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс, "Зіма (II)" з аднайменнага цыкла карцін (папера, тэмпера, 1907 г.).**

# Шчасце — у «Цюбіку»

**Юлія ВАЎЧОК**

**Дзверы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь у той дзень былі адчыненыя для ўсіх, хто хацеў павіншаваць з 60-годдзем Вольгу Брыгадную — кіраўніка мастацка-адукацыйнай студыі "У госці да Цюбіка". Студыя і музей працуюць разам з кастрычніка 1991 года. І менавіта Вольга Яўгенаўна ўсе гэтыя 20 гадоў сустракае і апякае дзяцей у храме мастацтва.**

Вольга Брыгадная нарадзілася ў Мінску. Разам з татам дзяўчынка хадзіла ў Нацыянальны мастацкі музей глядзець пейзажы І. Шышкіна. Аднойчы ўбачыла аб'яву пра набор школьнікаў у гуртох юных аматараў мастацтва — і з гэтага часу яе жыццё было настолькі звязана з музеем, што давялося рабіць нялёгкі выбар паміж мастацтвазнаўствам і гісторыяй архітэктуры. Вучыцца паступіла ўсё ж на архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (цяпер БНТУ). Там пазнаёмілася з будучым мужам, і сёння ў сям'і Брыгадных двое дзяцей, трое ўнукаў.

Вядома, не толькі родных Вольгі Яўгенаўны гасцінна прымаў Нацыянальны мастацкі музей у святочны для яе дзень. Тут сабраліся і сённяшнія студыйцы разам з бацькамі, і тыя, хто ў розны час прайшоў школу "Цюбіка" ці проста любіць і паважае В. Брыгадную. На пачатку вечарыны выхаванцы студыі нават наладзілі сімвалічную каранацыю сваёй настаўніцы! Потым было юбілейнае віншаванне ад намесніка дырэктара НММ Беларусі па навуковай рабоце Надзеі Усавай, якая адзначыла, што "Цюбік" — унікальная студыя, адзіная ў Беларусі, і кіраўнік гэтай студыі — унікальны чалавек. А бацькі ўжо былых цюбікаўцаў наладзілі святочны і змястоўны спектакль пра гісторыю фарбаў, сцэнарый якога стварыла адна з такіх адданых студыі бацькоў — пісьменніца Алена Масла.

Пра тое, што значыць студыя "Цюбік" для самой Вольгі Брыгаднай, яна кажа так: "Гэта мой лёс, маё жыццё, месца, дзе я адчуваю сябе патрэбнай. Мы з музеем імкнёмся падараваць кожнаму студыйцу "свята высокага духу" — падзеі, якія ўзносяць чалавека над штодзённасцю. Мы не рыхтуем патэнцыяльных мастакоў і мастацтвазнаўцаў, наш кірунак — агульнае эстэтычнае развіццё. Усё робім для таго, каб жыццё дзіцяці было цікавым і шчаслівым".



# Як пад шаўковым шалем

**У Баранавічах з поспехам прайшлі Дні індыйскага кіно. Аматары фільмаў Балівуда атрымалі асалоду ад прагляду некалькіх шэдэўраў знакамітых індыйскіх рэжысёраў, а таксама змаглі акунуцца ў атмасферу радзімы індуізму і хіндзі.**

**Яўген СІНІЧЭНКА**

Судотык дзвюх розных культур заўсёды быў працэсам узаемапавучальным і плённым для абедзвюх нацый. І ў нашай сталіцы, і ў іншых гарадах арганізуецца нямала мерапрыемстваў, якія дапамагаюць беларусам бліжэй пазнаёміцца з духоўным і матэрыяльным светам далёкіх краін. Вось і ў баранавіцкім кінатэатры "Кастрычнік" ладзіўся фестываль, на якім былі прадстаўлены работы такіх вядомых майстроў індыйскага кіно, як Субхаша Гаі, Прадзіпа Саркара і іншыя. Адкрыццё фестывалю наведаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь Манодж Кумар Бхарці з жонкай. На ўрачыстай імпрэзе выступіў народны ансамбль індыйскага танца "Сапна", удзельніцы якога прадэманстравалі вытанчанасць усходняй харэаграфіі.

Але галоўная частка фэсту — прагляд фільмаў. За тры дні баранавіцкаму гледачу паказалі такія шэдэўры індыйскага кіно, як меладрама "Парыніта" ("Анёл кахання"), "Таал" ("Рытмы кахання"), камедыя-баявік "Бадшах" ("Кароль"), "Сустрэчы пад дажджом" і іншыя. Усё гэта фільмы, знятыя ў перыяд 1999 — 2005 гг., якія лічацца сучаснай класікай Балівуда.

Не сказаць, што Баранавічы — культурны цэнтр сяброўства народаў, але на гэтыя тры дні горад шаўковым шалем атуляла атмасфера ўзаемаразумення і зблíжэння дзвюх краін праз мастацтва, інспіраваная кінафестывалем.

***На здымку: актрыса Відзя Балан, кадр з фільма "Парыніта".***

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

16 верасня 2011 г.

15 верасня — Дзень бібліятэк

# Сучасны чытач: выхаваны, адукаваны, патрабавальны

***Напярэдадні прафесійнага свята мы звярнуліся да дырэктараў абласных бібліятэк краіны і задалі ім тры пытанні:***

**1. Які праект сваёй бібліятэкі лічыце найбольш удалым сёлета?**
**2. Ці памятаеце свой першы досвед ад наведвання бібліятэкі і ці дапамагае ён вам будаваць адносіны з чытачамі?**
**3. Якім вам бачыцца партрэт сучаснага карыстальніка бібліятэкі?**



**Дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Тамара ДАНІЛЮК:**

1. Думаю, што самай значнай падзеяй года для нашай бібліятэкі стала прэзентацыя дыска "Кнігазбор роду Сапегаў", якая адбылася ў адрэстаўраваным флігелі Ружанскага замка Льва Сапегі ў чэрвені. Дыск створаны пры фінансавай падтрымцы Бюро ЮНЕСКА ў Маскве ў рамках міжнароднага праекта "Віртуальная рэканструкцыя бібліятэкі роду Сапегаў", партнёрамі якога з'яўляюцца Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Расійская нацыянальная бібліятэка і Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага. Праца працягваецца, і ў перспектыве — другая навукова-практычная канферэнцыя "Берасцейскія кнігазборы" ў 2012 годзе.

2. На жаль, першае наведванне бібліятэкі не захавалася ў памяці, але прысутнасць яе ў маім жыцці адчувалася з самага ранняга дзяцінства. Я заўсёды з задавальненнем рыхтавалася да заняткаў. Літаратура была любімым прадметам, і мой класны кіраўнік, заўважыўшы маю любоў да напісання сачыненняў, чытання паэзіі, роздуму аб прачытаным, думала, што я стану педагогам-філолагам. Але выбар прафесіі быў усвядомленым, і ў бібліятэчнай справе я ўжо больш як 34 гады. А адносіны з чытачамі заўсёды імкнулася будаваць на ўзроўні партнёрства: мае веды — чытачу, яго веды — мне.

3. Калі абапірацца на бібліятэчную статыстыку, то практычна палова наведвальнікаў бібліятэк — вучні і студэнты. А гэта значыць, што сучасны карыстальнік бібліятэкі малады, атрымлівае альбо агульную, альбо прафесійную адукацыю і патрабуе хуткага кваліфікаванага доступу да неабходнай для яго інфармацыі. Разам з тым, у апошнія некалькі гадоў расце колькасць чытачоў такой катэгорыі, як хатнія гаспадыні, пенсіянеры, беспрацоўныя — а гэта ўжо зусім іншыя патрабаванні як да фонду, так і да бібліятэчных работнікаў.



**Дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Ілона САРОКІНА:**

1. Праект года — стварэнне музейнага пакоя гісторыі бібліятэкі і кнігі, адкрыццё якога адбылося 14 верасня, напярэдадні Дня бібліятэк Беларусі. У працы над ім бяруць удзел усе пакаленні супрацоўнікаў бібліятэкі, вывучаючы дакументы і матэрыялы архіваў. Гэта дазваляе ўспрымаць сваю бібліятэку не як адну з шасці абласных, а як індывідуальнасць, з цікавай гісторыяй даўжынёю ў 75 год.

2. Першае наведванне бібліятэкі адбылося, калі наш першы клас павялі знаёміць з дзіцячай бібліятэкай. Усіх запісалі і дазволілі з прапанаваных кніг узяць толькі па адной. Але ўразіла мяне пазней дзіцячая бібліятэка імя А. С. Пушкіна, якая ў той час месцілася ў старым драўляным будынку. Хатняя ўтульнасць, душэўная цеплыня супрацоўнікаў, а галоўнае — перабіраць кнігі на паліцах можна самому, і разглядаць іх, і перагортваць колькі заўгодна! А яшчэ мне на некалькі дзён далі кнігу "Малыш і Карлсан, які жыве на даху" — гэта была мара! Мне аказалі давер. Пазней, прыйшоўшы ў прафесію, я зразумела, што бібліятэкар і чытач павінны быць партнёрамі, і тады наведванне бібліятэкі і чытанне будуць толькі ў радасць.

3. Узроставых абмежаванняў для нашага чытача няма — бібліятэцы падуладны ўсе ўзросты. Роўна як няма ні сацыяльных, ні адукацыйных абмежаванняў. Чалавек цэніць свой час, таму, нягледзячы на даступнасць інфармацыі ў сетцы Інтэрнэт, яму патрэбныя кансультацыі бібліятэкара пры пошуку і адборы інфармацыі, незалежна ад спосабу яе перадачы.



**Дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага Лідзія МАЛЬЦАВА:**

1. Найбольш удалы праект — стварэнне інтэрактыўнага цэнтра па навуцы і тэхніцы на базе дзіцячага філіяла.

2. Гэта было ў раннім дзяцінстве: сельская бібліятэка, добразычлівы бібліятэкар, які патрабаваў пераказваць змест прачытанай кніжкі і пры гэтым уважліва слухаў кожнага чытача. Успаміны пра першага бібліятэкара дапамагалі мне, калі я працавала ў дзіцячай бібліятэцы.

3. Наш чытач — выхаваны, адукаваны, патрабавальны, здольны правільна сфармуляваць інфармацыйны запыт. Валодае сучаснымі інфармацыйнымі тэхналогіямі і рэсурсамі. Дасканала ведае правілы карыстання бібліятэкі. На жаль, пры гэтым часта парушае іх.



**Дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Аляксандр СЁМКІН:**

1. Найбольш удалым праектам года можна лічыць арганізацыю і правядзенне расійска-беларускага конкурсу-фестывалю літаратурнай творчасці "Чытаем разам!", арганізатарамі якога выступілі Віцебская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна і Пскоўская абласная універсальная навуковая бібліятэка. Конкурс праводзіўся з мэтай прыцягнення ўвагі да праблем чытання, сацыяльнага і духоўнага складнікаў літаратурнай творчасці, развіцця кніжнай культуры і быў прысвечаны тэме "Чытаем Лермантава, або Герой нашага часу". 15 верасня, у Дзень бібліятэк, мы падвялі яго вынікі і ўшанавалі пераможцаў, якіх вызначала аўтарытэтнае журы (Нацыянальны экспертны савет) і ўдзельнікі інтэрнэт-галасавання.

Другі сумесны праект, які меў дачыненне да адной з самых галоўных і значных падзей у культурным жыцці краіны, быў прысвечаны XX Міжнароднаму фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", юбілей якога стаў нагодай для грунтоўнага даследавання і першай сур'ёзнай спробай сістэматызацыі матэрыялаў пра фестывальны рух у Віцебску. За кароткі перыяд рабочай групай, у склад якой увайшлі супрацоўнікі абласной бібліятэкі, Цэнтра культуры "Віцебск" і Дырэкцыі фестывалю мастацтваў, былі падрыхтаваны і выдадзены навукова-дапаможны тэматычны бібліяграфічны паказальнік, прэзентацыя якога прайшла ў рамках праграмы фестывалю ў Міжнародным прэс-цэнтры.

2. Першае наведванне Слаўгарадскай раённай бібліятэкі адбылося разам з настаўніцай Нінай Камандзенкай. Я помню нават першую кніжку, якая была прысвечана авіяцыі. У той час амаль усе хлопчыкі марылі стаць лётчыкамі, пра гэта і чыталі.

Што да маіх адносін да чытачоў сёння, то я ўпэўнены: трэба імкнуцца ствараць усе ўмовы для таго, каб ім у бібліятэцы было камфортна. Неабходным складнікам іміджу бібліятэкі лічу прафесіяналізм і добразычлівасць персаналу.

3. Сучасны карыстальнік уяўляецца мне інтэлектуалам, адукаваным чалавекам з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, які з лёгкасцю валодае інфармацыйнымі тэхналогіямі, мае разнастайныя інтарэсы і чакае ад бібліятэкі задавальнення сваіх патрэбнасцей, патрабуе яе развіцця адпаведна рэаліям часу.



**Дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Наталля ЧУЕВА:**

1. У 2011 годзе калектыў нашай бібліятэкі ажыццявіў шэраг цікавых праектаў. Сёлетні абласны злёт "Юныя таленты Міншчыны", які сямнаццаты раз сабраў юных аматараў літаратуры і мастацтва, праходзіў пад дэвізам "З любоўю да роднага слова" і прысвячаўся беларускай мове. У конкурсе ўзялі ўдзел дзеці ва ўзросце ад 6 да 15 гадоў — больш як 400 чалавек, — якія даслалі на конкурс 679 работ: вершы, апавяданні, казкі, нарысы, сачыненні, загадкі, малюнкі.

Сумесна з Інстытутам імя Гётэ была арганізавана інтэрактыўная і мультымедыйная выстаўка "Размаўляем па-нямецку". На ёй прадстаўлялася каля пяцісот экспанатаў па раздзелах "Узнікненне нямецкай мовы", "Прыгажосць мовы", "Маладзёжны жаргон", "Мова Усходняй і Заходняй Германіі", "Мова і мастацтва". У аддзеле замежнай літаратуры створаны і плённа працуе клуб "Вусны журнал падарожніка". Клуб аб'ядноўвае творчую інтэлігенцыю горада. Адбыліся ўжо сустрэчы з мастацтвазнаўцай Тамарай Карандашовай, выдаўцом Ігарам Віркоўскім, лідарам гурта "Стары Ольса" Зміцерам Сасноўскім ды інш.

2. Я ў пяць гадоў ужо добра чытала: дома была выдатная бібліятэка. А ў гарадскую ўпершыню прыйшла з мамай, калі вучылася ў першым класе. Уразілася, калі ўбачыла такую колькасць кніг. Памятаю добразычлівага бібліятэкара. І ў сталым узросце я вельмі цаню ў бібліятэкару эрудыцыю і ўменне быць зычлівым, усміхацца.

3. У бібліятэку прыходзяць розныя катэгорыі насельніцтва: гэта і цікаўная моладзь, для якой вельмі важна наяўнасць інтэрнэт-тэхналогій; і пенсіянеры, якія з задавальненнем чытаюць літаратуру для душы. Вельмі прыемна, што ёсць, праўда, не такая шматлікая, як раней, група чытачоў-эрудытаў, якіх цікавяць літаральна ўсе навінкі: айчынная і замежная літаратура, грамадска-палітычныя і навукова-пазнавальныя часопісы. Гэта сапраўдныя аматары кнігі.

**Матэрыялы падрыхтавала Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**

**Сёлета часопісу "Бібліятэчны свет" спаўняецца 15 гадоў. Яго рэдакцыя і "офіс" размяшчаюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, дзе канцэнтруецца ўся інфармацыя з бібліятэчнай сферы. Галоўны рэдактар часопіса — намеснік дырэктара НББ па навуковай працы, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Людміла Кірухіна. Яна адразу пачала распавядаць пра рэдакцыйныя справы.**

Ірына ТУЛУПАВА

# Пятнаццаты верасень

— Пятнаццаць гадоў — гэта ўжо пэўны рубеж: ёсць што паказаць і што падсумаваць. 60 нумароў, больш як 800 артыкулаў. За гады існавання часопіс набыў яскрава акрэслены навукова-практычны і навукова-метадычны характар. Ён з'яўляецца своеасаблівым рупарам новых ідэй і ведаў. Сёння я з задавальненнем скажу: шэраг публікацый і пісьмаў, у тым ліку электронных пісьмаў, у большасці сваёй мы атрымліваем ад шматлікіх бібліятэк краіны.

Матэрыялы, змешчаныя ў часопісе, прысвечаны шырокаму колу пытанняў бібліятэчнай справы: заканадаўчай і нарматыўна-рэгламентуючай базе сучаснай бібліятэчнай практыкі; фарміраванню інфармацыйных рэсурсаў і асаблівасцей захоўвання фондаў; арганізацыі інфармацыйна-бібліятэчнага і сацыякультурнага абслугоўвання карыстальнікаў; распрацоўцы комплексу інфармацыйна-тэхналагічных сістэм; каардынацыі навуковых даследаванняў; прафесіяналізацыі бібліятэчных кадраў Беларусі. Дастаткова толькі пералічыць асноўныя рубрыкі, каб зразумець, што ў часопісе прадстаўлена ўся палітра актуальных тэм: "Афіцыйна", "Арыенціры бібліятэчнай палітыкі", "Бібліятэкі і аўтарскае права", "Бібліятэкі вышэйшых навучальных устаноў", "У дзіцячых бібліятэках", "Інфармацыйныя рэсурсы" і "Інфармацыйныя тэхналогіі", "Краязнаўства", "Экалагічнае выхаванне" ды іншыя.

У полі зроку часопіса і тое, што датычыць дзейнасці ў галіне даследаванняў бібліятэчнай справы, гісторыі тых ці іншых бібліятэк — і публічных, і навуковых.

Мы адкрылі рубрыку "На хвалі літаратуразнаўства", якая вельмі падабаецца нашым чытачам. Тут галерэя лепшых выданняў: каб паказаць, што бібліятэкі друкуюць самі і што найлепшае выходзіць у нашай краіне. Да гэтай жа рубрыкі далучаем шматлікія рэцэнзіі на кнігі. І запрашаем пісьменнікаў да супрацоўніцтва: калі ласка, пішыце нам.

Часопіс звяртае ўвагу на тое, што адбываецца ў раёнах ці аддаленых вёсках. Можна без перабольшвання сказаць, што сёння бібліятэкар-прафесіянал знойдзе ў часопісе адказ на любое пытанне, што ўзнікае ў яго паўсядзённай працы.

**— Людміла Генадзьеўна, "Бібліятэчны свет" — дзяржаўны часопіс, які спецыялізуецца на забеспячэнні патрэб бібліятэчнай супольнасці. Яго заснавальнікамі з'яўляюцца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Беларуская бібліятэчная асацыяцыя. Але ёсць і іншыя, недзяржаўныя перыядычныя выданні, якія ўзнімаюць падобныя тэмы, праблемы бібліятэк. Як падзяляеце з імі інфармацыйнае поле?**

— Бясспрэчна, мы не пераходзім дарогу адназму, а дапамагаем, дапаўняем. Згадаем другі бібліятэчны часопіс — "Бібліятэка прапануе". Ён у большасці сваёй зарыентаваны на дзіцячыя бібліятэкі. У яго крыху іншая канцэпцыя. Калі "Бібліятэчны свет" адлюстроўвае лепшы вопыт і праблемы бібліятэчнай справы, выступае за прафесіяналізацыю бібліятэчных кадраў, то "Бібліятэка прапануе" — гэта часопіс, які, на мой погляд, аказвае метадычную падтрымку бібліятэкарам, папулярызуе даты беларускага календара, розныя падзеі. Хаця і там і там вопыт працы дзіцячых бібліятэк адлюстроўваецца.

Мы звяртаем увагу на праблемы, імкнёмся супольна іх вырашаць. Менавіта палемічныя рубрыкі выносіцца намі і на тытульны ліст. Вось, да прыкладу, на вокладцы аднаго з нумароў назва артыкула: "Замкнёнае кола альбо рух па спіралі?". Гэта досыць палемічныя нататкі загадчыцы навукова-даследчага аддзела бібліятэказнаўства НББ Марыны Пшыбыткі, якія адлюстроўваюць усе праблемы, звязаныя з бібліятэчнай статыстыкай.



Фота Кастуся Дробава

Калі мы зірнём на першы нумар гэтага года, то ўбачым артыкул Таццяны Ерохі "Иного нет у нас пути". Між іншым, часопіс двухмоўны: мы друкуем артыкулы і па-руску, і па-беларуску. Рэзюмэ часопіса таксама робім на англійскай мове, і дзякуючы гэтаму да нас далучаецца аўдыторыя шэрагу ўстаноў у замежных краінах.

**— Дарэчы, ці актыўна чытаюць "Бібліятэчны свет" па-за межамі Беларусі? Ці ёсць такая магчымасць?**

— Што датычыць замежнага вопыту: калі не ў кожным нумары, то праз нумар мы расказваем пра тую ці іншую замеж-

> *"Задумвалі часопіс, бо не было нашага асобнага спецыялізаванага выдання. Мы зайздросцілі і Расіі, і іншым краінам. Першапачаткова заснаваны Беларускай бібліятэчнай асацыяцыяй (ББА), "Бібліятэчны свет" аб'яднаў нас, тых, хто стварaў часопіс. Усе тыя людзі маюць дачыненне да бібліятэчнай справы і сёння.*

ную бібліятэку, друкуем артыкулы, якія паказваюць нешта з замежнага вопыту. І з года ў год папулярнасць часопіса ўзрастае, на яго старонках друкуюцца не толькі беларускія спецыялісты, але і мэтры бібліятэчнай справы з Расійскай Федэрацыі, Казахстана, Германіі, Польшчы, ЗША. (Такія, як У. Фірсаў, Н. Ігумнава, Р. Бердзігаліева…)

Цяпер мы вядзём гаворку з расійскімі цэнтрамі, якія складаюць каталогі па перыядычным друку. Яны зрабілі нам прапанову заключыць з імі дамову і пастаўляць у Расію электронную версію нашага часопіса.

Вельмі цікавіцца часопісам Украіна. Спадзяёмся дамовіцца, у прыватнасці, з Нацыянальнай бібліятэкай імя Вернадскага, якая будзе распаўсюджваць наш часопіс, і мы такім чынам умацуем нашы сувязі.

**— Вернемся да мінулага, першага нумара 1996 года, які цяпер красуе на вашым рабочым стале. Ён ужо таксама стаў гісторыяй і знаходзіцца цяпер у фондах Нацыянальнай бібліятэкі. Вы былі сярод тых, хто распачынаў выданне. Якім жа задумваўся часопіс, як змянялася яго канцэпцыя цягам гадоў?**

*Людміла Генадзьеўна ўглядаецца ў здымак на вокладцы першага нумара часопіса 1996 года. На ім — пяць постацей… І пакрысе аднаўляе ў памяці тыя падзеі…*

— Так, задумвалі часопіс, бо не было нашага асобнага спецыялізаванага выдання. Мы зайздросцілі і Расіі, і іншым краінам. Першапачаткова заснаваны Беларускай бібліятэчнай асацыяцыяй (ББА), ён аб'яднаў нас, тых, хто стварaў часопіс. Усе тыя людзі маюць дачыненне да бібліятэчнай справы і сёння. У той час загадчык аддзела навукова-арганізацыйнай працы, цяпер дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі Наталля Бярозкіна была нашым першым галоўным рэдактарам, а я — намеснікам галоўнага рэдактара, членамі рэдкалегіі былі Уладзімір Шышкін (як супрацоўнік Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, які вядзе пытанні бібліятэчнай справы і цяпер), Раіса Сухарукава — яна сёння ўзначальвае Рэспубліканскую навукова-тэхнічную бібліятэку, Раман Матульскі, які ў той час быў дэканам бібліятэчнага факультэта Мінскага інстытута культуры. Мы спрачаліся: якім жа часопіс павінен быць? Якая павінна быць назва? Між іншым, назва "Бібліятэчны свет" нам усім вельмі спадабалася, і яна з нашай лёгкай рукі захоўваецца і па сённяшні дзень. Мы задумвалі, што будзем адлюстроўваць усё жыццё, што афіцыйна датычыць бібліятэчнай справы. Тады, як і цяпер, прымаўся шэраг важных рашэнняў на дзяржаўным узроўні, якія закраналі дзейнасць бібліятэк. З удзелам Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі мы далучыліся да стварэння Закона аб бібліятэчнай справе. Усе сябры рэдакцыйнай калегіі працавалі ў адной рабочай групе, якая займалася першай яго рэдакцыяй. Зразумела, працавалі не толькі мы, а і юрысты, парламентарыі.

На першай старонцы тады надрукавалі канцэпцыю выдання. Я хацела б аддаць даніну павагі першаму нашаму выдаўцу, бо вельмі цяжка было знайсці паліграфічную базу, каб часопіс адбыўся і не быў дарагім. Дык вось, першы наш выдавец — таварыства з абмежаванай адказнасцю "Красіка-Прынт". І калі нам цяпер пятнаццаць гадоў, то чатырнаццаць з іх мы існавалі дзякуючы падтрымцы гэтай структуры. Узначальвае яе Анатоль Кумачоў, вельмі паважаны чалавек у бібліятэчным асяродку. Апошнім часам "Бібліятэчны свет" стаў выходзіць на выдавецкай і паліграфічнай базе НББ.

**— Розныя перыядычныя выданні па-рознаму выбіраюць свае шляхі да чытача. Хтосьці распаўсюджваецца па падпісцы, іншыя спадзяюцца на рэалізацыю праз "Белсаюздрук"… Як вы вызначылі для сябе той аптымальны варыянт, каб існаваць у гэтым свеце?**

— Бясспрэчна, для прафесійнага часопіса, які займае спецыялізаваную нішу, патрэбна падпіска. Дарэчы, на сёння рэдакцыя якраз і працуе за кошт даходаў ад падпіскі. І часопіс пакуль што эканамічна сябе акупляе. Чатырнаццаць гадоў мы мелі перыядычнасць чатыры нумары ў год, у 2011-м павялічылі колькасць нумароў да шасці ў год. Такім чынам нашы спецыялісты атрымалі магчымасць знаёміцца з падзеямі ў бібліятэчным свеце кожныя два месяцы. Маем задуму зрабіць яшчэ дадатак — ці ў электронным выглядзе, ці ў друкаваным.

**— Прыўзніміце заслону: хто стварае "Бібліятэчны свет"?**

— Такіх супрацоўнікаў шмат і ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — вы ведаеце, што мы цалкам аўтаматызаваныя, у нас паліграфічная база ўся лічбавая. Такіх актыўных аўтараў і ў Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі шмат. Да таго ж існуе рэдакцыйная рада. У яе складзе — дырэктары абласных бібліятэк краіны, у ёй жа — прадстаўнікі заснавальнікаў: намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, старшыня Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі Наталля Чуева. Рэдакцыя створана ў адпаведнасці з заканадаўствам. А абмяркоўваем усе матэрыялы нумара, выкарыстоўваючы электронныя сродкі.

**— Людміла Генадзьеўна, верасень для бібліятэк — месяц, так бы мовіць, рэнесансу. Тут, пачынаючы ад Дня беларускага пісьменства, да якога бібліятэкі маюць непасрэднае дачыненне, святкуецца таксама Дзень бібліятэк, дзень нараджэння Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, на гэты час прыпадае дзень нараджэння часопіса "Бібліятэчны свет". Такая канцэнтрацыя свят у адзін месяц была прадвызначана?**

— Тое, што ёсць такое свята — Дзень бібліятэк — сведчыць пра ўвагу дзяржавы да працы бібліятэкараў, чые прафесіяналізм, вопыт, самааддача, творчая энергія і вернасць свайму прызванню выклікаюць бязмерную павагу. Дарэчы, гэта не дзень бібліятэкараў, а менавіта Дзень бібліятэк. Не пабудоў, не памяшканняў, а бібліятэк як сацыякультурных устаноў. Мы аналізавалі наш гістарычны каляндар: да каго з асоб звярнуцца ў нашай гісторыі? Францыска Скарыны? Еўфрасінні Полацкай? Ці прымеркаваць свята да юбілею бібліятэкі, якая з'яўляецца ў краіне больш важкай? Такі вопыт існуе і ў іншых дзяржавах, дзе прафесійнае свята адлюстроўвае дзень нараджэння адной з самых буйных бібліятэк. І мы пайшлі такім шляхам. Прымеркавалі свята да дня нараджэння Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Дарэчы, вельмі блізка, у кастрычніку — дзень нараджэння Фундаментальнай бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ёй у гэтым годзе будзе 90. Таму так і вызначыліся: Дзень нараджэння Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Дзень бібліятэк святкуюцца разам.

# Як са ста бібліятэк зрабілі адну

Алесь СУША,
фота аўтара

**Мала хто з беларусаў не ведае пра Львоў — горад цудоўнай архітэктуры, багатага культурнага жыцця, адзін з цэнтраў украінскага нацыянальнага руху, дзе нарадзіліся альбо працавалі Іван Фёдараў, Іван Франко, Міхаіл Грушэўскі, Марцін Бубер, Станіслаў Лем. У той жа час нямногія здагадваюцца, як многа агульнага гэты горад мае з беларускай культурай, як многа айчынных культурных помнікаў захоўваецца ў львоўскіх зборах. Калі кажуць пра культурную спадчыну Беларусі ў замежжы, то найчасцей прыгадваюць калекцыі бібліятэк, архіваў і музеяў Вільні, Пецярбурга, Масквы, Варшавы, радзей — Кракава, Кіева, Чарнігава, Лондана, Нью-Ёрка і іншых далёкіх і блізкіх гарадоў. Львоўскія ж зборы ўсё яшчэ застаюцца малавядомымі нашым суайчыннікам.**

Найлепшай калекцыяй кніжных помнікаў у горадзе валодае Львоўская нацыянальная навуковая бібліятэка імя В. Стэфаніка. Яна зусім нядаўна, але абсалютна заслужана, атрымала статус нацыянальнай: і яе зборы, і функцыі, і шырыня чытацкай аўдыторыі, і ўзровень навукова-даследчай працы супрацоўнікаў сведчаць пра адпаведнасць атрыманаму статусу.

У сваім сучасным выглядзе бібліятэка была заснавана не так даўно — у 1940 г. у выніку аб'яднання ў адзіную структуру нацыяналізаваных Савецкай уладай больш як ста дзяржаўных, прыватных, грамадскіх і царкоўных бібліятэчных збораў Львова і сумежных зямель. Сярод тых збораў найбольшымі і найбагацейшымі былі калекцыі Навуковага таварыства імя Шаўчэнкі, Народнага дома, Нацыянальнага інстытута імя Асалінскіх, Таварыства "Асвета", Львоўскага Стаўрапігійнага брацтва і інш.

Бібліятэка працягвала папаўняцца і ў пасляваенны час і на сёння налічвае ў сваіх зборах больш як 8 мільёнаў адзінак захоўвання, у тым ліку найбольшы ў свеце збор украінскага нацыянальнага дакумента. Сярод самых каштоўных матэрыялаў — рукапісныя помнікі XI — пачатку XX ст., архіўныя дакументы XVIII—XX стст., украінская і іншамоўная перыёдыка XIX — першай паловы XX ст. (больш як 3 мільёны), унікальныя калекцыі інкунабул (50), палеатыпаў (больш як 800), старадрукаў (каля 120 тысяч) і картаграфічных выданняў XVI—XVIII стст. (больш як 22 тысячы). Цікава адзначыць, што з усіх украінскіх бібліятэк толькі Львоўская нацыянальная валодае багатай калекцыяй твораў украінскага і сусветнага мастацтва (гравюры, скульптура, малюнкі, акварэлі, працы гуашшу, фатаграфіі), а таксама найбольшымі ў краіне зборамі нотных твораў (378 тысяч адзінак). У 2001 г. рашэннем Кабінета міністраў Украіны самым каштоўным зборам бібліятэкі (звыш 3 мільёнаў дакументаў) быў афіцыйна нададзены статус нацыянальнай спадчыны. Дарэчы, бібліятэка з 1989 г. мае статус навукова-даследчай установы і ўжо шмат зрабіла для вывучэння і папулярызацыі кніжнай спадчыны.

Менш вядомыя нашым суайчыннікам беларускія зборы Львоўскай нацыянальнай бібліятэкі. А між тым яны вызначаюцца вялікім багаццем і разнастайнасцю. Напрыклад, тут захоўваецца некалькі выданняў Францыска Скарыны (выдадзеныя ў Празе чатыры Кнігі Царстваў і Кніга прытчаў Саламона), а таксама рэдкія спісы з яго выданняў, якія былі створаны ў XVI—XVII стст. і сведчаць пра пашырэнне справы беларускага першадрукара пасля яго смерці. Сярод гэтых рукапісаў знаходзіцца частка вялікага зводу пражскіх выданняў Ф. Скарыны, перапісанага Дзмітрыем з Зенькава.

У аддзеле рукапісаў захоўваюцца таксама цікавыя літаратурныя і навуковыя творы нашых продкаў. Цікавасць, напрыклад, уяўляюць мемуары Еўлашоўскага, панегірык у гонар Альбрэхта Радзівіла 1592 г. з прысвячэннем і копіяй прывілея імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда I Мікалаю Радзівілу на графства Шклоўскае, спіс XIX ст. гербоўніка шляхты ВКЛ Альберта Каяловіча.

Нямала рукапісных помнікаў маюць відавочна рэлігійнае паходжанне. Вялікая іх колькасць да XIX ст. захоўвалася ў беларускіх уніяцкіх манастырах у Жыровічах, Барунах, Беразвеччы, Мінску, Супраслі і інш. Калі ж у 1839 г. на беларускіх землях царкоўная унія была ліквідавана, многія манахі скіраваліся ў суседнюю Галіцыю, якая знаходзілася пад кантролем Аўстра-Венгрыі і дзе ўніяцкая царква працягвала сваё існаванне. Сталіцай Галіцыі быў горад Львоў. Таму нядзіўна, што ў самай буйной бібліятэцы гэтага горада мы сёння знаходзім такую вялікую колькасць беларускіх кніжных помнікаў: тры тамы апісанняў цудаў, што адбываліся ля Жыровіцкага цудатворнага абраза Божай Маці, навуковыя і рэлігійныя працы базыльян І. Кульчынскага, Б. Трулевіча, Я. Дубянецкага, І. Пяткевіча, Дз. Занкевіча і іншых, зборнікі правіл Святога Васіля Вялікага для манахаў, зборнікі рэлігійных медытацый і павучанняў, катэхізісы і малітоўнікі, рукапісныя копіі вядомых выданняў.

Сярод старадрукаваных кніг у зборах Львоўскай нацыянальнай бібліятэкі можна знайсці ўнікальныя беларускія рэфармацыйныя выданні другой паловы XVI — пачатку XVII ст., шматлікія кірылічныя і польскамоўныя выданні беларускіх друкарань. Можна прывесці і канкрэтныя прыклады: заблудаўскае Евангелле вучыцельнае 1569 г., Біблія ў перакладзе С. Будната, М. Кавячынскага, Л. Крышкоўскага (Нясвіж, Узда[?], 1572), Евангелле Пятра Мсціслаўца 1575 г., вядомая праца Андрэя Маджэўскага "O poprawie Rzeczypospolitey" (Лоск, 1577 г., пераклад К. Базіліка), мамоніцкія выданні Статута ВКЛ 1588 і 1619 гг., асветніцкія працы і палемічныя творы (у тым ліку вядомыя сачыненні Мялеція Смятрыцкага, Стэфана Зізанія і Лявонція Карповіча, якіх сёння няма ў Беларусі), куцеінскі Лексікон Памвы Бярынды 1653 г. і інш. Некаторыя выданні вядомы толькі ў адным экзэмпляры.

Нямала ў калекцыях львоўскай бібліятэкі і архіўных дакументаў. Сярод іх — калекцыі дакументаў вядомых беларускіх родаў Астрожскіх, Сапегаў, Храптовічаў, рэестр грамадзян Смаленскага ваяводства 1648 г., архіў нясвіжскага бернардынскага канвента XVII ст., сумарыуш галоўных кніг Трыбунала ВКЛ 1662 г., тарыфы ВКЛ 1667 г., тастамент Цяпінскага 1664 г. і шмат іншага.

Яшчэ падчас Другой сусветнай вайны многія скарбы бібліятэкі былі страчаны (як арыгіналы гравюр А. Дзюрэра) альбо вывезены за мяжу (толькі ў 1944 г. у Кракаў былі вывезены ўнікальныя зборы рукапісаў, старадрукаў, 300 інкунабул і больш як 2 тысячы мастацкіх твораў). Пасля вайны каля 70 працэнтаў каштоўных калекцый Львоўскай бібліятэкі было перададзена ў Польшчу. Аднак сёння Львоўская нацыянальная навуковая бібліятэка актыўна праводзіць пошукі, займаецца выяўленнем, апісаннем і даследаваннем унікальнай кніжнай спадчыны, атрымлівае лічбавыя копіі найбольш значных помнікаў з-за мяжы (многія з якіх, дарэчы, маюць беларускае паходжанне), на парытэтных умовах перадае копіі выданняў і рукапісаў з уласных збораў сваім замежным партнёрам. Вось дзе прыклад уважлівага стаўлення, руплівага захавання як нацыянальнай культурнай спадчыны, так і спадчыны іншых народаў.


VARIARVM LVCVBRATIONVM
TOMVS TERTIVS VII,
CLAVDENS IN SE D:7
PHILOSOPHIAM NATURALEM
SEU PHYSICAM
DVOBVS LIBRIS
EXPLANATAM
AVTHORE
A. R. P. Ignatio Kulczynski
Ordinis D. Basilij M. S. Theologiae et Phil. Doctore
A. D.
MDCCXXIII.

*На здымку: тытульны аркуш філасофскага трактата "першага даследчыка беларускіх старажытнасцей" Ігната Кульчынскага з дарчым надпісам аўтара Жыровіцкаму манастыру.*

Мікола МІРШЧЫНА

# «Меншасць у мастацтве», ці «Адзіноцтва Шагала»

**Магчыма, кнігі, падобныя адмысловай хрэстаматыі, укладзенай вядомым гісторыкам Віцебшчыны Валерыем Шышанавым, выходзілі і раней. Але ці вельмі даўно і абмежаваным накладам, ці — далёка за межамі Беларусі. На крайні выпадак, сустрэча з кнігай "Выяўленчае мастацтва Віцебска 1918—1923 гг. у мясцовым перыядычным друку" (Мінск, "Медисонт", 2010) асабіста для мяне стала сапраўдным адкрыццём.**

І хаця ў выходных дадзеных пазначана, што зборнік з'яўляецца бібліяграфічным паказальнікам з публікацыяй тэкстаў, кніга дзякуючы менавіта публікацыі газетных артыкулаў выходзіць за межы адно толькі паказальніка. У прадмове "Ад укладальніка" В. Шышанаў такім чынам вызначае задачы выдання: "Культурнае жыццё Віцебска першых паслярэвалюцыйных гадоў невыпадкова прыцягвае ўвагу даследчыкаў. Для многіх выдатных мастакоў, музыкантаў, філосафаў, літаратараў, артыстаў знаходжанне ў горадзе сталася яркай, значнай старонкай у біяграфіі.

Публікацыі ў мясцовым перыядычным друку поруч з перапіскай, успамінамі, архіўнымі дакументамі з'яўляюцца найважнейшымі крыніцамі, якія дазваляюць раскрыць падзейны рад "віцебскага рэнесанса".

Пазначаныя храналагічныя рамкі (1918—1923) дастаткова дакладна супадаюць з першымі сімптомамі актывізацыі культурнага жыцця, адлюстраваннем яго ў перыядычным друку і паступовым затуханнем і трансфармацыяй на працягу 1922—1923 гадоў. Так, з пачаткам 1924 года ў віцебскіх "Известиях" рэзка скарачаецца колькасць публікацый, якія асвятляюць падзеі ў сферы мастацтва. Адбываюцца і важнейшыя адміністрацыйна-палітычныя, а з імі і культурна-сацыяльныя пераабсталяванні — 10 сакавіка 1924 года большая частка тэрыторыі Віцебскай губерні ўваходзіць у якасці Віцебскай акругі ў склад БССР".

Укладальнік правёў літаральна тытанічную работу. Прагледжаны наступныя выданні: "Витебский листок" (штодзённая прыватная газета, выдавалася з 21 студзеня (3 студзеня) 1916 па 12 ліпеня 1919 года); "Известия Витебского губернского исполнительного комитета советов ученических депутатов" (штотыднёвая газета, выдавалася з лютага па чэрвень 1919 г.), з чэрвеня па жнівень — штотыднёвік "часопіснага тыпу" "Школа и революция"; "Вечерняя газета" (выданне Саюза журналістаў, выходзіла ў верасні — лістападзе 1921 г.); часопіс "Искусство" (выходзіў у сакавіку — маі 1921 г.); газета "Отклики" (выданне секцыі журналістаў і паліграфпрама, выходзіла ў маі — верасні 1922 г.). Асноўны масіў публікацый — з газеты "Известия Военно-революционного комитета города Витебска" (сённяшні "Віцебскі рабочы").

Уявіце сабе, што перад вамі — нумар "Витебского листка" за 7 снежня 1918 года. На другой-трэцяй старонках — артыкул Г. Грыліна "Права на адзіноту". У падзагалоўку: "Да сённяшняга даклада Марка Шагала". Забягаючы наперад, працытуем "Пісьмо ў рэдакцыю" самога Марка Шагала (з "Витебского листка" за 9 снежня): "Таварыш рэдактар! Дазвольце заявіць на старонках Вашай газеты, што дыспут-даклад у акругowым судзе 7 снежня па непрадугледжаных абставінах і не па маёй віне адбыцца не мог". А за два дні да гэтай інфармацыі вось пра што разважае Г. Грылін на старонках "Витебского листка": "Таленавіты мастак Марк Шагал рашыўся, нарэшце, не толькі свае творы, але і свае погляды на мастацтва прадставіць на суд грамадства, і сёння ён чытае публічны даклад на тэму "Меншасць у мастацтве", з абмеркаваннем.

Цяжка і душна жыць чуйнаму мастаку ў атмасферы нашай паўсядзённай будзённшчыны, сярод грубых і пахабных густаў мяшчанства.

Але яшчэ цяжэй жыць сярод нас Марку Шагалу, яшчэ недастаткова прынятаму і ўсвядомленаму знатакамі жывапісу, крытыкамі яго.

Вузкае і грубае мяшчанства патрабуе ад мастака "душы нарасхрыст", арыфметычнай выкладкі яго твораў, яно не прымае сфінксаў і ўсё тое, што падаецца яму незразумелым, яно лічыць абсурдным, няварты фіглярствам.

<...>

Сёння Марк Шагал выкладае свае погляды на мастацтва, сёння ён кідае пальчатку нашаму віцебскаму "грамадству", сваёй радзіме, любоўю да якой прасякнута большасць яго мастацкіх твораў.

Марк Шагал чытае пра "меншасць у мастацтве". Але па сутнасці тут размова ідзе не пра меншасць, а пра "адзіноцтва" у мастацтве.

Марк Шагал сапраўды адзінокі, акружаны грубымі, нахабнымі густамі і цемрашальствам. Гэта — трагедыя душы мастака".

Кніга, укладзеная В. Шышанавым, — унікальная па сваёй шырыні ілюстрацыя пра мастацкае жыццё ў Віцебску на працягу першых пяці паслярэвалюцыйных гадоў. А яшчэ — добрая падказка даследчыкам не толькі ў галіне гісторыі культуры, але і тым, хто вывучае гісторыю айчыннай перыёдыкі.

## Першы крок

**Чытанне прыходзіцца да душы ў розныя часіны. Нават калі, здаецца, наваколле да цябе не зусім спрыяльнае. Але мастацкае слова на тое і высокае, што адгукаецца і на радасць, і на боль. І дае чалавеку душэўныя сілы. Можа, зыходзячы з гэтага хтосьці даўно ўжо прыкмеціў: бібліятэкі — лекі для душы. Менавіта там — канцэнтрацыя чалавечага жыцця. Сёння пра сваю першую бібліятэку распавядае старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай ЧАРГІНЕЦ:**



# Для душы і сэрца

— Я вучыўся ў трынаццатай сярэдняй мінскай мужчынскай школе. Яна знаходзілася па цяперашняй вуліцы Якуба Коласа, раней гэта быў Лагойскі тракт. Цяпер школа знесеная, на яе месцы стаіць высачэзны дом. Але побач захаваўся другі корпус гэтага двухпавярховага будынка, дзе частка памяшкання ішла пад жыллё настаўнікам — пасля вайны яны радаваліся любому прытулку, — а частку займала школа. Бібліятэка ў ёй была слабенькая, гэта натуральна: час быў пасляваенны. Па многія кніжкі літаральна запісваліся ў чаргу. Магчыма, гэта было нават і цікавей, чым цяпер, калі дзейнічае прынцып "выбірай што хочаш", і ад гэтага часам губляешся. А мы нават кнігі чыталі з задавальненнем, вершы — таксама.

Пасля запісаўся ў гарадскую бібліятэку. Любіў аповесць "Міколка-паравоз" Міхася Лынькова, уже добра вядомую ў тыя гады "Дрыгву" Якуба Коласа, дзе цэнтральны вобраз — беларускі селянін дзед Талаш. Ды больш цікавіўся кнігамі пра вайну. Вершы запаміналіся лёгка: Купалы і Коласа, іншых аўтараў. У нас тады школа была рускамоўная, беларуская і нямецкая мовы выкладаліся на роўных, па два ўрокі на тыдзень. Нямецкую я ненавідзеў, лічыў мовай акупантаў — на іх наглядзеўся за час вайны, памяць працавала добра. Але вучыў... Дзіўная справа: прайшлі гады, і я цяпер, калі бываю ў Нямеччыне, магу паразумецца з чалавекам менавіта на базе ведаў з той школы (а я сем класаў закончыў, пасля ў вячэрнюю школу пайшоў). І за тыя сем класаў, не жадаючы вучыць, засвоіў-такі нямала: нешта магу сказаць стрэчнаму і зразумець, што мне гаворань.

Цяпер на бібліятэку гляджу вачамі чалавека, які хацеў бы, каб людзі больш чыталі. У гэтым сэнсе для мяне галоўная задача бібліятэкі — прыцягнуць увагу як мага большай колькасці чытачоў да кніг беларускіх пісьменнікаў і каб чытачы больш знаёміліся з творцамі.

У мяне самога дома бібліятэка ў некалькі тысяч тамоў. Спачатку фарміраваў яе з таго, што можна было дастаць — хоць і выдаваліся кнігі вялікімі тыражамі, але набыць іх удавалася не заўсёды. Хаця мне было лягчэй падпісацца на выданні, не трэба было здаваць макулатуру, як рабіла гэта большасць кнігаманаў. Варта ўспомніць: тады да пісьменнікаў былі асобыя адносіны — нам давалі магчымасць атрымліваць падпіску. Я быў замацаваны за цэнтральнай кнігарняй "Падпісныя выданні", што размяшчалася па праспекце Леніна, дахаты прыходзіла паведамленне: прыйшла падпіска на Чэхава, Пушкіна, Дастаеўскага... Збіраць падпісныя выданні лічылася модным, прэстыжным, гэта быў паказчык тваёй культуры, начытанасці і нават дастатку. Калі ў мяне з'явіліся першыя грошы, стабільная зарплата, я і набываў кнігі. Помню, Бяляева хацеў усяго перачытаць. Люблю Дастаеўскага і Ясеніна.

# Падарунак з Масквы — удзячнасць за супрацоўніцтва




**Фонд Магілёўскай абласной бібліятэкі папоўніўся ўнікальным выданнем "Каталог духовно-музыкальных сочинений, изданных фирмой П. Юргенсона в Москве в 1874 — 1918 годах" (редактор А. А. Наумова. — Москва: Фонд развития музыкальной культуры "Живоносный источник", 2011). Калектыў маскоўскага выдавецтва "Живоносный источник" перадаў яго супрацоўнікам аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры ў знак удзячнасці за дапамогу, якую аказалі бібліятэкары-краязнаўцы ў пошуку і ўдакладненні звестак для Каталога.**

**Тамара КАЛІНІНА,**
**загадчыца аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

Нотавыдавецкая справа і гандаль нотамі з'яўляліся часткай гістарычнай панарамы музычнага жыцця Расійскай імперыі другой паловы XIX — пачатку XX стст. Самым буйным нотавыдавецтвам гэтага перыяду, якое дынамічна развівалася, была фірма Пятра Іванавіча Юргенсона, у свой час прызнаная адной з лепшых у свеце. Галоўны станоўчы вынік яе працы — стварэнне новых галін музычных выданняў, сярод якіх асаблівая цікавасць праяўлялася да рускай духоўнай музыкі як самай малавывучанай галіны музычнай культуры. Юргенсон стаў першым — і адзіным — рускім выдаўцом, які рэгулярна і ў вялікай колькасці выдаваў праваслаўную літаратуру — як старую, так і новую, у чым яго заслуга перад рускай музычнай культурай.

Распачатае выданне з'яўляецца ўзнаўленнем Каталога 1915 года і выданняў духоўна-музычных твораў за наступныя чатыры гады (да 1918-га) у некалькі адноленым выглядзе з дапаўненнямі і ўдакладненнямі, суправаджаецца рэдкімі фотадакументамі таго перыяду.

Сярод аўтараў духоўных твораў, якія ўлічаны ў Каталозе, ёсць ураджэнцы Беларусі. У прыватнасці, Канстанцін Мякіннікаў, аўтар двух музычных твораў, настаўнік царкоўных спеваў Магілёўскага мужчынскага духоўнага вучылішча. Інфармацыю пра яго нашы супрацоўнікі знайшлі ў "Памятных книжках Могилёвской губернии…" за 1914 і 1916 гг., дзе адзначана, што ён выхадзец з мяшчанскага саслоўя, навучаўся ў Прыдворнай пеўчай капэле, быў рэгентам II разраду, затым калежскім сакратаром, у 1916 г. знаходзіўся ў дзеючай арміі.

Выданне будзе карысным для выкладчыкаў і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, для гісторыкаў, краязнаўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй музычнай культуры.

Пазнаёміцца з Каталогам можна ў аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна.

## Зачытаныя кнігі

### Рэйтынг найбольш папулярных твораў сярод чытачоў Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі

**Чытальная зала**
**Кнігі беларускіх выдавецтваў**

1. Гродзеншчына: назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў. — Мінск: Беларусь, 1999.
2. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыклапедычны даведнік / Беларуская энцыклапедыя; гал. рэд. "Беларус. Энцыкл." Б. І. Сачанка [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 1995.
3. Туристическая энциклопедия Беларуси / редкол.: Г. П. Пашков [и др.]; под общ. ред. И. И. Пирожкина. — Минск: БелЭн, 2007.
4. Вишневский, А. Ф. Общая теория государства и права: курс лекций / А. Ф. Вишневский, Н. А. Горбаток, В. А. Кушинский; под общ. ред. А. Ф. Вишневского. — Минск: Тесет, 1998.
5. Стражева, Н. С. Бухгалтерский учёт: учеб.-метод. пособие / Н. С. Стражева, А. В. Стражев. — Минск: Современная школа, 2008.

**Абанемент**
**Кнігі беларускіх выдавецтваў**

1. Брава, А. Каменданцкі час для ластавак: аповесці, апавяданні / А. В. Брава. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2004.
2. Ліпскі, У. Мама. Малітва сына / У. Ліпскі. — Мінск: Нёман, 1999.
3. Татарынаў, Ю. А. Княгіня Мянжынская: трылогія / Юрый Татарынаў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2005.
4. Наварыч, А. Літоўскі воўк: гістарычны раман / Алесь Наварыч. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2005.
5. Бутэвіч, А. І. Каралева не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Навагрудку: займальны аповед пра каханне 17-гадовай беларускай князёўны Соф'і Гальшанскай і 70-гадовага караля польскага Ягайлы: раман / Анатоль Бутэвіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.

**Кнігі расійскіх выдавецтваў**
**Замежныя аўтары**

1. Стил, Д. Только раз в жизни: роман / Д. Стил. — Смоленск: Русич, 1993.
2. Бах, Р. Джонатан Ливингстон. Иллюзии / Ричард Бах. — Санкт-Петербург, 2004.
3. Браун, Д. Код да Винчи: роман / Дэн Браун; пер. с англ. Н. В. Рейн. — Москва: АСТ, 2005.
4. Вербер, Б. Танатонавты: роман / Бернард Вербер; пер. с фр. А. М. Григорьева. — Москва: АСТ, 2007.
5. Вишневский, Я. Одиночество в сети / Я. Вишневский. — Санкт-Петербург, "София", 2008.

**Расійскія аўтары**

1. Веллер, М. Приключения майора Звягина / М. Веллер. — Москва: ВЕЧЕ, 1993.
2. Вильмонт, Е. Н. Крутая дамочка, или Нежнее, чем польская панна: роман / Е. Н. Вильмонт. — Москва: Эксмо, 2008.
3. Донцова, Д. Экстрим на сером волке: роман / Дарья Донцова. — Москва: Эксмо, 2004.
4. Корсакова, Т. Дом у чёртова озера: роман / Татьяна Корсакова. — Москва: Эксмо, 2009.
5. Шилова, Ю. В. Хочу богатого, или Кто не спрятался, я не виновата! / Юлия Шилова. — Москва: Эксмо, 2007.

**Аддзел абслугоўвання дзіцячага чытача**
**Кнігі беларускіх выдавецтваў**

1. Аўласенка, Г. Вася Лайдачкін у краіне Шкодных Звычак / Г. Аўласенка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2009.
2. Масла, А. Вандроўка з божымі кароўкамі / А. Масла. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2007.
3. Місько, П. Прыгоды бульбобаў / П. Місько. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2007.
4. Караткевіч, У. Чортаў скарб: казкі / У. Караткевіч. — Мінск: Юнацтва, 1995.
5. Хвалей, Я. Прынцэса з тусоўкі / Я. Хвалей. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2008.

**Кнігі расійскіх аўтараў**

1. Драгунский, В. Ю. Весёлые истории: рассказы / В. Ю. Драгунский. — Москва: АСТ, 2007.
2. Иванов, А. Загадка пропавшего соседа: роман / А. Иванов, А. Устинова. — Москва: Астрель, 2000.
3. Носов, Н. Витя Малеев в школе и дома: повесть / Н. Носов. — Москва: Стрекоза-Пресс, 2003.
4. Сёстры Воробей. Три дня без Веры: роман / Сёстры Воробей. — Москва: РОСМЭН, 2000.
5. Успенский, Э. Зима в Простоквашино и другие истории: повести-сказки / Э. Успенский. — Москва: Стронон, 2004.

# І чуем голас мы паэта

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Адну са сваіх кніг Рыгор Сакалоўскі назваў "Пачуй мой голас". Цяпер, калі Рыгора Васільевіча няма з намі, такая назва набывае сімвалічны сэнс. Перачытваючы гэтую кнігу, дый іншыя ягоныя паэтычныя зборнікі таксама, — балазе, працаваў ён плённа, часта друкаваўся, нібыта чуеш голас самога паэта, услухоўваешся ў яго споведзь. Так, у споведзь, а не проста ў напісанае, бо Р. Сакалоўскі не столькі пісаў свае творы, колькі прамаўляў іх. Так прамаўляў, як робіць гэта чалавек, які, знаходзячыся ў коле сяброў, хоча падзяліцца з тымі, хто поруч з ім, тым, што ў яго на душы, што хвалюе і непакоіць.**



Чытачы ж для Рыгора Васільевіча і былі такімі шчырымі сябрамі, таму і хацелася выказацца перад імі. А сказаць было пра што, бо ён з'яўляўся журналістам-дэсантнікам знакамітай Віцебскай дэсантнай дывізіі, якая ў снежні 1979 года першай увайшла ў Кабул. Знаходзячыся ў Афганістане, часта рызыкаваў сваім жыццём, неадночы трапляючы пад кулі. Дый адтуль, з Афгана, вярнуўся з цяжкай хваробай, ад якой потым і вылечыўся, але яна, мабыць, проста сцішылася, каб праз шмат гадоў даць пра сябе знаць, таму так нечакана, раптоўна і пайшоў з жыцця. Як баец, які, знаходзячыся на перадавой, заспеты варожай куляй, не паспеў развітацца з блізкімі і роднымі, з сябрамі. Дый праца журналістам у Беларусі, рэдагаванне газеты "Во славу Родины" (цяперашняя "Белорусская военная газета") таксама давала шмат уражанняў.

Тым не менш Р. Сакалоўскі з гадамі ўсё часцей вяртаўся ў сваё маленства.

Чым болей жыў на свеце, тым часцей тое даўняе як бы матэрыялізавалася ў прачулых паэтычных радках, з якіх нараджаліся запамінальныя творы, са старонак якіх лірычны герой раскрываў сваю душу. Інакш і быць не магло, бо гэта паэт расказваў пра самога сябе, дзяліўся сваімі пачуццямі і перажываннямі ўзнаўляў асобныя старонкі ўласнай памяці.

Як, для прыкладу, у дыпціху, названым проста і разам з тым дакладна — "Бацькоўскі край". Пісаў так, як пішацца, а пісалася як на адным дыханні, бо гэта была споведзь пра набалелае, што станавілася гэтаксама блізкім і дарагім кожнаму, каго лёс разлучыў з зямлёй маленства, але, яна, зямля гэтая, назаўсёды засталася ў ягонай памяці.

Быццам і простыя радкі, але якая ўнутраная напоўненасць у іх, якія багаты падтэкст, а за ім... За ім тое, што ва ўсёй паўнаце можна адчуць і зразумець толькі тады, калі і самому настроіцца на тую хвалю захаплення, якая сваёй цеплынёй і пяшчотай, быццам галубіным крылом, ахіліла паэта. Пад ім, гэтым крылом, ужо і табе ўсцешна і хораша, бо далучаючыся да маленства лірычнага героя, згадваеш і ўласнае дзяцінства — і самае ранняе, басаногае, і пазнейшае, калі станавіўся ўжо не проста сузіральнікам таго, што адбывалася наўкола, а і сам спрычыняўся да яго, яшчэ не разумеючы, дакладна не ўсвядамляючы, што паступова становішся дарослым.

Гэта сам Р. Сакалоўскі, хутчэй за ўсё, упершыню адчуў тады, калі, выйшаўшы з бацькам на сенажаць, рабіў свой першы пракос. Пра гэта — у вершы "Касавіца", які і прысвечаны ім памяці дарагога чалавека. Але спачатку гаворка не пра саму касавіцу, а пра падрыхтоўку да яе. Сказана так запамінальна, што ствараецца такое ўражанне, нібы сам прысутнічаеш пры гэтым. Дый не толькі прысутнічаеш, а і гатовы з бацькам і сынам таксама спяшацца на луг:

*Зори с отливом*
*Хрустальным,*
*Затемно прерванный*
*Сон,*
*Запах настоянный*
*Чайный...*
*Звякнул калитки*
*Засов.*
*Голос отца*
*Глуховатый,*
*В завороженной*
*Тиши,*
*Машет вдогонку*
*Нам хата —*
*На косовицу спешим...*

Туды, дзе "Росы укутали // Травы // Светлою майской // Каймой...", спяшаемся і мы разам з паэтам і адразу ж чуем ягоны голас, што гучыць падбадзёрваннем таму ранейшаму падлетку з далёкіх гадоў сваёй маладосці: "Что же, косарь // Моложавый, // Первый укос // За тобой!" А пасля гэтага ўжо сама касавіца ўваходзіць у тваю свядомасць. Ты ёю жывеш, але адначасова і жывеш у ёй, бо паэтычны радок настолькі насычаны гэтай непадробнай праўдзівасцю, што жыццядайны час летняй пары, без перабольшання, як бы пранізвае ўсяго цябе.

Верш "Касавіца" — па сутнасці трыпціх, хоць гэта самім аўтарам твора і не пазначана, бо складаецца ён з трох частак, якія ўзаемна дапаўняюць адна адну, спалучаючы памяць пра гады маленства і памяць пра бацьку, які пазней, калі лірычны герой пасталеў, пайшоў у вечнасць. Зноў жа пра гэты момант развітання з блізкім чалавекам сказана на дзіва пераканаўча.

Маленства Р. Сакалоўскага — гэта Украіна, зямля, што стала для яго назаўсёды блізкай, але гэткай жа блізкай была для яго і Беларусь. Таму невыпадкова адзін са сваіх вершаў ён так і назваў — "Дзве маці": "Под звездою // Украинский говор // В дали неоглядные // Зовет, // Беларуси // Искреннее слово // Также мне покоя // Не дает... // И спешу, // О камни спотыкаясь, // К тополино-светлым // Берегам... // Радуясь, влюбляясь, // Восхищаясь, // В ноги поклоняясь // Матерям!"

У кнізе Р. Сакалоўскага "Жменя надзеі і любві" ёсць верш "Напиши мне письмо...". Калі чытаеш яго цяпер, то ствараецца адчуванне, нібы сам паэт падае свой голас, звяртаецца да кожнага з нас адтуль, дзе пачынаецца вечнасць, часцінкай якой ён ужо стаў:

*Напиши мне письмо*
*На разливах пшеничного поля,*
*На зигзагах дорог,*
*Что куда-то бегут,*
*Напиши мне о том,*
*Что щемяще знакомо до боли,*
*Что забыть никогда,*
*Ни за что я уже не смогу.*
*Напиши мне о том,*
*Как заря воду пьет на рассвете,*
*Как горланит петух,*
*Предвещая желанных гостей,*
*Как в объятья внезапно*
*Берет взбудораженный ветер,*
*И как бродит душа*
*По уставшей немой темноте.*
*Напиши мне письмо...*

Пасля гэтых радкоў міжвольна згадваецца выказванне амерыканскага паэта, публіцыста Джона Уіт'ера: "Захавайце толькі памяць пра нас, і мы нічога не страцім, пайшоўшы з жыцця". Хоць, думаецца, да месца і іншае выказванне, што належыць французскаму лексікографу, складальніку ўсеагульнага слоўніка французскай мовы П'еру Буасту: "Калі вы жадаеце сабе несакрушальнага помніка, укладзіце сваю душу ў харошую кнігу". У Рыгора Васільевіча такіх харошых кніг некалькі.

---

Генадзь ПАШКОЎ

### Якім ты шляхам ходзіш, браце?

Памяці паэта Рыгора Сакалоўскага

*Сябры прыходзяць нечакана.*
*Што ўспамінаць — прыйшлі калі? —*
*Магчыма, як смылела рана,*
*Ці проста келіх узнялі?*

*Душа — душу...*
*Яны знаходзяць.*
*І мова простая адна.*
*Яна — як сонца*
*узыходзіць,*
*І як змяркаецца — яна.*

*...Няма... Нястала...*
*Больш не будзе*
*На ўсіх дарогах летаў-зім.*
*Прыходзяць дні і адыходзяць...*
*А ты, як быў, — заўсёды з ім.*

*Мой брат,*
*мой сябра,*
*мой паплечнік,*
*Дзе твой цяпер нязнаны шлях?*
*...Гляджу на неба,*
*а там свечкі*
*У Божых, зоравых, палях.*

---

З глыбінкі

## Зоркі Пухавіччыны

Пухавіцкая зямля багатая на пісьменнікаў ды літаратуразнаўцаў. Згадаць хаця б імёны Міхася Чарота, Захара Біралы, Алеся Бачылы, Макара Паслядовіча, Анатоля Вольнага...

Аддзел бібліятэчнага маркетынгу Пухавіцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі прапагандуе творчасць пісьменнікаў-землякоў у тым ліку і праз выпуск рэкамендацыйных паказальнікаў. Сёлета пабачыў свет паказальнік "Вольга Савасцюк".

Вольга Савасцюк нарадзілася ў 1963 годзе ў вёсцы Пухавічы. Скончыла сярэднюю школу, пасля — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Вершы пачала пісаць яшчэ ў дзяцінстве. Першыя публікацыі былі ў газеце "Піянер Беларусі" і часопісе "Бярозка". Цяпер Вольга Савасцюк — галоўны рэдактар раённай газеты "Пухавіцкія навіны". Кіруе работай раённага літаратурнага аб'яднання. У 2011 годзе за кнігу вершаў і апавяданняў "Палахлівы матылёк" адзначана Мінскай абласной літаратурнай прэміяй у намінацыі "Дзіцячая і юнацкая літаратура". Пра гэтыя і іншыя факты з жыцця і творчасці Вольгі Уладзіміраўны дапамагае даведацца бібліяграфічны паказальнік.

Раней пухавіцкія бібліятэкары выпусцілі даведнікі пра Браніслава Зубкоўскага, Анатоля Ярохіна, Алеся Бачылу, Захара Біралу і іншых пісьменнікаў-землякоў.

**Дар'я ШОЦІК,**
**Пухавіцкі раён**

## Родненскі «Багач»

Самадзейныя артысты вёскі Родня Клімавіцкага раёна — старшакласніцы мясцовай школы Ксенія Падабед, Лізавета Гарэлава, Аліна Вяткіна, Алена Белаштэнтава, Алена Якушава, Наталля Літвінава і работнікі сельскага Дома культуры С. Залясоўскі, В. Ігнацьева, В. Падабед — зрабілі вялікую працу па аднаўленні цікавага народнага свята "Багач", якое калісьці было папулярным у мясцовага насельніцтва. "Багач" адзначалі ў верасні, і супадаў ён са святам Ражства Багародзіцы.

Галоўную ролю ў абрадзе гэтага свята адыгрывала сявенка жыта з устаўленай у яе свечкай. Яе таксама называлі Багач. Жыта для Багача вымалочвалі з першага зажыначнага снапа. Багач стаяў на працягу ўсяго года ў хаце гаспадара, у чырвоным кутку, пад абразамі. У дзень свята запальвалася свечка. Запрашаўся святар для служэння малебну, які пачынаўся ў доме, дзе стаіць Багач. Пасля гаспадар следам за святаром нёс Багача ў суседні двор, дзе іх сустракалі за сталом, накрытым белым абрусам і ўстаўленым лубянкамі жыта, пшаніцы, канюшыны. Багач ставілі на гэты стол і служылі кароткі малебен. Пасля ўсе ўдзельнікі абраду запрашаліся ў дом для частавання, а Багач ставілі ў чырвоны кут. Падчас абраду спявалася шмат песень, у асноўным жніўных. На другі канец вёскі зганялі скаціну і пасля агляду ўсіх двароў абносілі Багача вакол статка. Кожны год пасля святкавання Багач мяняў "месца жыхарства", пераходзячы гэтак ад суседа да суседа. Людзі верылі, што ён прыносіў у дом, дзе застаецца, багацце і шчасце.

**Людміла АНДРУШКОВА,**
**Клімавіцкі раён**

---

Афарызм

*Душа чалавека, падобна як ален каля вод, шукае ісціну.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2848
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.09.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4438
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12